ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ



# ЛІТАРАТУРА МАСТАЦТВА

19 лістапада 1993г № 46 (3716) Кошт 30 руб.





*Шэрані засмужаныя пальцы*
*Сонца не сагрэе да пары,*
*Ды яшчэ умеем усміхацца:*
*Дух жыве не па календары!*

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

Кола дзён

***Увесь тыдзень не пакідала пачуццё, што вось-вось павінна адбыцца нешта важнае. Гэтак было ў тыя вераснёўскія дні 1991 года, калі дрогнула чырвоная сіла і нашы сцяг і герб сталі дзяржаўнымі.***

***І хоць цяпер штодзённыя газеты і такія ж палітыкі наперабой сцвярджаюць, прагназуюць, што на гэтай сесіі зноў нічога не адбудзецца, закрадваецца ў душу нейкі сумліў у гэтым і разам — надзея. На тое, што нашае бязладдзе і пераліванне з пустога ў парожняе не могуць доўжыцца бясконца.***

***Надзея памірае апошняй?..***

## МІНІ-СЕНСАЦЫЯ ТЫДНЯ

Як паведаміла «Звязда», пакуль дэпутаты на сесіі трэплюць адзін аднаму чубы і лысіны ў спрэчках уваходзіць ці не ў «рублёвую зону», прадстаўнікі нацыянальных банкаў і Саўмінаў Расіі і Беларусі падрыхтавалі праект аб аб'яднанні грашовых сістэм, згодна з якім, каб ім /валютам/ аб'яднацца, трэба спачатку раз'яднацца. А значыць, пытанне аб увядзенні на Беларусі нацыянальнай валюты практычна вырашана. Прыйдзе час і дэпутаты дружненька прагаласуюць за «свае» грошы...

## ГОРЫЧ ТЫДНЯ

Арменія аб'явіла, што ў другой палове лістапада ўвядзе нацыянальную валюту. Яна будзе называцца драм. Усе новыя незалежныя дзяржавы называюць свае грошы адметнымі, нацыянальнымі словамі — літ, лат, тэнье, грыўна, дукат, манат, сом... Адны мы будзем з «рубелямі». Бо надта ж не любіць дэпутацкая большасць і Саўмін «остронационалистическое название» — талер...

## АДМЕТНАСЦЬ ТЫДНЯ

Міністэрства транспарту і камунікацый Беларусі рыхтуе палажэнне аб дзяржаўным рэестры марскіх суднаў, які дазволіць рэгістраваць іх пад сцягам Рэспублікі Беларусь. Не прайшло і года, як прыгадалі чыноўнікі прапанову народнага дэпутата Алега Трусава, над якой да слёз смяяліся наменклатурныя выбраннікі ў Вярхоўным Савеце. Але час страчаны. Сёння пачынаць нам трэба з нуля. Наша доля ў Балтыйскім, Ціхаакіянскім, Чарнаморскім і іншых флатах адплыла да Расіі. Незваротна.

## АДПІСКА ТЫДНЯ

Нацыянальна-дэмакратычная партыя Беларусі атрымала адказ з Пракуратуры рэспублікі на свой зварот з патрабаваннем правесці расследаванне аб удзеле Саюза афіцэраў Беларусі ў падрыхтоўцы да кастрычніцкага мяцяжу ў Маскве. Як і трэба было чакаць, у лісце значыцца: «прычын для прыняцця мер пракурорскага нагляду» ў адносінах да Саюза афіцэраў — няма. Бо не накіроўваў ён у Маскву /значыць — не выпісваў камандзіровак/ тых грамадзян Беларусі, што загінулі ля Белага дома, і астатніх, што, пэўна ж, пабылі там на экскурсіі /ці на практычных занятках?/.

## НЕСПАДЗЕЎКА ТЫДНЯ

12 снежня ў Жодзінскай выбарчай акрузе N 87 пройдуць выбары народнага дэпутата ВС Беларусі. Кандыдатаў на гэтае ганаровае званне тры і сярод іх — Георгій Таразевіч, якому абрыдла «адседжвацца ў цёмным куце» /гэта ў МЗС, у рангу першага намесніка міністра/ і хочацца «выкарыстоўваць наяўную магчымасць уключыцца ў работу», бо ён мяркуе, што цяперашні Вярхоўны Савет наўрад ці прыме рашэнне аб датэрміновых выбарах. Што ж, праўду кажуць беларусы: паміраць збіраешся, а жыта сей...

## «ДАБРАЧЫННАСЦЬ» ТЫДНЯ

Леташняя сітуацыя, з «цаліннікамі», якіх урад выправіў на дапамогу братняй краіне ва ўборцы ўраджаю, паўтараецца: людзі не могуць атрымаць заробленыя грошы — ні ў Казахстане, ні дома /?/. Ці атрымае Беларусь заробленае зерне? Ці, можа, зноў праца нашых хлебаробаў стане дабрачыннай, а цэны — сусветнымі?...

## ПРАЦВЕРАЗЕННЕ ТЫДНЯ

Беларускія газавікі ў паніцы. Іх расійскія «партнёры» рыхтуюць пакет дакументаў па прыватызацыі буйнейшых кампаній «Газпром», «Юкос», «Сургутнафта» і іншых. «Белтрансгаз», як памятаеце, наш урад хацеў перадаць расійскаму «Газпрому» бязвыплатна за бесперабойныя пастаўкі газу. Расія ж у каторы раз паказала, што не лічыцца ні з якімі «дамовамі» і кіруецца толькі сваімі інтарэсамі. Што рабіць беларускім газавікам цяпер? У які бок кінуцца? А, можа, час праводзіць сваю палітыку? Шляхі ж у Еўропу ў нашых руках.

## СКАНДАЛЬЧЫК ТЫДНЯ

Супрацоўнікі праваахоўных органаў арыштавалі за рэкет — вымаганне буйной сумы грошай у бізнесмена — сына былога сакратара Мінскага гаркама Мар'яна Місуны. Ай-я-яй, да якіх гэта часоў сынкі і жонкі будуць «порочить» сваіх найсумленнейшых высокапастаўленых бацькоў і мужоў /прыгадаем у дужках яшчэ — Камая, Макаеда, Кебіча.../

## ПАКЛЁП ТЫДНЯ

«ЛіМ» апошнім часам не зважаў ні на якія выступленні «независимой левой газеты «Мы и время». Аднак вымусіла нас не змаўчаць «перадавіца» ў нумары за 15 лістапада г.г. пад назовам «Бэнээфашизм не пройдёт!..» Услед за Саўмінам «МиВ» палохае суграмадзян: «Если к власти придут бэнээфашисты, — это катастрофа. В их руках окажется армия, органы внутренних дел и госбезопасности. У них уже подготовлены карательные отряды. Они не постесняются вывести на улицы танки и расстрелять парламент. Они развернут беспощадный террор против левых сил, они урежут пенсии, особенно военным пенсионерам, они закроют сотни предприятий, разгонят и разорят колхозы и совхозы, станут преследовать русских, поляков, украинцев, евреев...» Аўтару, як бачыце, не трэба было выдумляць «страшылкі», ён чэрпаў іх з гісторыі сваёй партыі, але і тут асабліва «расчульвае» пасаж — «они урежут пенсии, особенно военным пенсионерам...» Дальбог жа, «МиВаўскі» аўтар у «творчым» экстазе можа давесці сябе да такога стану, што выкінецца з вакна сваёй кватэры з крыкам: «Бэнээфашисты идут!»

Кола дзён

Парламент

# «МАКСІМАЛЬНА АДЦЯГНУЦЬ РАЗВЯЗКУ»

Такімі словамі характарызаваў адзін з выступаючых на сесіі дэпутатаў лінію, якой трымаецца Прэзідыум, Саўмін і большасць дэпутацкага корпуса. Гэта было няцяжка прадбачыць задоўга да сесіі. З публічных выступленняў Станіслава Шушкевіча і Вячаслава Кебіча, з кулуарных размоў, змест якіх даходзіў да грамадства, можна было ўявіць прыблізна такі сцэнарый.

Кожная дэпутацкая група прыйдзе на сесію са сваёй хатняй загатоўкай. Камуністы будуць гаварыць пра саюз з Расіяй як пра адзінае выйсце з крызісу. Яны ж выступяць прыхільнікамі «канстытуцыйнага працэсу» — ніякіх датэрміновых выбараў, ніякіх прынцыповых змен у сістэме ўлады. Дэмакраты будуць патрабаваць адстаўкі ўрада і стварэння новага ўрада, здольнага прапанаваць народу нешта больш сур'ёзнае, чым цацанкі-абяцанкі датэрміновых выбараў, увядзення нацыянальнай валюты замест фантома «рублёвой зоны нового типа». Знойдуцца і дзівакі /мякка кажучы/, якім падавай дэнансацыю Белавежскіх пагадненняў, аднаўленне СССР, рэферэндум па дзяржаўнай сімволіцы і двухмоўю. З боку дэпутацкай большасці будуць заклікі да кансалідацыі, да кампрамісу, але зыходзіць будзе з меркавання, што кампраміс — гэта «апанент са мною згодны» і ўвогуле, «ёсць дзве думкі — мая і няправільная».

Так усё і было. Завязкаю сюжэта сталі справаздачы Старшыні Вярхоўнага Савета і прэм'ер-міністра. С.Шушкевіч прадставіў грунтоўны аналіз сацыяльна-палітычнай сітуацыі на Беларусі, досыць празрыста выказаўся наконт таго, хто вінаваты ў правакаванні абвальных працэсаў у эканоміцы. І... тут жа прапанаваў згоду. Так, згоду. Дапоўніць існуючыя дзяржаўныя структуры нейкім саветам з дарадчымі функцыямі, дзе левыя, правыя, камуністы, дэмакраты за круглым сталом спакойна памяркуюць, як жыць далей. Мне гэта прапанова не падаецца слушнай. Бо калі няма дамовы ў авальнай зале, дык чаму павінна атрымацца за круглым сталом?

Справаздача В.Кебіча складалася з лічбаў, якія павінны былі растлумачыць, чаму мы так жывём. Дык жа гэта і без лічбаў зразумела! Як і чакалася, прэм'ер заклікаў як мага хутчэй увайсці ў эканамічны саюз з Расіяй, аб'яднаць нашы грашова-фінансавыя сістэмы. Тады, маўляў, праблем не будзе; прызнаў, што ў існуючай сітуацыі вінаваты і ён са сваёй камандай, але ўвогуле «виноваты все».

Спроба апазіцыі даць сваю трактоўку падзей і паказаць шляхі выйсця з крызісу не была ўдалай. У. Заблоцкі зрабіў памылку, уласцівую многім прафесіяналам, знаўцам сваёй справы. Яны часам забываюць, што тое, што цалкам зразумела і натуральна для іх, для іншых трэба тлумачыць. Таму не дзіва, што многія ўспрынялі ягонае выступленне як павярхоўнае. Але ж дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што калі б нават У. Заблоцкі прадставіў на суд гэтай залы шэдэўр навуковага і палітычнага прадбачання і аратарскага майстэрства, — рэакцыя дэпутацкай большасці была б такой жа. Бо прапановы, што ідуць ад БНФ, дэпутаты-камуністы могуць прыняць толькі пад ціскам надзвычайных абставін.

Ведаючы гэту асаблівасць камуністычна-дэпутацкай ментальнасці, апазіцыя прапаноўвала С. Шушкевічу сабраць сесію адразу пасля вядомых падзей у Маскве. На той хвалі можна было б /прынамсі, былі спадзяванні/ правесці праз Вярхоўны Савет адстаўку ўрада і прызначыць дату датэрміновых выбараў. Спікер адмовіўся...

Чаго можна чакаць далей? Мабыць, Кебіча крыху падакараюць і пакінуць на пасадзе. Ён, у сваю чаргу, правядзе «рэфармаванне» Саўміна. Можа, скасуе адно-другое ўпраўленне альбо аддзел, а мо і не. Скажам, упраўленні ператорацца ў камітэты альбо новыя міністэрствы.

Будуць ратыфікаваны дамовы з Расіяй аб эканамічным саюзе і «рублевой зоне нового типа», а потым стануць чакаць развіцця падзей у Расіі і рыхтавацца да ўвядзення /на ўсялякі выпадак.../ сваёй валюты.

Авальная зала Дома ўрада можа плённа працаваць толькі ў адным выпадку — калі на яе цісне плошча Незалежнасці. Менавіта таму так нервова ўспрыняла большасць выступленне С. Антончыка, які з трыбуны Вярхоўнага Савета заклікаў рабочых да агульнанацыянальнай забастоўкі і нават назваў тэлефоны, па якіх можна атрымаць практычныя парады. У гэты момант у зале нібыта ўзнікла здань тых, ужо амаль легендарных красавіцкіх страйкаў 1991 года. Калі браць да ўвагі, што праз які месяц-два, дзякуючы «мудрай» палітыцы ўрада, могуць спыніцца заводы і можа быць адключана цяпло ў кватэрах, заяву С. Антончыка трэба ўспрымаць як вельмі сур'ёзную.

Пакуль што мы, мабыць, яшчэ занадта добра жывём. 9 лістапада ўрад рыхтаваўся да таго, што на плошчу Незалежнасці прыйдзе палова горада. Сустрэць людзей павінны былі сотні міліцыянераў і вайскоўцы, бронетранспарцёры, вадамёты. А прыйшло на плошчу добра калі чалавек пяцьсот. Значыць, да развязкі яшчэ не дайшло...

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# СТАЛА ДОБРАЙ НАГОДАЙ...

11 лістапада пасольства Рэспублікі Польшча пры садзеянні Саюза палякаў Беларусі ладзіла ў памяшканні Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра сустрэчу з нагоды нацыянальнага свята — Дня незалежнасці.

Афіцыйная частка складалася з прывітальнай прамовы амбасадара Польшчы Э. Смулэк і зачытання рэферата «11 лістапада — дзень польскага кампрамісу», асноўны тэзіс якога такі: Польшча дамагалася незалежнасці дзякуючы нацыянальнаму кампрамісу, а кампраміс стаў магчымым дзякуючы Пілсудскаму. Рэферат быў зачытаны на польскай мове, а слухачам у зале раздалі пераклады. Сказанае і напісанае крыху рознілася. У вусным /для тых, хто ведае польскую мову/ варыянце былі закіды ў адрас немцаў і бальшавікоў, а ў пісьмовым перакладзе на рускую мову прыгадваліся ўжо толькі немцы. Гэта, мабыць, з улікам савецкага выхавання і камуністычных прыхільнасцей урадавых чыноўнікаў Рэспублікі Беларусь — гасцей свята.

Потым сваё майстэрства прадэманстравалі ўдзельнікі берасцейскага ансамбля песні і танца «Каралінка». У іх рэпертуары польскія, беларускія і агульныя для абодвух народаў танцы і песні.

Прысутныя мелі магчымасць азнаёміцца з выставай мастацкай суполкі, што створана пры Саюзе палякаў Беларусі. Не даючы ацэнкі асобным творам, я адзначыў бы гісторыка-рамантычную накіраванасць большасці з іх. Гэта экспазіцыя дае падставы для разваг /а, можа, і спрэчак/ аб крытэрыях польскасці ўвогуле і польскасці на Беларусі ў прыватнасці. Бо адны і тыя ж матывы /касцёлы Гародні, вежы Навагрsuccадскага замка, святыня Вострай Брамы/ малююць і мастакі з беларускай свядомасцю, і тыя, хто лічаць сябе за палякаў. І кожны мяркуе, што малюе сваё, крэўнае, сваю гістарычную спадчыну, выяўляючы такім чынам сваю нацыянальную сутнасць. Але, зрэшты, хай малююць. Мы на сваёй зямлі, у сваёй краіне разбяромся, дзе чыё і каму што належыць...

Свята суседняй краіны стала для мінскай інтэлігенцыі добрай нагодай, каб сабрацца разам і правесці гадзіну-другую ў прыемных размовах з кілішкам віна і добрай музыкай, — за што асабіста я ўдзячны спадарыні Смулэк і супрацоўнікам пасольства.

Хацелася б пажадаць амбасадару Беларусі ў Польшчы ў наш дзень Незалежнасці рабіць у Варшаве імпрэзу не горшую за тую, якую 11 лістапада наладзіла ў Мінску пасольства Польшчы. Не трэба ігнараваць магчымасці нефармальнага сумоўя для стварэння прывабнага вобраза краіны.

**П. В.**

Рэпліка

# «СТУЖКУ ЗРАБІЦЬ... БЕЗ БЕЛЫХ ПАЛОСАК»

**Маючы на слыху вядомыя выступленні ў Вярхоўным Савеце аб нібыта немагчымасці стасавання да сучаснай Беларускай дзяржавы ніякай іншай /нацыянальнай/ сімволікі, акрамя як БССРаўскай /бо не было, маўляў, традыцыі ўжывання той іншай сімволікі ў тагачаснай Савецкай Беларусі, гэтаксама як не было і яе адбіцця ў свядомасці тагачаснага грамадства/, — хочацца працытаваць тэкст паведамлення «Зацвярджэнне праекта герба БССР», што быў змешчаны пад рубрыкай «У Прэзідыуме ЦВК БССР» на 8-й старонцы газеты «Савецкая Беларусь», N 32/1924 ад 9 лютага 1927 г.:**

«Прэзідыум ЦВК згадзіўся ў асноўным з праектам герба БССР, **прынятым СНК** /падкрэслена мной. — І. К./. Прэзідыум пастанавіў унесці наступныя папраўкі:

1. Стужку зрабіць чырвонай без белых палосак /а значыць, стужка раней была бел-чырвона-белай. — І. К./.
2. Жыта перавіць з канюшынай.
3. Фарбы зямной кулі павінны быць вытрыманы згодна фарбам герба СССР.
4. Дубовую галіну скамбінаваць з хвояй.

Прэзідыум пастанавіў праекты герба падаць на канчатковае агульнае зацвярджэнне Прэзідыуму ЦВК і СНК разам з апісаннем герба».

Такім чынам, нацыянальная сімволіка **была вядома** тагачаснаму грамадству Савецкай Беларусі /прынамсі, ужывалася ў час правядзення мовазнаўчай канферэнцыі 1926 г./. Больш таго, прадпрымаліся захады па зацвярджэнні яе ў якасці дзяржаўнай...

**І. КАРАШЧАНКА**

З пошты "ЛіМа"

# З ГІМНАМ ЛЕПШ ПАЧАКАЦЬ,

## ЧЫМ КОЖНУЮ РАНІЦУ СЛУХАЦЬ АБЫ-ШТО

Прачытаў допіс Віктара Скарабагатава «Варыянт, варты ўвагі» і палічыў патрэбным выказаць некалькі ўласных меркаванняў.

Першае. Відаць, конкурс на стварэнне Дзяржаўнага гімна Беларусі разумна было б аб'явіць бестэрміновым, бо, як вядома, творчыя пошукі не церпяць ніякіх межаў, у тым ліку і часавых.

Другое. Верш Янкі Купалы як літаратурная аснова для гімна сапраўды не вельмі ўдалы. Але не з тае прычыны, што мары паэта збыліся. Каб жа так было! На вялікі жаль, пафас і заклікі «Маладой Беларусі» застаюцца надзвычай актуальнымі. Вось чаму згаданы верш Купалы можа быць рэалізаваны лепш за ўсё як марш, як партыйны гімн-песня.

Трэцяе. Прапанаваны спадаром В. Скорабагатавым верш Данілы Оўнуча таксама не гімнічны. Ён пазбаўлены элементарнай мелодыкі, бо пісаўся «пад музыку», а не музыкай духу, што відавочна. Больш таго, насуперак гераічнай тэме верша Купалы тэма тэкстоўкі Оўнуча з'яўляецца выразна «непрацiўленчай» і перагукваецца са старым бээсэсэраўскім гімнам. Ізноў Беларусь «церпяліва пракладвала шлях да святла» /па-беларуску — «цярплівa», бо ад «цярпець», «цярплівы»/, «дружбу вітала», «сумленна і сціпла адвеку жыла» /ці не таму дагэтуль мала што нажыла?/; ізноў «мудрасцю крыўду спыняй дзеля братняй любві» /ці трэба гэта разумець так, што: падстаў левую шчаку, калі табе заехалі ў правую?/; і, нарэшце, геніяльна непісьменнае завяршэнне тэксту — «годна і слаўна між роўных **навечна** жыві!» Хацелася б запытацца ў шаноўнага Данілы, у якой граматыцы знайшоў ён прыклад падобнага выкарыстання прыслоўя «навечна» ў пары з дзеясловам загаднага ладу?

Чацвёртае. Па-мойму, на сёння лепшага гімнічнага тэксту, чым верш Наталлі Арсенневай «Магутны Божа», падшукаць нельга. Усе сучасныя варыянты тэкстаў і мелодый, прапанаваныя ў якасці гімнічных, не вытрымліваюць сур'ёзнай крытыкі. І ніякія «кантамінацыі» ў гэтым выпадку не ўшануюць, бо, як сказаў той жа В. Скорабагатаў, «гімн спецыяльна напісаць, пэўна, немагчыма».

**Славамір АДАМОВІЧ**

*г. Мінск*

# А ЯК ЖА БЕЗ ЧАЙКОЎСКАГА?..





Прайшло 100 гадоў пасля смерці вялікага рускага кампазітара П. Чайкоўскага, чыя творчая спадчына набыла агульначалавечае значэнне, шануецца ўсім культурным светам. Асвечаная грамадскасць шырока адзначае гэтую дату. Вечар памяці П. Чайкоўскага прайшоў і ў Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі Беларусі. Адкрыла канцэрт музыка з цыкла «Поры года» ў выкананні аркестра пад кіраўніцтвам А. Сасноўскага. Праграму першага аддзялення склалі камерныя вакальныя творы — рамансы, лепшыя ўзоры песеннай творчасці Чайкоўскага, дзіцячыя вакальныя творы, духоўная харавая музыка. Пасля антракту прагучалі інструментальныя опусы і фрагменты з опер, а на заканчэнне было выканана эмацыянальна-ўзнёслае Адажыо з балета «Шчаўкунчык». У канцэрце бралі ўдзел салісты тэатра Н. Гайда, І. Лінкевіч, Л. Станевіч, П. Рыдзігер, У. Пятроў, А. Ісаеў, В. Мінгалёў, Г. Нікіцін, канцэртмайстар Р. Бялецкая. Вядучая — музыказнаўца І. Зубрыч пазнаёміла слухачоў з асноўнымі вехамі творчасці П. Чайкоўскага. Незвычайны для артыстаў «лёгкага» жанру канцэрт стаўся адметнай культурнай падзеяй.

**З. Л.**

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

Фестывалі

# КАЛІ НАСТАЕ ВОСЕНЬ?

Паводле музычнага календара — заўтра. Па традыцыі 20 лістапада ўрачыста адкрыецца Міжнародны фестываль «Беларуская музычная восень». У праграме першага канцэрта — Трэцяя сімфонія У. Дарохіна і Рэ мінорны фартэпіянны канцэрт С. Рахманінава. Акадэмічным сімфанічным аркестрам дырыжыруе Міхал Казінец. Саліст — даўні сябра нашых фестываляў выдатны піяніст сучаснасці Мікалай Пятроў. 21-га ён дае ў зале філармоніі і сольны канцэрт. Сярод удзельнікаў сёлетняй «восені», апроч беларускіх музыкантаў, нашы госці з Нідэрландаў, Нарвегіі, Расіі, Германіі, Бельгіі.

Падпіска-94

# СА СТУДЭНЦКІХ ГАДОЎ...

«ЛіМ» чытаю і выпісваю са студэнцкіх, ужо далёкіх 50-ых гадоў. А прывіў да яго любоў, даў першы штуршок выкладчык Гродзенскага педінстытута імя Янкі Купалы — Ржэўскі Баляслаў Антонавіч, які ў той нялёгкі і складаны час стаяў цвёрда на грунце нацыянальнага адраджэння, за што быў пасаджаны за краты. Асабліва цікавым і змястоўным стаў штотыднёвік у апошнія гады. Ён быццам ліхтарык адшуквае ў вуглах цёмнай, заваленай рознымі рэчамі каморы нашы родныя залацінкі, нашу святыню — нацыянальную спадчыну, якую за сямю замкамі хавалі партыйныя службоўцы ад нашага народа.

Мяне, як выхаванца Гродзеншчыны, якая доўгі час знаходзілася пад прыгнётам панскай Польшчы, вельмі цікавяць матэрыялы пра гэты няпросты перыяд нашай гісторыі. Думаю, што такія матэрыялы патрэбна публікаваць і далей. Прыцягвае ўвагу рубрыка «Кола дзён», дзе ў абагульненым выглядзе падаюцца самыя значныя падзеі, якія адбываюцца за тыдзень у Беларусі. Хочацца звярнуцца да супрацоўнікаў рэдакцыі, каб яны і надалей працягвалі работу па адраджэнні роднай мовы, нашай нацыянальнай культуры, гісторыі, не давалі зламацца кволаму дрэўцу, якое прабілася праз цвёрды грунт роднай зямлі, патоптанай каванымі ботамі чужынцаў розных масцей, якія хацелі б разарваць нашу нацыю, дзяржаву на кавалкі, зрабіць нас бяспамятнымі іванамі. На маю думку, таксама трэба вярнуцца да рубрыкі, дзе раней давалі інфармацыю, што будзе перадаваць Беларускае тэлебачанне і што будзе праводзіцца ў Доме літаратара па нацыянальным адраджэнні.

**Іван СУХОЦКІ,**
**старшыня абкома прафсаюза работнікаў дзяржаўных устаноў**

*г. Гродна*

# АЛІМПІЙЦЫ ВЫПІСВАЮЦЬ «ЛіМ»

17 юнакоў і дзяўчат Гродзенскага вучылішча алімпійскага рэзерву афармілі падпіску на першы квартал 1994 года. Маюць намер шэраг навучэнцаў схадзіць на пошту і запоўніць квітанцыі. Калі ўлічыць настаўнікаў, выхавацеляў ды трэнераў, то колькасць патэнцыяльных падпісчыкаў сягае ў нас за тры сотні. А тут толькі 17?

І тым не менш з'яўленне новых чытачоў «ЛіМа» ўсцешвае. У іх асобе кволы праменьчык святла прабівае кансерватыўныя ідэалагічныя заваліны ў мысленні настаўнікаў, выхавацеляў, трэнераў, сярод якіх лічаныя чытаюць і выпісваюць «ЛіМ». Як ні парадаксальна, гаворка ідзе пра вельмі істотныя хібы ў выкананні з іх боку Закона аб мовах, дзе вучні паказваюць станоўчы прыклад у справе выбару найбольш прагрэсіўных выданняў, пераўзышоўшы па падпісцы ў шмат разоў дарослых, сцвердзіўшы, што «ЛіМ» іх цікавіць, дапамагае, вучыць, фарміруе нацыянальную свядомасць, акрэслівае параметры духоўнага свету асобы.

Чым выкліканы такі высокі рэйтынг «ЛіМа» ў вучылішчы алімпійцаў? Выпадковасць гэта ці нешта іншае? Па-першае, асноўным матывам у выбары штотыднёвіка як прэстыжнага і інтэлектуальна каштоўнага патрэбна лічыць сістэму аглядаў кожнага свежага нумара на ўроках беларускай літаратуры сіламі старшакласнікаў. Па-другое, на завяршальным этапе сярэдняй адукацыі газета садзейнічае моладзі ўзняцца на ўзровень сучаснага разумення праблем літаратуры, мастацтва, культуры, па-новаму прачытаць гісторыю беларускай эміграцыі і вытокі генацыду над бездзяржаўнай нацыяй. Усё часцей асаблівасці сучаснай паэзіі вучні абгрунтоўваюць на творах, якія друкуюцца або друкаваліся пераважна на старонках «ЛіМа», у першую чаргу такіх аўтараў, як С. Грахоўскі, Н. Гілевіч, П. Панчанка, С. Законнікаў, М. Мятліцкі, А. Разанаў, Н. Арсеннева, М.Сяднёў і інш. Па-трэцяе, маладое вучылішча мае шырокую геаграфію ўдзелу ў спартыўных паядынках. Блізкае замежжа чаргуецца з далёкім — Аўстрыя, Турцыя, Галандыя, Германія, ЗША, у тым ліку славутая Грэцыя, радзіма Алімпійскіх гульняў. І тут варта сказаць пра этычную схільнасць нашых алімпійцаў да «ЛіМа» як натуральную: ім даводзіцца не раз адлучацца ад роднага краю. Нават кароткатэрміновая адарванасць ад бацькаўшчыны не праходзіць бясследна. Эмпірычна заўважана, што гэта катэгорыя падлеткаў больш абвострана суперажывае некаторыя літаратурныя з'явы, чым вучні аседлыя, невыязныя /маю на ўвазе рэўнасную сустрэчу лірычнага героя П. Панчанкі з бярозай у Іране — верш «Сустрэча з бярозай»/. Не будзе перабольшаннем, што для іх сапраўды запаветна гучаць словы А.Ставера: «Каб любіць Беларусь нашу мілую, трэба ў розных краях пабываць». Сапраўды, ідэйны накірунак «ЛіМа» сугучны юначай душы, якая жыве, вучыцца і сталее на вольнай бацькаўшчыне. Хоць і адрасаваны інтэлігенцыі творчай, людзям знакамітым і разумным, ён не адштурхоўвае маладых, наадварот, спрыяе росту і развіццю. Яго біяполе — гэта высокі прафесіяналізм, дасведчанасць, аб'ектыўнасць, эмацыянальная стрыманасць з апанентамі. Сёння «ЛіМ» у Беларусі выконвае ролю самай нацыянальна свядомай газеты. І маюць рацыю тыя, хто параўноўвае яго з духоўным хлебам нацыі.

Гаворачы пра спартсменаў-падпісчыкаў, хочацца закрануць яшчэ адно пытанне. Нядаўна «Настаўніцкая газета» надрукавала водгукі на Закон Рэспублікі Беларусь «Аб фізічнай культуры і спорце». Здзіўляе толькі яго інтэрпрэтацыя спецыялістамі ад Міністэрства адукацыі, якія бачаць яго выкананне пераважна ва ўмацаванні матэрыяльнай базы /залы, пляцоўкі, прылады/. І ні слова — пра другі бок праблемы: інтэлектуальны. Вядома, усё менш і менш спартсменаў вучыцца на «4» і «5». Парушаецца спрадвечны крытэрый, што добры спартсмен — гэта лепшы вучань. Сёння гэты баланс сур'ёзна пахіснуўся. Фізічнае і інтэлектуальнае недаравальна размежаваліся. Прыярытэтным ўсталявалася фізічнае /спартыўнае/. Калі скаламбурыць яго ў стылі старажытнагрэчаскай міфалогіі, то вобразнае жыццё падкажа: багі Алімпа перамаглі багоў Парнаса. Не акадэмік, не інтэлектуал вызначае прэстыж нашага часу, на жаль!

Каб неяк абгрунтаваць думку, прывяду пацешны эпізод. Адзін паважаны трэнер на педсавеце, каб суняць наступ занепакоеных настаўнікаў, заявіў: «Не турбуйцеся, шаноўныя, вашы навукі яму непатрэбны. Мой спартсмен заедзе на веласіпедзе ў студэнцкую аўдыторыю раней, чым вам гэта можа прысніцца».

Вірусныя мікробы пашкодзілі імунную сістэму розуму, спарадзілі комплекс уласнай непаўнацэннасці, даўшы ўсходы беларускаму рэнегацтву і манкуртызму. Наша нацыя канчаткова збяднела і матэрыяльна і маральна. Вызваліцца ад гэтага мору можна толькі шляхам захавання сваіх духоўных рэсурсаў, сваёй душы. Думаецца, новая канцэпцыя адукацыі павінна адрадзіць славутыя традыцыі тысячагадовага вопыту, калі на землях Беларусі пачэсна ўшаноўваліся тытаны цела і духу, якіх народ пяшчотна называў волатамі, асілкамі, дзецюкамі. У іх гонар складаліся песні, насыпаліся магілы-валатоўкі і курганы.

Нашы продкі добра разумелі гармонію цела і духу, фізічнага і інтэлектуальнага ў развіцці асобы. Іх традыцыі могуць быць вельмі каштоўнымі ў гуманітарным выхаванні ўвогуле і ў беларускай літаратуры ў прыватнасці. Веру, што «ЛіМ» і ў такім накірунку будзе мудрым дарадчыкам. Ён дапаможа таксама зразумець філасофскія прамудрасці, што, як кажа акадэмік Д. Ліхачоў, не толькі быццё вызначае свядомасць...

Сапраўды, мутнае быццё запэцкала нашу свядомасць. Няхай «ЛіМ» дапамагае ачысціць яе і прасвятліць.

**С. ДРОЗД,**
**старшыня суполкі ТБМ імя Ф. Скарыны Гродзенскага вучылішча алімпійскага рэзерву, настаўнік**

**Будзьма разам!**

**Вы яшчэ не падпісаліся на «ЛіМ»?**
**Дык не адкладвайце на заўтра тое, што варта зрабіць сёння!**
**Нагадваем: кошт падпіскі на першы квартал — 210 рублёў.**
**Наш індэкс — 63856.**

Беларускае замежжа

# Сяргей КАРНІЛОВІЧ: «ПРА ТАКУЮ КРАІНУ Я МАРУ...»

***Сённяшняе беларускае жыццё ў Амерыцы немагчыма ўявіць без самаадданай падзвіжніцкай працы гэтага чалавека. Менавіта ён разам са сваімі аднадумцамі і сябрамі згуртаваў найбольш свядомых беларусаў у ваколіцах Кліўленда і заснаваў славуты «Полацак».***

***На жаль, калі гэты матэрыял рыхтаваўся да друку, з Кліўленда прыйшла горкая вестка — Сяргея Карніловіча не стала.***

**— Спадар Сяргей, хачу акрэсліць тэму нашай размовы: беларусы вонках бацькаўшчыны. Як і чаму ім удалося не растварыцца ў іншых народах, чужых культурах? Што вымушала іх заставацца беларусамі?**

— Цікава пра гэта пагаварыць. Што тычыцца мяне, дык, папраўдзе, ніколі не задумваўся над гэтым. Усё было як бы само сабой, натуральна. Ды і быць некім іншым ніколі не было ніякага жадання. Я заўсёды быў тым, кім быў — беларусам.

**— Але ж пагадзіся, любая эміграцыя — добраахвотная ці вымушаная — гэта ўсёткі насілле над чалавекам. Ён адарваны ад прывычнага асяроддзя, ад роднай зямлі...**

— Можа, і так, але я тут адаптаваўся вельмі добра і не адчуваю сябе адарваным. Я заўсёды цікавіўся Беларуссю, працаваў дзеля яе, жыў беларускімі справамі. Цяпер на пенсіі, але грамадскую дзейнасць не закінуў. Адна праблема: бракуе часу, каб паспяваць рабіць усё, што планую.

**— Твая беларуская дзейнасць у Амерыцы — гэта своеасаблівае праяўленне настальгіі па радзіме?**

— Ведаеш, настальгія — настальгіяй. Прычыны гэтага, як ты любіш казаць, феномена больш глыбокія і свядомыя. А галоўная — у самой Амерыцы, у ладзе амерыканскага жыцця. Тут жывуць людзі з усяго свету. Усе нацыі гуртуюцца, ёсць саюз нацыянальнасцей. Улады заахвочваюць імкненне людзей падтрымліваць традыцыі свайго народа. Усё гэта падштурхоўвала і беларусаў да згуртавання, да ўсведамлення сябе беларусамі. У настальгіі мала стваральнага. Каб захаваць сваю нацыянальную адметнасць далёка ад радзімы, патрэбны былі канкрэтныя справы.

**— Адной з такіх спраў было стварэнне беларускага грамадскага цэнтра «Полацак», прэзідэнтам якога ты быў на працягу доўгіх гадоў...**

— 18 гадоў я быў старшынёй «Полацака». Праца гэта вельмі клапатлівая і патрэбная. «Полацак» — цудоўны помнік беларушчыны ў Амерыцы. Шмат людзей прычынілася да яго стварэння, яны ахвяравалі беларускай справе свае сродкі, сілы, свае сэрцы.

І ўсё гэта рабілася на грамадскіх пачатках. Я працаваў праз усё жыццё ў малочнай індустрыі, займаў розныя пасады. 10—12 гадзін быў на вытворчасці, а прыязджаў дадому і часам па 8 гадзін аддаваў грамадскай справе. Думаў, выйду на пенсію, — адпачну. Але пакуль з адпачынкам прыходзіцца пачакаць. Я старшыня царкоўнай рады парафіі Жыровіцкай Божай Маці Беларускай Аўтакефальнай праваслаўнай царквы. Цяпер мы збіраем грошы, каб будаваць новую царкву непасрэдна ў самім «Полацаку». Так што наперадзе новыя клопаты...

**— Сяргей, а табе ніколі не хацелася адысці ад гэтай грамадскай мітусні, заняцца нечым асабістым?**

— Не! Вельмі шмат укладзена ва ўсё гэта працы і душы. Пры гэтым беларуская справа заўсёды прыносіла мне радасць, я перакананы, што яе трэба рабіць, хоць і жывём мы далёка ад бацькаўшчыны. Менавіта беларуская справа напоўніла маё жыццё сэнсам і верай.



**— Скажы, калі ласка, а няўжо «Полацак» замяніў табе бацькаўшчыну?**

— Гэта розныя рэчы. Іх нельга параўноўваць. Бацькаўшчыну замяніць немагчыма. Яна ў крыві, і думках. Любоў да роднай зямлі часта падштурхоўвае нас займацца справамі ў імя яе, несці ў свет яе словы і песні.

Сам я з вёскі Таргуны Докшыцкага раёна. Адтуль мае бацькі, там жывуць мае родныя — брат і сястра. Там мне Бог даў жыццё, там пачалася мая дарога ў свет.

**— А да беларушчыны ты таксама прычыніўся ў Таргунах?**

— Так і не. Так, бо нарадзіўся я ў беларускай сям'і. І першыя ўрокі беларушчыны атрымаў ад бацькі і маці. У школу я пайшоў за польскім часам. Прыйшлі саветы — таксама вучыўся. А заканчваў навуку за немцамі. Але не закончыў, бо партызаны праз свайго чалавека загадалі закрыць школу і спыніць заняткі, — інačай яны спаляць школьны будынак. Неўзабаве так і здарылася. І заняткі спынілі, і школу спалілі. А я давучваўся ўжо за мяжой...

**— Але ж перад гэтым былі доўгія гады нямецкай акупацыі...**

— Так, усе жахі ваеннага часу я адчуў на сабе. Цывільнае насельніцтва знаходзілася паміж двух агнёў. Зразумела, што ў большай бяспецы быў той, хто меў зброю. Ці то паліцай, ці то партызан. А простым людзям было найгорш. Памятаю, бацька купіў ці выменяў на нешта цялушку на базары ў Докшыцах. Худую-худую. Ледзь давёў дадому. Мы схавалі яе недалёка ад хаты ў кустах, каб адкарміць. Трэба ж было неяк жыць. А нехта падказаў партызанам, што ў нас ёсць цялушка. Яны да бацькі: аддавай! Білі, пакуль той не прызнаўся, дзе схаваў скаціну. Яны пайшлі і забралі, паклалі яе на сані і павезлі. А мы, дзеці, глядзелі на ўсё гэта і плакалі... Альбо яшчэ адзін выпадак... Неяк бацьку затрымалі п'яныя немцы. Ён меў кучаравыя чорныя валасы, дык яны прычапіліся да яго валасоў. Кажуць: юда і ўсё. Шчасце, што з бацькам быў чалавек, які ведаў па-нямецку, і ён растлумачыў, што бацька хрысціянін... А то немцы ўжо вялі яго расстрэльваць. Не дай Божа!

**— Спадар Сяргей, а табе не прыходзілася трапляць у падобныя пераплёты?**

— Чаму не! У адной з суседніх вёсак партызаны мініравалі дарогу. Немцы сабралі мясцовых жыхароў і загадалі, каб тыя запрэглі коней і баранавалі ўчастак дарогі, дзе маглі быць міны. Мяне таксама адправілі баранаваць. Памятаю, мой конь прайшоў метраў дваццаць і стаў. Можа, гэта мяне і выратавала. Тое ж самае было, калі партызаны падкладалі міны ля вёсак. Калі там падрываліся нямецкія салдаты, то наступствы былі ўсім вядомы. Немцы распраўляліся з ні ў чым непавіннымі людзьмі — расстрэльвалі іх, палілі іх хаты.

**— Найцяжэй было ў такой сітуацыі, мабыць, моладзі... Як жыць? Што рабіць? Каму служыць?**

— Безумоўна, усе гэтыя пытанні былі вельмі надзённыя. Кожны вырашаў іх па-свойму. Час-

*(Працяг на стар. 14-15)*

З пошты "ЛіМа"

# ДЫСТЫЛЯВАНАЯ ВАДА — НЕ ЖЫВАЯ

Артыкул Уладзіміра Брылеўскага, змешчаны ў 34 нумары «ЛіМа» за 27 жніўня, зрабіў на мяне глыбокае ўражанне. Мне захацелася выказаць вам удзячнасць за публікацыю. Паслаў кароценькі водгук і быў здзіўлены, калі ўбачыў яго надрукаваным, — меркаваў, што не для друку ён. Але калі вы праявілі такую ўвагу да таго водгуку, дык праявіце спрадвечную беларускую добразычлівасць і выслухайце мяне.

Удзельнічаць у партызанскім руху давялося мне ў раёнах сумеснага пражывання беларусаў і палякаў — Лідскім, Іўеўскім, Навагрудскім. Даводзілася пабываць і ў іншых раёнах былой Заходняй Беларусі, але мімаходам. Я задаволены, што з Беларуссю пазнаёміўся праз яе сельскае насельніцтва. Гарады паўсюль даўно сталі «касмапалітычнымі». Сяло — вось народ у чыстым выглядзе. І гаворка, і норавы, і побыт — усё тыповае. З вялікай цікавасцю назіраў усё новае, зусім новае для мяне. Я адкрыў для сябе новы свет.

Вось вам дэталь: сядзім у хаце, гарыць лучына, на стале сціплая ежа, яе гасцінна прапаноўвае гаспадыня, ведаючы, што партызаны «па дарозе» зайшлі і, вядома ж, галодныя. Пытаюся: а хто вы па нацыянальнасці? Часцей за ўсё быў адказ: «А мы беларусы». Сустракаліся і хаты польскія. Усё, як і належыць. Здзіўленне ж маё выклікалі адказы: «А мы католікі».

Безвынікова стараўся пераканаць суразмоўцаў, што такой нацыі няма на свеце. Яшчэ большае здзіўленне выклікаў адказ на такое пытанне ў сектантаў. З вялікай перакананасцю казалі: «А мы баптысты», або «Сведкі Іеговы», або «Хрысціяне веры евангельскай». Па-сапраўднаму я разабраўся ў гэтай заблытанай гісторыі пазней. «Мы католікі» — гэта вынік асіміляцыі, насаджэння каталіцызму ў XV—XVIII стст. і ў 20—30-ыя гг., у перыяд польскай акупацыі Заходняй Беларусі. А «Мы баптысты» — вынік насаджэння касмапалітычнай ідэалогіі пратэстанцкіх сектаў. За кароткі час, у 20-х і 30-х гг., у адным толькі Навагрудскім ваяводстве некалькі дзесяткаў тысяч беларусаў замежнымі прапаведнікамі, пры падтрымцы ўладаў, завербавалі ў пратэстанцкія секты. Адмаўленне ад праваслаўя і тут было раўназначным адмаўленню ад нацыянальнай прыналежнасці, а значыць, і ад нацыянальна-вызваленчай барацьбы.

Толькі, калі ласка, не думайце, што я клапачуся за праваслаўную царкву. Быў і застаюся атэістам.

Я ведаю, што ў гісторыі і майго народа ёсць аналагічныя прыклады. Працуючы ў Польшчы, ва універсітэце г. Катовіца, даведаўся, што ў Глівіцы дзейнічае армянская царква. Быў там. Нічога армянскага — ні мовы армянскай, ні абрадаў армянскай царквы. І не дзіўна, у Польшчы, Італіі і ў іншых краінах такі лёс часткі армянскай дыяспары.

Пасля вайны ў Гродне асталяваўся Рускі драматычны тэатр і ансамбль песні і танца Р. Шырмы. Тэатр квітнеў, не меў асаблівых клопатаў. А вось ансамбль адчуваў штосьці досыць блізкае да ганення. Подла шапталіся пра мінулае Р. Шырмы, адкрыта крытыкавалі рэпертуар. Не помню дакладна, у 1947 ці ў 1948 годзе, давялося быць на праглядзе і абмеркаванні новай праграмы, падрыхтаванай ансамблем перад паездкай, якая была арганізавана ў сібірскія гарады. Абмеркаванне праходзіла ў кабінеце начальніка /ці загадчыка/ аддзела культуры выканкама абласнога Савета. Прысутнічалі адказныя работнікі абкама партыі. Спачатку абкамаўскі начальнік /беларус па нацыянальнасці/, потым гаспадар кабінета і іншыя ўдзельнікі падверглі разносу праграму. Маўляў, старыя, панылыя, сумныя беларускія песні, няма радаснага сучаснага жыцця. Маё выступленне патанула ў хоры нядобразычліўцаў.

Напісаў рэцэнзію. «Гродненская праўда», ведаючы пункт погляду начальства, не надрукавала. Паслаў у «Звязду» — надрукавалі. Ведаю, як было цяжка Р. Шырме. З хваляваннем расказваў, як у Вільні працавалі сапраўдныя беларусы, паказваў выдадзеныя кніжкі, у прыватнасці, М. Танка. Я сэрцам адчуваў старанна захаваны боль, крыўду. Бо «Грамада» ацэньвалася як буржуазна-нацыяналістычны рух.

Яшчэ факт. На Беларусі педагагічныя інстытуты маюць найменне: Мінскі — імя Горкага, Віцебскі — імя Кірава, Брэсцкі — імя Пушкіна, Гомельскі меў імя Чкалава /!/. Потым з'явіўся яшчэ Мазырскі — імя Крупскай. Мы з рэктарам Гродзенскага педінстытута /я тады быў сакратаром партарганізацыі інстытута/ выступілі з прапановай прысвоіць імя Я. Купалы нашаму інстытуту. Скажу шчыра, акрамя сапраўднага асветніка-беларуса С. Умрэйкі, нашы прапановы сустракалі, мякка кажучы, холадна. А адзін адказны работнік нават выдаў: «Што за гульню задумалі? Што, без гэтага жыць не можаце?» Прапанову нашу ўдалося прабіць. Якая была радасць! Прыехала да нас шаноўная цётка Уладзя, уручыла цудоўна выкананы партрэт паэта. Студэнцкі драмгурток паказаў «Паўлінку». Прыязджалі да нас П. Броўка, К. Крапіва, М. Танк, М. Лынькоў. Паверце, сустрэчы былі святам.

У 1978 г. адбылася змена шыльды — інстытут быў пераўтвораны ва універсітэт. І хай Бог дае! Але па дарозе згубілі імя навучальнай установы. Адумаліся толькі праз дзесяць гадоў. За гэты час пазбаўлены «прапіскі» стаяў бюст паэта перад будынкам, узведзеным у пачатку 60-х гадоў.

А назвы плошчаў і вуліц гарадоў нашых? Успомніце, калі ў самім Мінску з'явілася вуліца Я. Коласа? А ў Гродне дагэтуль няма. Нават піўнушка была «Голубой Дунай», а цяпер красуецца «Уралочка».

Можна было б прывесці яшчэ і яшчэ факты. Глядзіце, як перакладаюцца на рускую мову творы беларускіх пісьменнікаў. За рэдкім выключэннем — «дыстыляваная вада» — усё вельмі нават правільна, гладка, але няма беларускага водару. Чамусьці пераклад з французскай ці англійскай захоўвае масу слядоў арыгінала, іх перакладаюць у заўвагах. Але ў тэксце — абаяльнасць нацыянальнай мовы. Няўжо рускаму чытачу не будуць зразумелыя «браток», «бацька», «каханенькая-родненькая»? Да чаго дайшло — цудоўную рэч «Векапомныя дні» пераклалі як «Незабываемые дни». Усё гэта наступствы не толькі русіфікатарскіх тэндэнцый, якія мелі месца. Яны былі ва ўсёй краіне. Але галоўны універсітэт на Украіне — імя Шаўчэнкі, педінстытут у Баку — імя Ахундава, у Ерэване — імя Абавяна...

Мне здаецца, мы і цяпер гаворым пра вынікі нацыянальнага нігілізму не так, як трэба гаварыць. Бо толькі ў Беларусі нават на рэспубліканскіх сходах, акрамя пісьменнікаў, ніхто не выступаў на роднай мове. Менавіта ў Беларусі магутна спрацавала ілюзорная тэорыя, якая сцвярджае хуткае, ледзь не ў агляднай будучыні, знікненне нацыі, нацыянальнай мовы. На станаўленне нацыянальнага нігілізму ціснула яшчэ адна утапічная ідэя, якая заклікала сцвярджаць культуру «нацыянальнай па форме». А што такое форма? Мова — не форма, а сродак выяўлення культуры, мова — і змест культуры!

Відаць, час падумаць аб правамернасці пункту гледжання, згодна якому нацыі ўтвараліся ў эпоху капіталізму, быццам паняцці «народ» і «нацыя» маюць істотна розны змест. Армяне як народ існуюць больш за дзве тысячы гадоў. Мне цяжка правесці недзе рысу, якая аддзяляла б армянскі народ ад армянскай нацыі. Гэтак жа і з гісторыяй кожнага народа. Ці змяняе дзяржаўна-тэрытарыяльная адасобленасць якасна мову, звычаі, норавы народа? Вядома, не. Еднасць народа /нацыянальная еднасць/, відаць, самая ўстойлівая еднасць. Толькі жорсткі каланіялісцкі рэжым можа разбурыць яе, калі яму ўдаецца зламаць волю народа.

Чалавек, бязвінна асуджаны на турэмнае зняволенне, не перастае быць чалавекам. Ахвяра рэжымаў каланіяльнай палітыкі не перастае быць сама сабою. Так здарылася з беларускім народам. Гэта лёс вельмі многіх народаў /нацый/.

Яшчэ пра адну рысу духоўнага жыцця нашага хачу выказаць сваю думку. Гаворка ідзе пра адносіны да рускага народа і яго культуры. Мне па душы мудрае рашэнне гэтага пытання ў Я. Брыля. Яго вядомая фраза ў зборніку мініяцюр «Жменя сонечных промняў» — самае ідэальнае вырашэнне гэтага пытання. Глыбокую павагу да рускай культуры я заўважаў у многіх калег-беларусаў. Некалькі пакаленняў выхадцаў з асяроддзя сельскай бедноты, якія ўвайшлі ў галіну інтэлектуальнай працы, далучыліся да культуры сусветнай дзякуючы рускай мове. Я. Купалу да вайны я чытаў на рускай мове. Каб не быў у Беларусі, то і Я. Брыля чытаў бы на гэтай мове. А такіх, як я, — мільёны. Антырускасць недастойная цывілізаванасці... Так, быў Мураўёў-вешальнік, але быў і Герцэн — вястун вольнасці народаў. Так, быў «шэры кардынал», але быў «яго светласць» А. Твардоўскі, які апублікаваў, калі не памыляюся, бунтарскую аповесць «Мёртвым не баліць» у сваім «Новом мире».

**Г. МАРЦІРОСАЎ**

*г. Гродна*

**АД РЭДАКЦЫІ. Аўтар даслаў нам і гэты ліст з пauthor паметкай «прыняць да ведама, што на Беларусі ёсць і такія галовы». Мы ўсё ж вырашылі яго надрукаваць — хай яго «прымуць да ведама» і лімаўскія чытачы.**

# І СЛЯЗІНКА ДЗІЦЯЦІ...

## «КРУГЛЫ СТОЛ» ЛіМа

ЗАЎВАЖАНА, што тыраны вельмі любілі пазіраваць перад фота- і кінааб'ектывамі разам з дзецьмі. Хоць бы тыя ж Гітлер і Сталін. Што тычыць першага з іх, дык пра гэта сведчаць многія кадры вядомага дакументальнага фільма М. Рома «Звычайны фашызм». Ну, а з занатаваных на стужку «гістарычных» сустрэч з дзецьмі вялікага бацькі ўсіх народаў Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна можна было б скласці вялізную кіна-іфотатэку. Звычайна злосны і пануры твар правадыра ў такія моманты нібы выпраменьваў саму дабрыню і спагаду. Дарэчы, гэта ім, дыктатарам, быў уведзены абавязковы рытуал вітання дзецьмі кіруючага арэапагу ў час дэманстрацый, партыйных з'ездаў і іншых урачыстасцей. Помніце, як у час святочных дэманстрацый на Краснай плошчы ў Маскве з калон нібы нечакана выбягала чародка хлопчыкаў і дзяўчынак у бялюткіх кашулях і чырвоных гальштуках з вялікімі букетамі кветак, накіроўваючыся ў бок маўзалея? Хвіліна, і пад захапляльныя воклічы дзесяткаў тысяч людзей яны ўручалі кветкі любімаму таварышу Сталіну, іншым кіраўнікам партыі і ўрада. Тыя з замілаванымі ўсмешкамі цалуюць і абдымаюць «пасланцоў усёй шчаслівай савецкай дзятвы», уручаюць загадзя прыпасеныя падарункі /вялікія каробкі з цукеркамі/, ставяць перад сабой на парапет. Да слова, ужо ў першыя перабудовачныя гады ў прэсе з'явіліся публікацыі, дзе апавядалася, як строга пад пільным вокам партыйных органаў і КДБ вёўся падбор гэтых «пасланцоў».

Дэкляраваныя таталітарным ладам наскрозь крывадушныя, фальшывыя лозунгі накшталт «Усё лепшае — дзецям!», «Дзеці — кветкі жыцця!», «У савецкай краіне ёсць толькі адзін прывілеяваны клас — гэта дзеці!» заклікаы былі адыгрываць ролю своеасаблівых індульгенцый на адпушчэнне грахоў. А грахоў было шмат. Хто падлічыць, колькі соцень тысяч дзіцячых жыццяў было загублена ў час грамадзянскай вайны, калектывізацыі /чаго варты толькі арганізаваны бальшавікамі ў пачатку трыццатых голад на Украіне/, сталінскіх чыстак, калі «караючы меч» быў абрынуты і на дзяцей «ворагаў народа». А хіба не пра «любоў» камуністычнагу рэжыму да дзяцей сведчыў, напрыклад, выдадзены перад вайной указ, які прадугледжваў смяротнае пакаранне за крадзеж дзяржаўнай і калектыўнай маёмасці /кош бульбы з калгаснага поля/ і пад які падпадалі таксама дзеці, калі ім споўнілася 12 гадоў?

Так, былі тады і піянерскія лагеры, і дзіцячыя санаторыі. І пуцёўкі ў іх каштавалі адносна танна /зноў жа, гледзячы для каго/. Многія зараз успамінаюць гэты час з замілаваннем. Але ж трэба помніць і тое, што ў тым капеечным піянерскім лагеры нельга было сустрэць сынка або дачушку партыйнага вяльможы. У гэтым асяроддзі вёўся зусім іншы адлік жыццёвых даброт: элітарныя санаторыі і пансіянаты, шыкоўныя кватэры, закрытыя размеркавальнікі, прэстыжныя школы і інстытуты.

Адчуваю нецярплівае пытанне чытачоў з катэгорыі людзей, якія сёння пакутуюць ад настальгіі па былых часах: а што цяпер, як цяпер жывуць нашы дзеці, што ім даў дэмакратычны лад? У такіх выпадках заўсёды карціць у сваю чаргу спытаць: а дзе той дэмакратычны лад? Фактычна і сёння ва ўладзе тыя ж людзі, што змагаліся за «шчасце» дзяцей і дзесяць, і пятнаццаць гадоў назад пры сацыялістычным ладзе.

Ды ходы гісторыі не спыніш. Крах таталітарнай сістэмы адбыўся. І дэмакратычныя пераўтварэнні на Беларусі — рэальнасць. Рэальнасць — набытая намі свабода. Свабода адкрыта гаварыць пра свае балячкі, пра няўдачы, пра тое, што перашкаджае жыць, будаваць самастойную, незалежную дзяржаву.

Як хварэе дрэўца, перасаджанае на новае месца, так хварэе ў новых гістарычных умовах і нашае грамадства. Яно не хворае, як модна зараз гаварыць, яно менавіта хварэе. Ад гэтага ўсім нам вельмі цяжка, і ў першую чаргу дзецям, самай безабароннай яго часткі.

«Дзеці, грамадства, час» — так мы вызначылі тэму чарговага «круглага стала» «ЛіМа». Але ўсведамляючы, што тэма дзяцінства, па сутнасці, неабдымная, уключае ў сябе шмат самых розных аспектаў, і што больш карысці прынясе гаворка больш прадметная, канкрэтная, мы вырашылі сакцэнтаваць яе менавіта на праблеме абяздоленых дзяцей, дзяцей, пазбаўленых бацькоўскага дому, мацярынскай ласкі. Адным словам, тых, хто сёння мае самую пільную патрэбу ва ўвазе, клопатах грамадства.

У гаворцы за «круглым сталом» прынялі ўдзел: **П. Міцько** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь, старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета па пытаннях сям'і і моладзі, **У. Ліпскі** — пісьменнік, прэзідэнт Беларускага дзіцячага фонду, **С. Бубен** — начальнік аддзела сацыяльнай абароны дзяцінства Міністэрства адукацыі, **З. Сяўкоўская** — начальнік аддзела мацярынства і дзяцінства Міністэрства аховы здароўя, **Г. Лявонава** — начальнік аддзела Міністэрства юстыцыі, **А. Габа** — начальнік Мінскага прыёмніка-размеркавальніка для непаўналетніх, **Л. Дзямянчук** — дырэктар Магілёўскага дзіцячага дома, **Н. Пашкоўская** — дырэктар Смаргонскай школы-інтэрната для дзяцей-сірот, **Г. Рудзянкова** — галоўны інспектар Міністэрства адукацыі, **Л. Кузьмянкова** — выхавацель дзіцячага дома сямейнага тыпу /г. Мінск/, **А. Завадская** — інспектар па ахове дзяцінства Акцябрскага райаддзела адукацыі г. Мінска, **Л. Смагіна** — старшы навуковы супрацоўнік Беларускага нацыянальнага інстытута адукацыі, **М. Кашэўскі** — дырэктар Жодзінскай школы-інтэрната.

Гаворку распачаў **У. ЛІПСКІ**: — Прабачце, але я адразу настрою нашу гаворку на мінорны лад. Сёння ў рэспубліцы — 2 мільёны 970 тысяч дзяцей, з якіх 500 тысяч яшчэ жывуць у Чарнобыльскай зоне, што здароўя ім, натуральна, не прыбаўляе. Чарнобыльскія дзеці — гэта хворае пакаленне нацыі. Яшчэ некалькі сумных лічбаў. У Беларусі зарэгістравана 25 тысяч псіхічна хворых дзяцей, 15 тысяч дзяцей-інвалідаў. 40 тысяч хлопчыкаў і дзяўчынак з'яўляюцца сіротамі.

Цяжка зразумець, чаму Вярхоўны Савет на цэлы год зацягнуў прыняцце Закона аб правах дзіцяці. Няўжо ў вышэйшага органа ўлады ёсць больш важныя пытанні? Сёння ў нас фактычна няма дзяржаўнай праграмы па ахове мацярынства і дзяцінства. Хачу прадэманстраваць прысутным адзін цікавы дакумент. Называецца ён: «Охрана материнства и детства в условиях воздействия последствий катастрофы на Чернобыльской АС на 1991—1995 годы» і быў прыняты Вярхоўным Саветам 21 лютага 1991 года. На яго аснове ўрад рэспублікі распрацаваў адпаведную праграму. Сорамна казаць, але мала якія пункты гэтай праграмы выкананы.

**П. МІЦЬКО**: — Спачатку адкажу на папрок паважанага Уладзіміра Сцяпанавіча наконт таго, што Вярхоўным Саветам на год зацягнута прыняцце закона аб правах дзіцяці. Уношу карэктыў — не на год, а на чатыры месяцы. Як вы, магчыма, ведаеце, законапраект гэты быў падрыхтаваны для разгляду на вясенняй сесіі парламента, але па ініцыятыве дэпутацкага аб'яднання «Беларусь» быў выключаны з парадку дня. На лістападаўскай сесіі закон аб правах дзіцяці будзе прыняты.

Хто не ведае, як цяжка сёння гадаваць дзяцей, асабліва ў сем'ях матэрыяльна не забяспечаных. Здавалася б, урад наш павінен клапаціцца аб іх у першую чаргу. А што атрымліваецца на самай справе? Днямі атрымліваю наступны дакумент. Чытаю: «Саўмін Рэспублікі Беларусь накіроўвае праект закона Рэспублікі Беларусь аб унясенні змяненняў у закон Рэспублікі Беларусь аб дзяржаўнай дапамозе сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей». Не буду ўсё пераказваць. Сутнасць прапановы — шматдзетным сем'ям грашовую дапамогу ў вызначаным аб'ёме выплачваць поўнасцю пры ўмове, што сярэдні сукупны даход на кожнага члена сям'і не перавышае двухразовай мінімальнай заработнай аплаты ў рэспубліцы. Калі ж перавышае, дык выплачваецца толькі палова вызначанай сумы дапамогі. Я разумею, што бюджэт рэспублікі трашчыць, але ж не на дзецях эканоміць! Я ў Вярхоўным Савеце буду рашуча выступаць супраць гэтай урадавай «ініцыятывы».

На жаль, наша грамадства яшчэ не ўсвядоміла, што маці і дзіця — спецыфічная сацыяльная катэгорыя, якая патрабуе ўсеагульнай увагі. Наогул, праблемай мацярынства і дзяцінства ў нас займаюцца ўсе і патрошкі: міністэрствы адукацыі, аховы здароўя, сацыяльнага забеспячэння, унутраных спраў, юстыцыі, да дзесятка грамадскіх арганізацый. А кожнаму вядома, што здараецца ў сямі нянек... Даўно наспеў час мець адзіны каардынацыйны орган, які б сканцэнтраваў усе пытанні, звязаныя з выхаваннем падрастаючага пакалення. Я неаднойчы прапаноўваў стварыць пры Саўміне камітэт па справах сям'і і моладзі, але падтрымкі не атрымаў.

**С. БУБЕН**: — Я падзяляю трывогу Уладзіміра Сцяпанавіча Ліпскага, але, разам з тым, хачу ўнесці карэктывы ў лічбы, якія ён прывёў. Не ведаю, прынамсі, з якой крыніцы ўзяты звесткі аб тым, што ў рэспубліцы сёння налічваецца 40 тысяч дзяцей-сірот. Паводле аб'ектыўных дадзеных, афіцыйны статус дзяцей-сірот і дзяцей, пазбаўленых бацькоўскай апекі сёння маюць 12,7 тысячы асоб. З іх каля 7 тысяч утрымліваюцца ў дзяржаўных дзіцячых установах, пачынаючы ад дома дзіцяці і заканчваючы школамі-інтэрнатамі. 4,6 тысячы хлопчыкаў і дзяўчынак утрымліваецца ў апякунскіх /і прыёмных/ сем'ях і дзіцячых дамах сямейнага тыпу.

Сёння, нягледзячы на цяжкае эканамічнае становішча, дзяржава выдаткоўвае на кожнага выхаванца апякунскай сям'і і дзіцячага дома сямейнага тыпу ад 3,5 да 5,5 месячных мінімальных зарплат.

**Л. КУЗЬМЯНКОВА**: — Але 5,5 мінімальных зарплат на дзіця плацяць толькі першы год. Потым дапамога змяншаецца. І яшчэ. Аднолькавую суму грошай я атрымліваю незалежна ад узросту выхаванцаў. Зараз, напрыклад, у мяне адзінаццаць дзяцей. Старэйшаму хлопцу ўжо 15 гадоў. Ён у нас акселерат, вымахаў аж пад два метры. Паспрабуй падбяры на яго вопратку, абутак, бялізну. І колькі гэта цяпер каштуе...

**У. ЛІПСКІ**: — Дзіцячыя дамы сямейнага тыпу — іх сёння ў рэспубліцы дзевятнаццаць — трэба ўсебакова падтрымліваць. Паспрабуйце сёння тройчы пасадзіць за стол адзінаццаць дзяцей. Колькі трэба прадуктаў... А згатаваць, а за кожным прыбраць, памыць...

Пры ўсёй маёй павазе да работнікаў дзіцячых дамоў, — яны робяць вялікую і патрэбную справу, усё ж дзіцячы дом — гэта казённы дом. Дзіцяці ж патрэбна сям'я, хай і не родная...

**Л. ДЗЕМЯНЧУК**: — Дзіцячы дом — гэта не казённы дом... Тут я з вамі, Уладзімір Сцяпанавіч, не згодна.

**С. БУБЕН**: — Аб праблемах, якія патрабуюць неадкладнага вырашэння. Як вядома, наш урад падпісаў, а Вярхоўны Савет ратыфікаваў Канвенцыю ААН аб правах дзіцяці. Але пакуль што гэта не выходзіць за рамкі чыста фармальнага акта. Павінна быць распрацавана дзяржаўная палітыка па рэалізацыі гэтай Канвенцыі. У прыватнасці, у адносінах да сям'і, павелічэння яе адказнасці за выхаванне дзяцей. Гэта, дарэчы, прадугледжана ў праекце Закона «Аб правах дзіцяці», пра які нам тут гаварыў Пётр Антонавіч. У Адміністрацыйны, Грамадзянскі і Крымінальна-працэсуальны кодэксы павінны быць унесены змяненні, якія б прадугледзелі не толькі юрыдычную адказнасць, а і пакрыццё асобамі, пазбаўленымі бацькоўскіх правоў, і наогул не жадаюць выхоўваць сваіх дзяцей, выдаткаў дзяржавы на ўтрыманне.

**М. КАШЭЎСКІ**: — Сем'і алкаголікаў павінны поўнасцю кампенсаваць такія выдаткі дзяржавы. А не захочуць, — трэба прымусіць...

**С. БУБЕН**: — Сапраўды, хопіць нам паблажліва ставіцца да бацькоў, якія з лёгкасцю кідаюць сваіх дзяцей, спадзеючыся, што дзяржава іх накорміць, апране і вывучыць. Хай за свае ўчынкі расплачваюцца з уласнай кішэні. Нагадаю, што 80 працэнтаў выхаванцаў дзяржаўных дзіцячых устаноў — сіроты пры жывых бацьках.

**У. ЛІПСКІ**: — Гэта стала амаль што правілам — маці пазбаўляюць мацярынскіх правоў, а яна працягвае весці па-ранейшаму паразітычны спосаб жыцця, нараджаючы ад выпадковых «кавалераў» новых і новых дзяцей, якіх у яе забіраюць у дзіцячыя дамы. Мне расказвалі, што ў некаторых дзіцячых дамах склаліся цэлыя дынастыі выхаванцаў, звязаных паміж сабой сваяцкімі вузамі.

**М. КАШЭЎСКІ**: — Я б хацеў звярнуцца да Зінаіды Арцёмаўны Сяўкоўскай, якая тут прадстаўляе Міністэрства аховы здароўя, з пытаннем: няўжо нельга ўстанавіць нейкі кантроль над такімі жанчынамі? Многія з іх наогул маюць псіхічныя адхіленні, з'яўляюцца алкагалічкамі. Яны плодзяць такіх жа хворых дзяцей. Ды столькі, што хоць ты прысвойвай званне маці-гераіні. Я разумею, што прымусовая стэрылізацыя ў нас забаронена, але ж нейкае выйсце шукаць трэба. У інтарэсах усяго грамадства...

(Працяг на стар. 12)



Дзетдомаўцы. *Фота В.СТРАЛКОЎСКАГА*

## Віктар КАВАЛЕНКА:

# «УСЁ ВЫРАШАЕ НАВУКОВАСЦЬ»

***Час уносіць свае карэктывы ва ўсе сферы грамадскага жыцця і свядомасці. Тычыцца гэта і літаратурных густаў, поглядаў, ацэнак. Як стала вядома, акадэмічны Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы ўзяўся за вялікую і адказную працу — напісанне новай гісторыі беларускай літаратуры. З гэтай нагоды наш карэспандэнт гутарыць з дырэктарам інстытута, пісьменнікам Віктарам Каваленкам.***

**— Якімі патрэбамі сучаснага духоўнага жыцця выклікана неабходнасць стварэння новай акадэмічнай гісторыі беларускай літаратуры? Ці не будзе яна знаёмым нам «перапісваннем», што адбывалася пасля кожнай змены палітычнага курсу?**

— Патрэбы несумненна самыя неадкладныя. Яны выцякаюць з глабальных працэсаў палітычнага і духоўнага жыцця рэспублікі на сучасным этапе. Ідзе пераацэнка ўсіх каштоўнасных арыенціраў, якімі валодала дагэтуль грамадства. Зразумела, што ў такіх умовах і гісторыя нацыянальнай пісьмовай культуры і літаратуры не можа заставацца ў абсягу мала змененых ці ледзь-ледзь падноўленых ацэначных вызначэнняў, хоць шмат хто зацікаўлены якраз у тым, каб змены ва ўсіх сферах жыцця засталіся мінімальнымі ці паказальна-фармальнымі. Бурныя падзеі перабудоўчага зместу, іх сэнс і напрамак, нават калі гэтыя падзеі пакуль што хаатычныя і сацыяльна недастаткова выразныя, паскараюць выспяванне народнай свядомасці як свядомасці дэмакратычнай. Іх дыктат адчуваецца ўсё мацней. Было б недаравальна, калі б беларускае літаратуразнаўства нашмат адставала ад паскораных зрухаў у свядомасці людзей.

Літаратуры і мастацтву, як вядома, належыць выключная роля ў гісторыі кожнага народа. З поўным правам можна сказаць, што менавіта іх дзейнасць у большай ступені, чым іншыя фактары, ствараюць, духоўна аб'ядноўваюць і палітычна ўмацоўваюць нацыю. Асабліва гэта характэрна ў сучасны момант для нацый, якіх называюць нацыямі «запозненага развіцця». Напрыклад, нацыі лацінаамерыканскага кантынента літаральна створаны іх творчай і гуманітарнай інтэлігенцыяй, востра ўспрыняўшай лёс сваіх народаў у перспектыве сусветнага гістарычнага прагрэсу. Пісьменнікі і вучоныя Лацінскай Амерыкі здолелі спалучыць багатую міфалагічна-фальклорную спадчыну сваіх народаў з прынцыпамі філасофскага мыслення Еўропы і гэтым самым забяспечылі ўздым уласных нацыянальных культур на сусветныя вышыні.

Ва ўмовах Беларусі праблема паўстае не гэтак у выглядзе стварэння нацыі, колькі ў выглядзе яе адраджэння, бо Беларусь зведала паласу ўздзеяння еўрапейскай культуры ў сярэднявеччы. У XIX стагоддзі пачалося яе новае адраджэнне — зварот да культурных традыцый мінулага. Гэты працэс ідэйна і духоўна жывіўся перш за ўсё творчай энергіяй літаратуры і мастацтва, якія натхняліся адчуваннем запаветных імкненняў народнай душы.

Перад усімі гуманітарнымі навукамі рэспублікі, у тым ліку перад літаратуразнаўствам, паўстае задача аб'ектыўна даследаваць працэс нацыянальнага самаўсведамлення беларускага народа, адлюстраваны яго шматвяковай культурай. Гэтая задача ўсяляк звужалася і скажалася ў савецкі час — у гады жорсткага ідэалагічнага кантролю за творчай і навуковай думкай. Сёння стварыліся спрыяльныя ўмовы для перагляду шматлікіх штучных ідэалагічных схем і канонаў, якія сілком прыўносіліся ў сферу навуковай дзейнасці. Таму патрэбна рашучае паглыбленне і абнаўленне філасофскіх асноў разумення ўсёй духоўнай гісторыі беларускай нацыі з перспектывай вылучэння прыярытэту нацыянальнай ідэі ў духастваральнай дзейнасці народа. Вельмі доўга, напрыклад, прывівалася перакананне, што ў ідэйна- творчым мысленні беларускіх пісьменнікаў пераважала сацыяльная трывога за народ. Несумненна, сацыяльныя матывы ў беларускай літаратуры надзвычай моцныя, аднак сёння, як ніколі раней, выразна відаць, што яны цесна спалучаны з ідэяй нацыянальнага вызвалення і ўнутрана падпарадкаваны ёй.

Такім чынам, стварэнне новай гісторыі беларускай літаратуры мае за мэту нацыянальна-духоўнае выхаванне на аснове праўдзівых фактаў культурнага жыцця народа. Гэтая мэта ўключае ў сябе і адукацыйнае прызначэнне. Існаванне новай гісторыі літаратуры паспрыяе стварэнню паўнавартых падручнікаў і дапаможнікаў па беларускай літаратуры для нацыянальнай школы ўсіх ступеняў.

Што датычыцца вашай зусім не лішняй занепакоенасці, ці не будзе новая гісторыя беларускай літаратуры кан'юнктурным «перапісваннем» ацэначных устанаўленняў паводле чарговай змены палітычнага курсу, то адказ на ваша пытанне, як мне здаецца, вельмі няпросты.

Вядома ж, кожны паважаючы сябе сур'ёзны навуковец ведае цану палітычнай кан'юнктуры і павінен дысцыплінаваць сваю пошукавую думку патрабаваннямі гістарычнай аб'ектыўнасці. Нішто не ідзе так на карысць глабальным інтарэсам нацыі як праўдзівае асвятленне яе гісторыі. І ўсё ж некаторага ідэалагічнага перабору ў бок нацыянальнага ўхілу ў сучасных умовах пазбегнуць, відаць, не ўдасца. Калі быць рэалістам, то нельга не прызнаць, што працяглае, сямідзесяцігадовае культываванне нейкай аднабаковасці не можа не выклікаць на пэўны час — да ўсведамлення гістарычнай раўнавагі — другой аднабаковасці. І гэта правамерна. У такім выпадку пачынае дзейнічаць закон пазнання паўнаты цэлага, без яго аднабаковых ацэначных вылучэнняў. Калі раней нацыянальная праблематыка ў гісторыі беларускай літаратуры глыбока не даследавалася і замоўчвалася, то непазбежна ў свабодных умовах даследавання яна стане прыярытэтнай. У гэтым сэнсе новая гісторыя беларускай літаратуры будзе палітызаванай, што мала засмучае нас. Мы лічым, што такая палітызацыя пасля шматгадовага прымусовага крэну ў іншы бок з'яўляецца плённай і ў блізкай перспектыве служыць аб'ектыўнаму ўзнаўленню сапраўднай літаратурнай рэчаіснасці.

У сувязі з гэтым нельга не падзівіцца заявам, што, маўляў, хопіць палітызацыі ў сучасным інтэлектуальным жыцці Беларусі. Напрыклад, усім вядомы Іван Антановіч, былы загадчык аддзела культуры ЦК КПБ, у артыкуле «Беларусы з-за мяжы і тутэйшыя» /«Звязда», 7 верасня 1993 г./ вельмі ж сарамаціць сучасных нацыянальна арыентаваных публіцыстаў і літаратараў, якіх ён называе не інакш, як «нацыянал-манапалістамі», за тое, што яны сёння не пазбавіліся палітычных сімпатый. Сам у мінулым манапаліст з манапалістаў, ён піша: «І я добра памятаю, як бэсцілі ў свой час «партакратаў» /ах, бедныя партакраты! — **В.К.**/ менавіта за палітызацыю культуры. Але вось дзіва: менавіта за гэта хваляць сягоння нацыянал-манапалістаў. Сумна: нашы маладзейшыя калегі, якія, здаецца, павінны быць пазбаўлены ад гэтых шораў палітызацыі, вяртаюць нас на гэтую дарожку зноў». Сумна, мне здаецца, у дадзеным выпадку ад іншага. Аказваецца, ёсць людзі, якія, так рашуча асуджаючы сучасную палітызацыю, зусім не абцяжарваюць сябе турботай хоць неяк схаваць празрыстасць сваіх палітычных намераў. Вядома ж, І.Антановіча клапоціць не палітызацыя сама па сабе /інакш бы ён пакаяўся ва ўласных грахах па гэтай лініі/, а тое, што сучасная нацыянальна палітызаваная публіцыстыка разбурае мілыя, напэўна ж, яго сэрцу ўстарэлыя ідэалагічныя каноны і клішэ. Бо інакш адкуль жа такі палемічны спрыт?

Няўжо Іван Іванавіч не адчувае, што і ён асабіста дачыніўся да ўзнікнення новай палітызацыі, паслухмяна ў мінулым насаджаючы старую?..

Спадзяёмся, што нацыянальная ідэалагізацыя ці нацыянальная «новая міфалогія» дапаможа і нам пратрымацца навукова на пераходным рубяжы грамадскіх перамен, хоць, вядома, вера ў яе выратавальную функцыю не павінна быць безагляднай. У канчатковым выніку ўсё вырашае глыбокая і паслядоўная навуковасць.

**— З якіх прычын творчы калектыў узяўся перш за даследаванне навейшай літаратуры — літаратуры XX стагоддзя?**

— Так, спачатку гэта будзе «Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя» ў чатырох тамах ці кнігах. Выбар наш мэтанакіраваны. Агульнавядома, што менавіта гісторыя літаратуры XX стагоддзя ў сваім папярэднім асэнсаванні атрымала ва ўсіх народаў былога СССР найбольшую дозу вульгарна-ідэалагічнай ін'екцыі. Тут найбольш замоўчванняў, пропускаў, скажоных ацэнак, кан'юнктурных палітычных ілжэтэорый. Таму якраз гісторыі літаратуры XX стагоддзя неабходна ў першую чаргу вярнуць па мажлівасці яе сапраўднае фактaлагічнае аблічча.

Ёсць і іншыя меркаванні ўнутрыінстытуцкага характару, якія тым не менш зліваюцца з навуковай і агульнакультурнай мэтазгоднасцю. У выдавецтве «Навука і тэхніка» ўжо некалькі гадоў ляжаць «Нарысы па гісторыі беларуска-рускіх літаратурных сувязей», пачаць выдаваць якія выдавецтва ніяк не асмеліцца. Першая кніга «Нарысаў...» ахоплівае перыяд ад старажытнасці да канца XIX стагоддзя. У ёй шмат невядомага і малавядомага матэрыялу па гісторыі ўласна беларускай літаратуры, яна ўвабрала ў сябе ці не ўсе важнейшыя архіўныя літаратуразнаўчыя знаходкі апошніх гадоў. І таму, мы лічым, у нейкім сэнсе «Нарысы...» могуць часова і часткова выконваць функцыю гісторыі нацыянальнай літаратуры вышэйназванага перыяду. Павінен прайсці пэўны час, пакуль літаратуразнаўства назапасіць новыя архіўныя адкрыцці, якія дазволяць раскрыць гісторыю беларускай літаратуры мінулых стагоддзяў у глыбейшым навуковым асэнсаванні. Да гэтай працы мяркуецца прыступіць пазней.

**— Ці ёсць жанравая спецыфіка пры напісанні гісторыі?**

— Ёсць — і даволі істотная. У агульных рысах спецыфіка зводзіцца да патрабаванняў гэтак званага «акадэмічнага стылю» ў лепшым разуменні тэрміна. Яго сутнасць: характар даследавання дыктуецца не гэтак адносінамі аўтара да літаратурнага матэрыялу, хоць і яны павінны выразна адчувацца, колькі праблемным зместам самога матэрыялу. Творчым партрэтам пісьменнікаў і аглядным раздзелам, прызначаным для «Гісторыі...», супрацьпаказана празмерная эсэістычнасць, бо ў іх змесце вялікае значэнне набывае адукацыйная мэта, даведачнасць, у нейкай меры — нават энцыклапедычнасць. Гісторыя літаратуры не толькі эстэтычна выхоўвае асобу, але і дае навукова пераканальныя веды пра характар і асаблівасці літаратурнага працэсу, пра багацце духоўнай спадчыны народа.

Аўтарства артыкула для «Гісторыі...» у нейкай меры адноснае. Аўтар павінен не толькі даць уласны аналіз праблематыкі творчасці пісьменніка і яе стылёвых увасабленняў, але і абавязкова ўлічыць усё плённае і карыснае, што было сказана ў літаратуразнаўстве і крытыцы пра яе дагэтуль. Дазваляецца паўтараць чужыя думкі, у асобных выпадках з-за малога аб'ёму артыкула нават без канкрэтных спасылак, але, вядома, у карэктнай форме. «Гісторыя...», — гэта не толькі гісторыя развіцця мастацкай культуры слова, а яшчэ ў нейкай меры і гісторыя нацыянальнай літаратуразнаўчай думкі ў яе самых высокіх выяўленнях.

У раздзелах для «Гісторыі...» павінен як найстражэй вытрымлівацца прынцып гістарызму ў ацэнках і вывадах. Гэта значыць, што ацэначны аналіз твора павінен праблемна суадносіцца са зместам папярэдніх твораў пісьменніка і з усім фонам літаратурнага развіцця пэўнага часу. Інакш узнікае пагроза суб'ектывізму: мастацкае і грамадскае значэнне твора згодна асабістым сімпатыям аўтара артыкула недаацэньваецца або пераацэньваецца. У такім выпадку гісторыі не атрымаецца.

Важна вытрымліваць суразмернасць у падачы матэрыялу: літаратурна значны твор патрабуе і больш падрабязнага разгляду.

Асабліва супрацьпаказана «Гісторыі...» прыблізнасць аналізу. Адзін з самых распаўсюджаных недахопаў артыкулаў, для яе прызначаных, як паказвае існуючы ўжо вопыт, — гэта ўнікненне разгляду канкрэтнага зместу канкрэтнага твора і падмена яго густым наборам абстрактна-тэарэтычных дэфініцыі /ілжывы акадэмізм/, якія маюць даволі нейтральныя адносіны да праблемнага зместу гэтага твора і могуць з такім жа поспехам прыкладвацца да любога твора іншага пісьменніка. Адсюль адсутнасць значных навуковых абагульненняў і вывадаў наогул.

**— Ці існуе папярэдне распрацаваны праспект новай «Гісторыі...»?**

— У тэкставым афармленні не існуе. Ёсць толькі макет-праспект. Хоць трэба прызнаць, што добра было б, каб папярэдне быў падрыхтаваны філасофска-грунтоўны і праблемна-канкрэтны праспект такога маштабнага і адказнага будучага выдання, што асабліва карысным магло аказацца для маладых аўтараў. Акрамя таго, такі праспект садзейнічаў бы больш шырокаму і актыўнаму папярэдняму дыскусійнаму абмеркаванню супярэчлівых і недастаткова прасветленых літаратурных з'яў і працэсаў, якіх безліч. І ўсё ж было вырашана абысціся без падрабязнага праспекта, паспадзявацца ў вызначэнні агульнага канцэптуальнага напрамку на калектыўную думку ўсяго творчага калектыву. Чаму?

Па-першае, такі падыход, як нам здаецца, найбольш дэмакратычны. Згадваецца, што ў савецкі час падрабязнаму праспекту маштабных літаратуразнаўчых прац надавалася палітычна-накіроўваючае значэнне. Напісанне такога праспекта даручалася, звычайна, вучо-

Сярод кніг

# У ПОШУКАХ СВАЙГО БЕРАГА

У многім гэтая кніжка выглядае нязвыкла для крытыка ці чытача. Не, не знешнім выглядам — знешне яна якраз і па фармаце, і па афармленні мала чым адрозніваецца ад прадукцыі нашых выдавецтваў. Хаця, папраўдзе, няма звыклай анатацыі на супервокладцы і на апошняй старонцы, а ўнізе замест горада выдання Мінск стаіць «Полацк, 1993». Галоўнае ж адрозненне зборніка Славаміра Адамовіча «Зямля Ханаан», што выпусціла выдавецкая суполка «Полацкае ляда», у змесце.

Сапраўды, пакуль цяжка ўявіць на старонках нашых паэтычных зборнікаў эпатажныя радкі, як з твора пад назвай «Верш, напісаны раніцай, пасля нясконччанага акту мастурбацыі». Такіх «вольнасцяў» у зборніку дастаткова, і, думаю, хоць цэнзуры ў нас зараз няма, многія з іх пасля рэдактуры ў дзяржаўным выдавецтве былі б проста немагчымыя.

Але эпатаж эпатажам, а ўсё ж хочацца зірнуць на кнігу з пункту гледжання літаратуры, бо ўсё астатняе, як «фанцік» ад цукеркі.

Славамір Адамовіч — не навічок у паэзіі, і тыя, хто назірае за яго творчасцю, заўважаць якасна новага аўтара. Што тут першасна: унутраная эвалюцыя ці ўплыў сённяшніх аднадумцаў? Сказаць адразу цяжка, але тое, што сёння С. Адамовіч зусім не той традыцыйны пачатковец, што раней, — безумоўна. Дык што ж гэта за зямля Ханаан, якая дала назву зборніку паэта?

**... Дзе блакітны ядловец свае раскідаў**
**пірамiды,**
**дзе стаяць векавечныя дрэвы**
**ў зялёных імхах,**
**дзе люблю я жанчыну у вобразе юнай**
**сільфіды,**
**там святая зямля, там стагоддзямі**
**ўвесь я прапах;**
**там жыве патаемнае ў пушчы**
**цнатлівай, а ўранні**
**там на сонцы раса зіхаціць, як сухое**
**ў фужэрах віно,**
**там чмялі прызнаюцца чмяліхам**
**у верным каханні,**
**там бабры запрашаюць на святы**
**ў сваё казіно...**

Мне здаецца, С. Адамовіч вельмі яскрава акрэсліў крэда шмат якіх сваіх сяброў з апошняй па часе генерацыі. Струхнелыя старыя лозунгі, воклічы, звыклыя ў сваёй безаблічнасці вобразы выклікаюць у іх раздражненне, нават адчужэнне. Калі вылілася столькі маны, калі адныя і тыя ж людзі на вачах мяняюць колеры, мітусяцца, хочацца, відаць, пратэставаць такім чынам: ісці ў іншы свет, шукаць іншыя матывы, кідаць выклік гэтаму жорсткаму і лжываму вэрхалу.

**Сняцца сны-паралелаграмы—**
**кабуэльфадратызмы дзён;**
**сняцца травы, адсутнасць хамаў,**
**сніцца дзедаў ляжак-услон;**
**сняцца моры, лясы, бязлюддзе —**
**толькі я ў зеляніне гор;**
**сніцца ўсё, што было й што будзе.**
**Сніцца мне: я ляту да зор.**

Я б не сказаў прытым, што сённяшнія так званыя маладыя ў нечым прынцыпова новыя. У пошуку формы, праз абцяжарванні і заблытанасць радка ўсё ж прабіваюцца і звыклыя матывы, і традыцыі класічнай беларускай паэзіі. Ды інакш і быць не магло. Таму я параіў бы старэйшым калегам не жахацца і не крывіцца,

*Славамір Адамовіч. Зямля Ханаан. Вершы. Полацк, 1993.*

ным з бездакорнай, на думку ідэалагічнага кіраўніцтва, палітычнай рэпутацыяй. Па сутнасці, гэта было прадпісанне, навязванне канцэпцыі. А ў навукова-творчым плане атрымліваўся парадокс, на які мала хто звяртаў увагу: гатовыя вывады маглі папярэднічаць самому працэсу пазнання і даследавання, і выканаўцам заставалася толькі больш-менш умела ілюстраваць вядомую схему. Мы вырашылі нічога нікому не навязваць. Па-другое, у перыяд перагляду сутнаснага зместу духоўных каштоўнасцей, калі яшчэ ў літаратуразнаўстве і крытыцы пануе велізарны роскід іх ацэначных адчуванняў, немагчыма знайсці групу дастаткова падрыхтаваных людзей, якія асмеліліся б узваліць на сябе непасільны цяжар філасофска-канцэптуальнага пераасэнсавання ўсёй гісторыі нацыянальнай літаратуры і знайсці дастаткова аб'ектыўныя формулы разумення яе дыялектычных працэсаў, якія хоць бы прыблізна задаволілі многіх. І трэцяе. Мы лічым, што пэўныя канцэптуальныя падыходы для напісання новай «Гісторыі...» мы ўсё ж намацалі і ў агульных абрысах прадумалі, хоць, вядома, яны патрабуюць пастаяннага ўдакладнення і паглыблення. Я маю на ўвазе перш за ўсё згаданыя ўжо «Нарысы па гісторыі беларуска-рускіх літаратурных сувязей», дзе, як нам здаецца, апрабіраваны некаторыя новыя погляды на нацыянальна літаратурны працэс, асабліва гэта датычыцца савецкага перыяду. Тое ж самае можна сказаць пра складзеную супрацоўнікамі інстытута праграму па беларускай літаратуры для сярэдняй школы, якую мы назвалі «альтэрнатыўнай» і «праграмай-канспектам». Яна ў нейкай меры унікальная, бо ўяўляе сабой даволі падрабязна распрацаваны канспект выкладання творчасці кожнага пісьменніка, які так або інакш будзе вывучацца ў школе. Таму і аб'ём праграмы адпаведны — каля 10 друкаваных аркушаў. Часопіс «Роднае слова» заканчвае яе друкаванне. Зразумела, што такога характару праграма-канспект можа выконваць у нейкай ступені ролю праспекта і пры стварэнні акадэмічнай гісторыі літаратуры.

Дзеля выпрацоўкі светапогляднай пазіцыі, якая магла б легчы ў аснову стварэння новай «Гісторыі...», Інстытутам літаратуры восенню мінулага года праведзена рэспубліканская навуковая канферэнцыя «Прынцыпы напісання новай гісторыі нацыянальнай літаратуры», у якой, акрамя выкладчыкаў вышэйшых навучальных устаноў Беларусі, актыўны творчы ўдзел прыняла група вядучых навуковых супрацоўнікаў Інстытута літаратуры імя Т.Р.Шаўчэнкі АН Украіны.

Праведзена таксама некалькі бурнадыскусійных нарад аўтарскага калектыву.

Такім чынам, падрыхтоўчая праца да напісання новай «Гісторыі...», з нашага пункту погляду, не была зусім пазбаўлена філасофска-канцэптуальнай асновы, пэўныя светапоглядныя канстанты намі вызначаны, хоць спецыяльны праспект не рыхтаваўся. Астатняе, мы спадзяёмся, прыкладзецца ў працэсе працы. Нас чакаюць абмеркаванні і абмеркаванні. Дай Бог, каб яны былі плённымі.

**— У якой ступені разлічваеце вы на дапамогу ў вашай працы Саюза пісьменнікаў і якія формы можа прыняць гэтая дапамога?**

— Трэба сказаць, што ў нас даўно ўжо склалася добрая і неабходная нам традыцыя важнейшыя навуковыя распрацоўкі інстытута абмяркоўваць у Саюзе пісьменнікаў. Так, на пасяджэнні школьнай камісіі пры СП была абмеркавана згаданая ўжо альтэрнатыўная «Праграма-канспект па беларускай літаратуры для сярэдняй школы». Мяркуем, што і раздзелы для новай «Гісторыі...», калі не ўсе, то самыя адказныя і складаныя па канцэпцыі, будуць абмеркаваны на пасяджэннях секцыі крытыкі і літаратуразнаўства.

Ёсць патрэба абаперціся на падтрымку пісьменнікаў і пры вызначэнні складу персаналій. Тут мы збіраемся ўспрыняць парады саюза як вырашальныя. Тым больш, што новая «Гісторыя...» павінна быць дэмакратычнай і ў тым плане, каб асобныя творчыя партрэты былі прысвечаны не толькі несумненным класікам, але і як мага большаму колу пісьменнікаў яркай творчай індывідуальнасці, якія належаць да сярэдняга і нават малодшага пакалення.

Дапамога Саюза пісьменнікаў ідзе і па непасрэднай навукова-творчай лініі. Некаторыя члены Саюза пісьменнікаў, якія не працуюць у Інстытуце літаратуры, уваходзяць у аўтарскі калектыў па стварэнні новай «Гісторыі...».

Магчыма, у будучым мы вымушаны будзем прасіць Саюз пісьменнікаў пасадзейнічаць у выданні нашага даследавання.

Лічу, што і наша сустрэча на старонках пісьменніцкай газеты — адна з важных форм дапамогі нам.

**— Ваш прагноз адносна навукова-літаратурнага ўзроўню будучай новай «Гісторыі»?**

— Цяжкае пытанне. Але я вельмі ўдзячны за яго. Ваша пытанне азначае, што літаратурная грамадскасць рэспублікі зацікаўлена ў выніках нашай працы. Такая спрыяльная ўвага не можа не надаць нам энергіі. А па сутнасці адказ можа быць толькі меркавальны. Думка чапляецца за такі пабочны фактар. Папярэдняя акадэмічная «Гісторыя беларускай літаратуры», якая стваралася каля 30 гадоў таму назад, была ўспрынята даволі прыхільна як у рэспубліцы, так і за межамі яе. Ёсць апублікаваныя справаздачы абмеркаванняў, рэцэнзіі. Як вядома, за скарочаны варыянт той «Гісторыі...» на рускай мове асноўным яе аўтарам была прысуджана Дзяржаўная прэмія імя Якуба Коласа. З улікам у цэлым нядрэнных навукова-літаратурных вартасцей папярэдняй працы была нават прапанова не планаваць новай гісторыі літаратуры, а перапрацаваць старую. Дык няўжо сёння, калі існуе больш свабодная прастора для самарэалізацыі навуковай думкі, новая «Гісторыя...» акажацца горшай за папярэднюю? Праўда, тыя раздзелы, якія паступілі ў першапачатковым варыянце на абмеркаванне, у пераважнай большасці прызнаны яшчэ не гатовымі для апублікавання. І гэта не можа не трывожыць нас.

Акрамя таго патрэбны вельмі інтэнсіўныя архіўныя пошукі як у рэспубліцы, так і за яе межамі, на што ў Інстытуце літаратуры катастрафічна не хапае грошай. Практычная сітуацыя асабліва ўскладняецца недахопам кадраў, здольных да высокапрафесійнага філасофска-тэарэтычнага мыслення. Мае пэўнае адмоўнае значэнне і тое, што навуковы калектыў, які прыступіў да напісання новай гісторыі літаратуры, у сваёй пераважнай большасці сам выхоўваўся на ранейшых вульгарызатарскіх канцэпцыях. Зразумела, што ўзровень будучай гісторыі нацыянальнай літаратуры ў значнай меры будзе залежаць ад здатнасці аўтарскага калектыву светапоглядна перастварыць самога сябе ў працэсе працы. Акрамя таго, штат супрацоўнікаў няўхільна скарачаецца, хоць ён і так нешматлікі — наш інстытут самы малакольксны ў Акадэміі навук. Здараюцца дні, калі па некалькі чалавек падаюць заявы аб звальненні. Прычын пераходу супрацоўнікаў у іншыя ўстановы некалькі, асноўныя з іх: нізкая зарплата ў параўнанні з іншымі ведамствамі, няпэўнасць будучага існавання Акадэміі навук наогул, якую збіраюцца радыкальна і, на наш погляд, недастаткова прадумана рэфармаваць. Ёсць яшчэ адна акалічнасць, якая трывожыць усіх сумленных літаратуразнаўцаў і несумненна ўплывае на іх працу, — гэта малая запатрабаванасць у сістэме сучасных культурных, адукацыйных і грамадска-палітычных структур вынікаў літаратуразнаўчай дзейнасці. І ўсё ж мы будзем працаваць, наколькі хопіць сіл і магчымасцей.

**Гутарку вяла Г. КАРЖАНЕЎСКАЯ**

*У бліжэйшых нумарах «ЛіМ» змесціць адказы на анкету, прысвечаную новай гісторыі беларускай літаратуры.*

---

а паспрабаваць паставіцца да з'явы новых маладых з разуменнем, з імкненнем разабрацца і ўбачыць нешта істотнае за знешнім бляскам і грукатам. Зрэшты, я ўспамінаю словы свайго старэйшага сябра-літаратара пра тое, што гарачыя могуць і астыць, а вось халодныя ніколі не загарацца.

І зноў праілюструю сказанае на прыкладзе таго ж С. Адамовіча. Што нагадваюць такія вось ягоныя радкі?

**Як я люблю, зямля, тваю аздобу,**
**што прарастае ў травах і лясах,**
**дубоў малых упартую худобу,**
**пад бокам шышку ў сініх верасах...**

Як кажуць, душу не схаваеш, як не схаваеш існасці, менталітэту і тых жа самых традыцый, з якімі кожнае новае пакаленне так упарта ваюе...

Увогуле, традыцыі і наватарства — тэма балючая, вечная і складаная, і не вазьмуся гэтак упохапак кранаць яе. Тым не менш, так званыя «самавыдаўскія» зборнікі сведчаць, што пры ўсёй знешняй непадобнасці, пры падкрэсленай нетрадыцыйнасці — гэта працяг агульнага беларускага літаратурнага працэсу. І яму таксама бракуе часам інтэлектуальнасці, філасафічнасці, яркіх адкрыццяў і самабытнасці.

Паглядзім на паэта, калі ён хоча адысці ад сваго традыцыйнага «я».

«Я — маё любімае слова, мой знак сэнсабыцця. Гаспадар майго цела не любіць прышлых. Толькі Ён і толькі Я».

І тут жа, праз старонку:

**Маіх вачэй расчыненыя форткі**
**глядзяць у свет, дзе восень і дажджы,**
**дзе лістапад у жоўтыя абгорткі**
**паапранаў шурпатыя глыжы.**

Такіх прыкладаў у зборніку дастаткова, і гэта сведчыць, што аўтар пакутна шукае сябе, сваё слова, і калі яно знаходзіцца, то гучыць важка і глыбока.

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

*г. Наваполацк*

---

Віншуем!

# САМОТНЫ РЫЦАР ГАРМОНІІ

## Міколу КРУКОЎСКАМУ — 70



«Чалавек прыгожы» — так назваў сваю апошнюю манаграфію мой шаноўны калега, прафесар Мікалай Крукоўскі. Апошнюю з надрукаваных кніг, але, спадзяюся, адну з многіх у будучыні: яго творчай апантанасці ды інтэлектуальнай энергіі можна толькі па-сяброўску, з дабрынёй пазайздросціць. Самога аўтара гэтай рэнесанснай па змесце і пафасе кніжкі, філосафа і лінгвіста, красамоўнага лектара, настаўніка цэлых пакаленняў універсітэцкіх студэнтаў /ягонае сямідзесяціголдзе сёння супала з трыццатымі ўгодкамі прафесарскай дзейнасці ў БДУ/ мы ведаем як чалавека прыгожага ў высокім, духоўным сэнсе гэтага слова.

Пра Міколу Крукоўскага, відавочна, маглі б лепш за мяне паведаць яго равеснікі, сябры студэнцкай маладосці, асветнікі першага пасляваеннага пакалення беларускай інтэлігенцыі. У жыцці я «адстаю» ад яго ўсяго на адзінаццаць гадоў. Але гэтага хапіла на тое, каб мы на першай фазе жыцця апынуліся ў дзвюх сумежных эпохах. Мікола быў беларускім партызанам, удзельнікам апошняй /дай Божа!/ сусветнай вайны. А я ў тыя трагічныя гады вучыўся ў беларускай пачатковай школе, адваяванай у акупантаў беларускімі патрыётамі. У 1950 годзе /пік «культу асобы» Сталіна/ ён закончыў філфак, а я толькі вучыўся ў восьмым класе. На пачатку «хрушчоўскай адлігі» /1956 г./ ён быў ужо кандыдатам навук, а я — студэнтам другога курса ў БДУ. Адным словам, Мікола адносна мяне — з пакалення маіх найлепшых настаўнікаў.

На жаль, з гадамі кола нашых сяброў і аднакурснікаў сціскаецца, як тая «шчыгрынавая скура» з вядомай аповесці Бальзака: хто пакідае нас, губляючы творчую актыўнасць, а хто ўходзіць у вечнасць, далучаецца да продкаў сваіх, як дакладна гаворыцца ў Кнізе Быцця. Але ў прафесара ёсць істотная перавага перад намі, акадэмічнымі даследчыкамі. Штогод з асяроддзя чарговай плыні «шэраговых» выпускнікоў універсітэта ён набывае аднаго, а калі шанцуе, то двух і болей шчырых вучняў і паслядоўнікаў. Спакваля складваецца духоўная традыцыя і навуковая школа. Вельмі спадзяюся на вучняў М. Крукоўскага і ўпэўнены, што яны дапоўняць маю кароткую «рэпрызу» да яго інтэлектуальнага жыццяпісу. І, мабыць, яшчэ арганізуюць спецкурсы па ягоных фундаментальных даследаваннях...

Міколу было, відаць, лёсам наканавана стаць ля вытокаў беларускай філасофскай эстэтыкі. І ўчарашні партызан ішоў насустрач гэтаму наканаванню: развітаўшыся з вінтоўкай, ён адразу ж падаўся было на філасофскае аддзяленне БДУ, выдатна здаў уступныя экзамены. Але тады /ды й пазней, у гады майго студэнцтва/, апрача экзаменацыйнай, была «мандатная» камісія. За ёю заставалася апошняе слова, яна мерала абітурыентаў бальшавіцкім аршынам. Паводле «духоўнага інтэр'ера» /з «экстэр'ерам», відаць, было ўсё добра: Мікола — хлопец відны і прыгожы/ М. Крукоўскі не ўклаўся ў гэтую мерку. Нашы «мандатнікі» сказалі яму «Не!». Вось тады юнак падаўся на філфак, дзе, мабыць, марксісцка-ленінскае сіта было крыху шырэйшае, з інтэлектуальнымі прасветамі.

Так былы змагар за вызваленне Бацькаўшчыны набыў прафесію філолага-лінгвіста. У гэтым я таксама бачу наканаванне лёсу. Бо эстэтыка і культуралогія без прафесійных ведаў у галіне дакладных навук — пустая фармалістыка, імітацыя навукі. Дванаццаць гадоў даследаваў М. Крукоўскі лексікалогію і тэорыя мовы ў Інстытуце мовазнаўства. Лінгвістыка дапамагла яму адшліфаваць логіку думкі, бо яна — свайго роду матэматыка гуманітарных ведаў. Але не забываў і «першую любоў сваю» — эстэтыку і мастацтвазнаўства. Яна прывяла філолага ў БДУ, дзе з 1963 года ён — вядучы эстэтык і настаўнік студэнтаў гэтага флагмана /хоць далёка яшчэ не нацыянальнага/ нашай вышэйшай школы.

Першую фундаментальную манаграфію М. Крукоўскага па тэарэтычнай эстэтыцы «Логіка прыгажосці» /1965/ з энтузіязмам прыняла навуковая і літаратурна-мастацкая грамадскасць Беларусі. Гэта было адраджэнне і развіццё высокага ўзлёту людскога інтэлекту — дыялектыкі, вывад яе з марксісцкага «апендыксу» /хоць і ў непазбежнай тады марксісцкай абалонцы/. Я быў сярод першых рэцэнзентаў кнігі /«Полымя», 1966, N 2/. Мы, калегі Міколы, параілі яму абараніць па ёй доктарскую дысертацыю. Абарона адбылася паспяхова, хоць два апаненты /Разумны з Расіі і Перадзерыя з Украіны, чые імёны сёння даўно забытыя/, па сутнасці, выказаліся супраць. Але нават тагачасная прамарксісцкая навуковая рада не адважылася адхіліць лепшае ў былым СССР даследаванне па тэорыі эстэтыкі. Затое адхілілі дзялкі з ВАКа: знайшлі ў старых запасніках былога напастоўскага ды пралеткультаўскага ідэолага, нейкага Мацу, які бездапаможна, але ваяўніча выступіў супраць кніжкі М. Крукоўскага ў часопісе «Вопросы философии»...

У свой час Ф. Ніцшэ сказаў пра сябе: мой метад помсты грунтуецца на тым, каб чым найскарэй паслаць наўздагон глупству што-небудзь разумнае. Мікола «адпомсціў» сваім апанентам з годнасцю: апублікаваў новыя сістэмныя даследаванні «Асноўныя эстэтычныя катэгорыі: вопыт сістэматызацыі» /1974/, «Кібернетыка і законы прыгажосці» /1977/, урэшце, згаданую ўжо манаграфію «Homo pulchen — Чалавек прыгожы» /1983/. Кніжкі гэтыя — найлепшае з таго, што можна было апублікаваць у ідэалагічных цянётах савецкай эстэтыкі.

Свае папярэднія творы Мікола Крукоўскі напісаў па-расійску: на класічнай мове І. Тургенева і У. Салаўёва. Але ён быў першым у асяроддзі рускамоўнай універсітэцкай прафесуры, хто адклікнуўся на покліч сённяшняй хвалі нацыянальнага Адраджэння. Ужо некалькі гадоў чытае лекцыі на сваёй матчынай мове, апублікаваў шмат навукова-папулярных артыкулаў у беларускім друку, падрыхтаваў навучальныя дапаможнікі ў нашай матчынай мове. Прафесар М. Крукоўскі сёння — наша надзея і гарантыя таго, што нам ўсё ж такі ўдасца зрабіць універсітэт нацыянальным не толькі па назве, але і па змесце.

Славуты расейскі прафесар, на жаль, ужо нябожчык, Аляксей Лосеў напісаў свае лепшыя кніжкі — цэлую энцыклапедыю па антычнай і рэнесанснай эстэтыцы — недзе паміж сваімі 70-ю і 89-ю гадамі. Я ўпэўнены, што і мой калега прафесар Крукоўскі бліскуча рэалізуе свой творчы набытак такім жа чынам! — Цяпер ужо ў рэчышчы беларускага рэнесансу...

З глыбіні стагоддзяў даносіцца да нас прарочае слова Эклезіяста: «Бо ў вялікай мудрасці шмат смутку, і, набываючы веды, памнажаем самоту». Самотна сёння рыцарам гармоніі і класічнага квітнення культуры: наступіў час татальнага распаду, цемрашальства — эпоха заняпаду, дэнацыяналізацыі і плебейскага нігілізму. Але ж даўно было запаведана людзям: «І святло ў цемры свеціць, і цемра не агарнула яго».

**Уладзімір КОНАН**

***Калі пісаў гэтую невялікую аповесць, урывак з якой прапаную /рука не падымаецца напісаць «чытачам» — не магу ўявіць іх цяперашніх/ «ЛіМу», увесь час не пакідала адчуванне, што раблю нейкую чужую работу. Вядома, аповесць ва ўсіх адносінах атрымалася б лепшая, калі б яе сапраўды пісаў пісьменнік, якому пад 60, як майму герою...***

***Аўтар***

Андрэй ФЕДАРЭНКА

# ТАКОЕ КАРОТКАЕ ЛЕТА

## /ЗАПІСКІ ПІСЬМЕННІКА/

* * *

...Выходзіць, мой інфаркт — ад «Выбранага»? Якое паказала мне маю мізэрнасць? І калі б не выдаваў яго, калупаўся сабе патроху, нічога б не было, жыў бы па інерцыі, як і раней?

Але, паўтаруся, пры самых строгіх да сябе патрабаваннях я быў не самы горшы пісьменнік. Як рэдактара мяне хвалілі, я ўмеў заўважаць чужыя знаходкі, радаваўся невялікім сваім, адстойваў іх, перажываў, калі іншыя рэдактары /мабыць, адзіныя мае чытачы/ не заўважалі іх ці не лічылі за знаходкі. Я любіў літаратуру, жыў ёю, і не можа не быць ніякай карысці ад чалавека, які ўсяго сябе аддаваў нечаму трыццаць гадоў!

Пераглядаю зноў свае запіскі, і зноў пераконваюся, што гэта не проста схаластычныя накіды, якія, як думалася, могуць згадзіцца хіба што для нейкага мастацкага твора, а цэлая падсвядомая сістэма. Сістэма нават у тым, што запіскі па цэлых гадах не вяліся /дарэчы, згадваецца, як цяпер пішуць, што крытыка знікае, бо няма важкіх літаратурных твораў, — быццам працэс з аднолькавым поспехам нельга даследаваць і на падставе адсутнасці важкіх твораў!/.

З 1987 года запіскі, нават літаратурнага плана, перапыняюцца зусім. То быў час, калі я расклаў перад сабою чатыры свае кніжкі і пачаў выбіраць з іх адну. Тры гады рыхтавалася «Выбранае», правілася, большая частка перапісвалася па-новаму, а час усё бег, усё змяняўся, і мае сакратары, і калгаснікі, і партызаны ніяк не хацелі за ім пасяваць... Урэшце год назад выйшла «Выбранае». 1987—1991. Гады, у якія ўсе крытэрыі, ідэалы перавярнуліся на 180 градусаў...

Я быў не самы горшы пісьменнік, «Выбранае», адпаведна, не магло атрымацца самае горшае — дык што тады? Можа, не творы выйшлі «не тыя», а вера была «не тая»?

Дапусцім, што я ўсё жыццё сумленна, як умеў, стараўся закляпаць у мастацкія вобразы тое, што не магло быць вечным, верыў у тое, у што нельга было верыць разумнаму чалавеку: у сацыялізм, калгасы, у грамадства вышэйшай справядлівасці, у партыю камуністаў; і выйшла маё «Выбранае» якраз эталонам таго, што нікому не трэба.

Дапусцім, я ўпарта і сумленна будаваў вось такую хатку, у якой цяпер сяджу, і хатка атрымалася харошая, цёплая, у ёй можна жыць, — але пабудаваная не на цвёрдым грунце, а на ільдзіне. І вось ільдзіна растала.

Дапусцім, але што я такое? Акрамя таго, што сумленны рамеснік і добры рэдактар? Хто мяне дзе ведае? Чытачоў сваіх няма, у хрэстаматыі не ўведзены, ад публічных выступленняў заўсёды адмаўляўся... Мне было мала дадзена, таму мала з мяне можна і ўзяць. Я пабудаваў на ільдзіне хатку, а нехта ж — цэлыя дамы, палацы! Ды па гэтай логіцы павінна была пачацца проста эпідэмія пісьменніцкіх інфарктаў, і чым больш пладавіты пісьменнік, тым больш яго павінна была аглушыць перамена веры!

* * *

Не мог жа я адзін так моцна верыць у тое, у што верыць было нельга? Не трэба быць рэдактарам з амаль 30-гадовым стажам і такім сумленным чытачом, якім быў я, каб сказаць цвёрда і перад смерцю -- верылі ўсе, верылі, што будуюць не на ільдзінах, а на цупкім вечным грунце.

Учора ўзяў у Ліды томік Шукшына, выпадкова разгарнуў на апавяданні «Верую». У што ж? «В авиацию, в химизацию, в механизацию сельского хозяйства, в научную революцию, в космос и невесомость, в барсучье сало, в бычачий рог, в стоящую оглоблю — ибо это объективно!» А што складаецца з гэтых дэталяў? Самым «объективно» якраз і ёсць той грамадскі лад, які нясе ў сабе і хімізацыю, і НТР, і асваенне космасу...

Калі ў гэтае верылі лепшыя з лепшых, дык што казаць пра «масы»? Вось гэтая «аб'ектыўнасць» і звязвала, як раствор цагліны, эпізоды ваенныя, калгасныя, партыйныя, гістарычныя, любоўныя ў апавяданнях, аповесцях і раманах.

Але не перастаю здзіўляцца, чытаючы цяперашнія выступленні пісьменнікаў і цяперашнюю крытыку. Аказваецца, усе заўсёды разумелі, што тая вера была лухта, творы таго часу трэба лічыць як бы няпоўнымі, несур'ёзнымі, лепш пра іх увогуле не дужа згадваць, а калі згадваць, дык ацэньваць «ад зваротнага»: гультая, які не хацеў ісці ў калгас, трэба лічыць цяпер не за гультая, тым больш не за ворага, як ранейшая крытыка лічыла, а за станоўчага героя; пад паліцаем хай цяпер маецца на ўвазе не здраднік, а асоба трагічная, чалавек, які апынуўся паміж двух агнёў...

Можа быць усё, і тая вера сапраўды магла быць несур'ёзнаю. Але тады якая сур'ёзная, поўная? Якая, урэшце, заняла сваё законнае месца, калі адпала патрэба маскіравацца і гаварыць Эзопавай моваю? У рынечную эканоміку? У малы і вялікі бізнес? У школу авіяцыі, механізацыі, хімізацыі, у добрага паліцая, кепскага партызана, самадурапарторга, у сатану, «Бога — Храм — Адраджэнне»?

«Ибо» цяпер усё гэта — аб'ектыўна?

* * *

Чэрнь — гэта тыя, чый «творческий метод»:

Што загадаеце — то й напішу.

Чэрнь — той, хто выракся сэрца паэта,

Д'яблу і скрыпку прадаў, і душу.

Прыгадваю эпіграмы, артыкулы, выступленні цяперашніх нашых маладых і, паклаўшы руку на сэрца, мушу прызнаць, што ў іхніх прэтэнзіях да нашага пакалення больш праўды, чым позы і задзірыстасці. Асноўная думка гэтых выступленняў тая, што нашаму пакаленню, перш чым прэтэндаваць на ролю флагмана ў літаратуры, трэба пакаяцца, растлумачыць, па якіх прынцыпах адбылася /ці не адбылася/ перамена веры, і ў чым яна, гэтая вера, была і ёсць цяпер.

Можна іх зразумець: малады чалавек, выхаваны ў школе, ва універсітэце на лепшых узорах літаратуры, для якога слова Пісьменнік амаль святое, сінонім Настаўніка, і друкаванае мастацкае слова амаль святыня, і звычайная рэдакцыя — амаль Храм, спадзяецца пачуць ад нас нейкія пажаданні, патаемна чакае, можа, ад нас лістоў накшталт таго, які Грыгаровіч напісаў маладому Чэхаву, спадзяецца, можа, пачуць тое, што пачуў малады Дастаеўскі ад Бялінскага, малады Мапасан ад Флабэра, ведае, што старэнькі Талстой і перад смерцю чытаў творы маладых, і пасылаў ім пісьмы, і запісваў у дзённік уражанні... І што ж даведваецца пра нас і ад нас малады чалавек? Найперш, што мы не чытаем і адзін аднаго, не тое што іх, маладзейшых, што на пытанні «з чаго пачаць», «як жыць», «як пісаць» мы ў лепшым выпадку адказваем: наменклатура, рынак, незалежнасць /гэтаксама, як раней адказвалі: буржуазная прапаганда, станоўчы герой, чалавек працы, вытворчая тэма/, а ў горшым — проста глыбакадумна маўчым.

Міжволі на іх месцы засумняваешся: ды ці могуць нешта важнае, запаветнае, не звязанае з пэўным палітычным момантам, сказаць такія настаўнікі? А самае галоўнае, ці маглі хоць калі-небудзь? Міжволі пачнеш «касіць» пад корань што трэба і што не трэба...

Альбо як не згадзіцца з маладымі, што чым больш таленавіты пісьменнік, які памяняў цяпер веру, тым больш яму трэба «пакаяцца», бо тым больш у параўнанні з графаманам яго творы служылі той сістэме, якая панавала? На першы погляд гэта здаецца парадаксальным, да таго ж маладыя не прыводзяць доказаў, але гэта так.

У маім «Выбраным» ёсць апавяданне. Там калгасніца з малым сынам позна ўвечары перакопваюць — па скапанаму — калгасную бульбу. За гэта ганялі. Нарваўся брыгадзір і павёў іх у сельсавет складаць акт. Потым, па дарозе, глянуўшы на хлопчыка, які плакаў, адпусціў іх, хоць самому магло б за гэта ўляцець. У апавяданні атрымаліся жывыя героі, а ў цэлым іх «жывасць» даказвала толькі тое, што ў калгасах — адпаведна, і пры тым дзяржаўным ладзе, які выдумаў калгасы, — чалавек астаецца чалавекам з усімі сваімі душэўнымі якасцямі. Апавяданне было вытрымана па ўсіх канонах сацыялістычнага рэалізму.

Аднак крытык, рэцэнзуючы «Выбранае», хочучы зрабіць мне прыемна, напісаў: пісьменнік ужо ў тыя часы знаходзіў у сабе смеласць выводзіць жывых герояў, якія разумелі, што калгасы і ўсё, што гэтыя калгасы спарадзіла, — часовая недарэчнасць, зло, і таму, каб неяк перабыць тыя часы і дажыць да лепшых, «фермерскіх», вяскоўцы трымаліся адзін аднаго, памагалі...

Пераконваць, «запальваць» могуць толькі жывыя героі. Героі жывыя тады, калі сумняваюцца. Чым больш сумняваюцца, тым глыбейшы /нібыта/ канфлікт, тым лепшы мастацкі твор у дэталях і тым больш ён служыць пануючай ідэі ў цэлым; і тым больш ён даўгавечны, бо пры змене пануючай ідэі сумненне можна разглядаць як асноўную думку.

Асаблівыя нараканні на маладых за тое, што яны замахваюцца нават на святое святых — ваенную тэму, якая справядліва лічыцца ледзь не ўсім светам асноўнай заслугаю нашай літаратуры. Ужо за эксплуатацыю гэтай тэмы, нават за самыя слабыя творы, ніяк нельга вінаваціць. Як ні напішы, сам пафас твора будзе гуманістычны: вайна — трагедыя, зло, чалавек перастае належаць сам сабе, ставіцца ў бязлітасныя ўмовы выбару, што супярэчыць яго прыродзе; з другога боку, вайна — пробны камень: не будзь яе, ні сам чалавек, ні іншыя маглі б і не даведацца, які ён, што на самай справе жыве ў яго душы. Калі ж яшчэ рэалістычна, падрабязна выпісаны дэталі сітуацый, у якія трапляе чалавек на вайне, калі чытач зліваецца з псіхалогіяй героя, з думкамі — словам, калі твор высокамастацкі, ён яшчэ больш, чым твор слабы, павінен выклікаць у чытача непрыманне, агіду да вайны.

Успамінаю, як даўно, калі яшчэ працаваў у газеце і ездзіў у вясковыя камандзіроўкі, мне давялося заначаваць у адной вёсцы, у хаце настаўніцы. Вечар быў восеньскі, доўгі, і я папрасіў у настаўніцы пачытаць сачыненні дзевяцікласнікаў, якія яна правярала. Тэмай сачыненняў былі сучасныя ваенныя творы — як бы ты паступіў



Малюнак У.СКРЫГАНАВА

на месцы... не помню, скажам, Матросава? Усе пісалі, што таксама аддалі б жыццё за Радзіму; адно сачыненне было яўна лепшае, разгорнутае, шчырае. Нейкі хлопец пісаў, што ісці яму да школы пяць кіламетраў туды і пяць назад, ходзіць ён адзін і, каб не сцягвалася дарога, часта, пакуль ідзе, уяўляе сябе на месцы Матросава, Касмадзям'янскай, Кашавога, Гастэлы, Сотнікава, Мерэсьева, перажывае разам з імі катаванні, уяўляе сябе з пятлёй на шыі, як перад расстрэлам плюе ў твар ворагу і выціскае з сябе апошняе «гады»... Тады мяне гэта зусім не ўразіла, я падзівіўся толькі добраму стылю і хлопцавай начытанасці. Але цяпер...

Цяпер, услед за нашымі маладымі пісьменнікамі, не магу не папытацца таксама: дык што ж такое нашая слаўтая ваенная гуманістычная проза? Гэта сапраўды ўзор пацыфізму, заклік да дабра, ці гэта проста нейкае глумленне, калецтва маладых душ і розумаў, нейкі ўвесьчасны злавесны набат: рыхтуйся?! Будзь гатоў у імя пануючай ідэі /якая вельмі проста можа змяняцца/ выцерпець катаванні і памерці! Помні, што калі не захочаш памерці як герой, памрэш іншай, здрадніцкай смерцю! Выбірай. Не верыш? Вось табе прыклад: высокамастацкі твор, напісаны дэталёва, з усімі падрабязнасцямі — пачытай і пераканайся, што чакае тых, хто даражыць сваім жыццём і баіцца быць павешаным альбо закатаваным...

Адно для сябе суцяшэнне: мала было дадзена, высокіх праўдзівых вобразаў стварыць не здолеў, у хрэстаматыі не ўваходзіў...

* * *

Зноў разгортваю наўздагад Шукшына і чытаю: «С одного края небо уже очистилось, голубело, и близко где-то было солнышко», — чытаю і бачу не неба і сонейка, а тое, што Шукшына цяпер няма, ён памёр. Ад сэрца. Пасля свайго шоку пячатку смерці бачу на ўсім і на ўсіх, і на тых маладых, пра якіх пісаў учора.

Вядома, яны дакажуць /раз мы самі не хочам гэта рабіць/, якія былі мы, якой на самай справе была нашая проза, чаму і каму мы служылі, — дакажуць і нават не заўважаць, што на гэтыя доказы патраціўся ўвесь імпэт, лепшы час, і, азірнуўшыся, убачаць, што нічога хоць бы ў мастацкіх адносінах лепшага за нашае і не створана, што і яны служылі не Літаратуры ў высокім значэнні, а барацьбе з намі, і што ім ужо наступаюць на хвост, і смяюцца з іх, і пішуць пра іх як пра згубленае літаратурнае пакаленне, якое з'ела зубы ў нікому не патрэбным змаганні з «прыкарытнымі» пісьменнікамі, «чэрню» — з намі...

Як бацька сына не за тое біў, што п'е, а за тое, што пахмяляецца, — так і ім хочацца сказаць: не ў тым ваша няпраўда, што змагаецеся, а ў тым, што змаганне для вас — мэта.

* * *

Вось цяпер, дзякуючы гэтым адступленням, збольшага праясняецца, чаму я жыў-быў, і раптам інфаркт, і страх, і смерць. Праясняецца, чаму людзі жывуць і радуюцца пасля некалькіх інфарктаў, і з клапанамі ў сэрцы, і са штучнымі сэрцамі — і не ламаюцца, не пішчаць са страху, як я, і не едуць у вёскі паміраць...

Я многа верыў. Вера была — у патрэбнасць сваёй працы, у сваё ўменне выдумляць гуманістычныя мастацкія вобразы, з дамінуючай ідэяй — пабудова шчаслівага сацыялістычнага грамадства, са станоўчым героем, з сітуацыямі, дзе дабро перамагае зло, духоўнасць — практыцызм і г. д. І раптам перастаў у гэта верыць. А жыць трэба. А жыць я магу тады, калі пішу.

Цяпер трэба альбо «перакуліцца» накшталт пясочнага гадзінніка і пачынаць — следам за многімі — перасыпаць з твора ў твор «обратные общие места»: рэпрэсіі, кепскіх камуністаў, добрых некамуністаў, Бога — Храм - Адраджэнне, альбо адстойваць сваю ранейшую «сацрэалістычную» веру і паспрабаваць у мастацкіх вобразах даказаць людзям, што той лад, якому мы, цяпер асмяяныя пісьменнікі, служылі, быў не горшы, а шмат у чым і лепшы за тое, што ёсць і што будзе наперадзе, альбо паспрабаваць — таксама следам за іншымі — пісаць пра нешта вечнае, якое не можа залежаць ад пераменаў у грамадстве... Любая з гэтых вераў павінна вярнуць цябе да жыцця, да яснасці, да сябе ранейшага, і зноў можна будзе патрошку жыць, патрошку пісаць, шліфуючы кожны сказ, і пражыць спакойна яшчэ гадоў 10—20.

Астаецца драбяза — якую ж веру выбраць? Якая — хай не праўдзівая, а хоць бы больш-менш аб'ектыўная... на цяперашні час?

* * *

Тады ўжо ідзі далей, да канца: а што ж гэта такое за сама Літаратура? У якую можна так верыць і так любіць яе, што яна робіцца ўся — жыццё? Не як кніжкі тлумачаць, а як ты сам для сябе тлумачыш?

Ёсць уласна літаратура, 1-га гатунку, якая заўсёды ствараецца ў апазіцыі да пануючага ладу, пануючых густаў, і літаратура 2-га гатунку, пазітыўная, літаратура абслугі. Мэтай «уласна літаратуры» заўсёды было змаганне: з рабаўладальніцтвам, феадалізмам, імперыяй, хрысціянствам, паганствам, атэізмам, аскетызмам, распустаю, рэвалюцыяй, контррэвалюцыяй, камунізмам, капіталізмам і д т. п. — у залежнасці ад таго, што ўзаконена і пануе; акрамя таго, змаганне і са сваёй названай сястрою, «літаратурай абслугі», мэта якой — падтрымліваць пануючы лад і пануючыя густы.

Змаганню супрацьстаяла цэнзура. Паступова задачы літаратуры 1-ай зводзіліся да барацьбы супраць уласна цэнзуры, і хоць само гэтае супрацьстаянне апраўдвала літаратурны працэс, даказвала яго неабходнасць, паступова забываўся галоўны аб'ект літаратуры — чытач. Каб перахітрыць цэнзуру, трэба было ствараць новыя формы — як правіла, усё больш і больш складаныя ў параўнанні з папярэднімі, ужываць эзопаву мову, хаваць асноўныя думкі ў апісанні «пагоды-прыроды» і ў любыя іншыя другасныя апісанні; паступова забывалася першае і «залатое» літаратурнае правіла: толькі тыя формы, стыль, мова, апісанні апраўданы і з'яўляюцца мастацкімі, якія найкарацейшым шляхам, проста і ясна, даносяць асноўную думку да сэрца і розуму аб'екта — чытача.

Са знікненнем цэнзуры раптам аказалася, што нікому не патрэбна і «ўласна літаратура» — літаратура змагання. Магільшчык апынуўся ў адной яме з тым, для каго яе капаў, і цяпер астаецца толькі чакаць, пакуль зверху не пачнуць ляцець першыя жмені пяску...

Але літаратура 2-ая з адменай цэнзуры астаецца, і мэты ў яе астаюцца тыя ж — усялякімі спосабамі закалыхваць, адводзіць людзей ад змагання. Вось тут — стоп.

Ні ў жыцці, ні ў творчасці я ніколі ні з кім і ні з чым не хацеў змагацца — проста баяўся, урэшце, ведаючы, чым розныя змаганні канчаюцца. Мая літаратура, якую я сумленна ствараў амаль 30 гадоў, якраз жа і была літаратурай абслугі. Яна абслугоўвала, апраўдвала, усяляк ухваляла пануючы лад і змагалася хіба што з дробнымі, на побытавым узроўні, скажэннямі «асноўнай лініі». Дык што ты яшчэ шукаеш? Працягвай абслугоўваць далей, і жыві.

Уся справа ў тым, што змяніўся пануючы лад. Змянілася «асноўная лінія». Натуральна, павінны змяніцца — толькі не мэты, а **формы** літаратуры абслугі. «Асноўная лінія» запатрабавала, каб літаратура абслугі перакваліфікавалася з рэалістычна-апісальнай у спрэс забаўляльную, куды ўваходзілі б дэтэктывы, парнаграфія, містычныя жахі, фантасмагорыі, камедыі, пародыі — усё, што выклікае моцныя зрокавыя пачуцці і абцякае, не загружае мозг. І калі ўспомніць, што на маім стале перад інфарктам якраз і ляжаў чарнавік аповесці дэтэктыўна-забаўляльнай, з усімі атрыбутамі новага — рэкетам, прастытуткамі, суперменамі, — а гэтых атрыбутаў я не ведаю і ведаць не хачу, яны мне брыдкія, як вужакі, а я адчуваю, што толькі гэта цяпер і трэба... Тады многае робіцца мне ясна...

Я зразумеў тады, перад інфарктам, што ў гэтай новай якасці абслугі мая творчасць не вытрымае канкурэнцыі.

Я лічыў сябе прафесіяналам, аддаваў, як умеў, сваёй прафесіі ўсе сілы, як умеў, стараўся абслугоўваць тую лінію, са спакойнай душою перабудаваўся, каб абслугоўваць гэтую, новую, — і раптам убачыў, што ніякі я не прафесіянал. Я збіраюся з драўлянымі ночвамі — сваімі будучымі забаўляльнымі творамі — выходзіць на людзі, на базар, дзе ўсё застаўлена пральнымі машынамі.

Паэзія

Кастусь ЖУК



# З КНІГІ «ГАЛГОФА»

## СТАРАЯ ЗВАНІЦА

**Абудзіліся ў сэрцы званы**
**Пракаветнай замшэлай званіцы.**
**І прымроіліся курганы.**
**Валатоўкі. Старыя капліцы.**

**Тупат ног. Дзікай нечысці зброд.**
**Смертаносная лютая сеча.**
**Будзяць, будзяць званы народ**
**Зброю браць і збірацца на веча.**

**Будны голас званіцы! Вякі**
**Ў камяніцах тваіх спрасаваны.**
**Адлюстроўвае гладзь ракі**
**Не твае — стойкіх ратнікаў раны.**

●

**Бязмоўны мой народ,**
**Бяспраўны мой народ,**
**Чарнобыль на цябе**
**І розны недарод.**
**І лейцы на табе,**
**І путы, як заўжды,**
**І ў крэслах, як раней,**
**Дрымучыя зады.**

●

**Цёмнай дарогай ідзе**
**не заўсёды злачынец.**
**Светлай дарогай ідзе не заўсёды святар.**
**Служыць Айчыне не той,**
**хто клянецца Айчыне.**
**Верны бунтарству не той,**
**хто слыве як бунтар.**

**Вораг не той, хто табе**
**пагражае адкрыта.**
**Сябра не той, хто з табой**
**толькі ў горы, журбе.**
**Самы бяздарны — хто лічыць**
**сябе даравітым,**
**А даравіты — хто лічыць**
**бяздарным сябе.**

## ВЕРНІКІ

**Падчас і рашуча і строга**
**Спрачаюцца вернікі з Богам.**

**Яны ад зямлі, ад поля,**
**Ад веры ў жыццё — святыя.**
**А Бог ім**
**не выкраіў долі:**
**Прылаўкі — і тыя пустыя.**

**Каго папракнуць, скажыце,**
**Як толькі не ўласнага Бога.**
**А Бог — васілёк у жыце.**
**А Бог — апякун зямнога.**

**Ён чуе усё і бачыць,**
**Дзяцей сваіх — цешыць верай:**
**Маўляў, пасля смерці аддзячу**
**Усіх,**
**хто мне любы і верны.**

**Прымі пры жыцці Галгофу —**
**І трапіш у рай, нябога.**
**І моляцца на Саваофа,**
**Забыўшы на Бога зямнога...**

## ЗАМАЛЁЎКА З НАТУРЫ

**Нёман. Разводдзе. Густая імжа.**
**Заяц на крызе пусціўся ў дарогу.**
**Людзі спяшаюцца, як на пажар,**
**Дамбе прарванай на дапамогу.**

**Вецер вярбіну трасе за калдун.**
**Кнігаўка спуджана некага кліча.**
**Бусел зайшоў па калена ў ваду —**
**Цягне — не выцягне**
**з рэчкі здабычу.**

## ЭМІГРАНТ

**Гулка затахкалі колы.**
**І паплылі краявіды.**
**Ї замільгалі стадолы,**
**Лядзіны, летнікі, выдмы.**

**Хочацца прыхінуцца**
**Да бальшакоў, агароджаў...**
**«Божа, дай сілы вярнуцца...»**
**«Сілы не плакаць дай, Божа...»**

●

**Дзяўчынкаю малой —**
**Сукеначка ў гарошак —**
**Прысніцца воблік твой,**
**Наіўны і харошы.**

**Расступяцца гады —**
**І ўбачу я, дарослы,**
**На плечыках худых**
**Вяснушак рыжых россып.**

**І ў мой світальны сон**
**Нахлынуць зноўку ў марах —**
**Лампада, бляск ікон**
**І твой набожны тварык.**

## ЛЁС

**Пагойдваюся на суку**
**Сваіх нягод.**
**Трымае Ён маю руку,**
**А я — Яго.**

**І хоча Ён мяне трымаць**
**Да скону дзён.**
**Ды не хачу я аддаваць**
**Руку ў палон.**

## ДАМАВІНА

**Круціцца, круціцца кола турбот,**
**Ды запаволена часу машына:**
**Дзень непамерна даўжэзны,**
**як год.**
**Страшная, тата, твая дамавіна.**

**Мулка табе у ёй, тата, ляжаць.**
**Скрушна ад горкіх**
**матулі літанняў.**
**Хай жа прысніцца табе сенажаць,**
**Вэлюм туману і коней іржанне.**

**Гэтак баяўся зімою спачыць —**
**Ведала гэта кашчавая, пэўна.**
**Злосна шалела завея ўначы.**
**Певень крычаў усю ноч**
**у год пеўня.**

**Адкукарэкаў пявун. Замаўчаў.**
**Ты ж — знерухомеў, прыціх,**
**сцяўшы зубы.**
**Ранкам пранізлівы крык крумкача**
**Апавясціў: не будзіце Якуба.**

# ТЭАТР ПАЧЫНАЕЦЦА З ЧАЛАВЕКА

## НАЎЗДАГОН ЮБІЛЕЮ ДАВТА БЕЛАРУСІ

ДОЎГІМ атрымаўся 60-ты дзень нараджэння нашага Вялікага тэатра. Адзначылі ў маі. Прадоўжылі святкаваць у кастрычніку. Прыгадваем зараз... Дык жа ёсць што прыгадаць!

Першы ў сезоне оперны вечар зіхацеў узыходзячымі «зоркамі» /М. Грыгорчык, А. Гардынец, У. Пятроў, І. Журко.../ ды імёнамі майстроў. І вось што цікава: дзівам і адкрыццём былі ў тым канцэрце не маладыя, а «зоркі са стажам». Арыя Банавентуры з Манюшкавай «Сялянкі», праспяваная В. Скорабагатавым; драматычная і крохкая Мімі з «Багемы», увасобленая І. Шыкуновай, вальс летуценнай Джульеты ў выкананні Л. Златавай; непераймальны вобраз Лепарэла, створаны А. Кедам, — колькі радасных нечаканасцей! Ці А. Саўчанка — Рыгалета: Майстар ёсць Майстар... А «італьянскі» бляск тэнара А. Рудкоўскага ў Вертэры! Ці яшчэ: Барыс Гадуноў — не бас, а барытон! — такі пераканальны ў трактоўцы М. Майсеенкі. Смелыя каларатуры Т. Кучынскай у «Казках венскага лесу». Бетховенская «Застольная» да драбніц прачутая-сыграная В. Чарнабаевым...

То быў і зорны час для дырыжораў, якія «служаць» у ДАВТе або супрацоўнічаюць з ім, або ў колішнія гады стаялі за яго пультам: Г. Праватораў, Л. Лях, В. Собалеў, М. Калядка, А. Сасноўскі, К. Ціханаў.

Дарэчы, маэстра Ціханаў /у 1969—72 гг. ён быў галоўным дырыжорам нашага тэатра, выкладаў у кансерваторыі, цяпер узначальвае маскоўскі «Гелікон»/ падчас антракту падзяліўся не толькі святочным настроем, але й неюбілейнымі згадкамі. Прынамсі, пра колішнюю заганную традыцыю беларускага мастацкага асяроддзя — «есці» сваіх перспектыўных салістаў, маладых дырыжораў. Кірыла Кліментавіч быў сведкам таго, як старое кіраўніцтва не хацела прымаць у тэатр выхаванцаў Беларускай кансерваторыі. Даставалася і самому, калі спрабаваў уладзіць творчы лёс музыкантаў «сваёй гадоўлі». /Між іншым, сярод тых, хто вучыўся ў дырыжора Ціханава, былі Л. Лях, А. Лапуноў, М. Казінец/.

«Вы цяпер ужо незалежныя, давайце ж смялей падтрымлівайце, заахвочвайце сваіх, не глядзіце ў рот Маскве», — горача даводзіў наш, як ні дзіўна, маскоўскі госць, верачы, відаць, у тое, што традыцыя шапказдымальніцтва перад «заморскімі пастаяльцамі» засталася адзнакай мінулага і больш не будзе тармазіць развіццё нашай «самасці».

Прыемна было падчас святкавання бачыць сярод замежных гасцей вядомых, выдатных дзеячаў музычнай сцэны, якія шчыра віншавалі беларускіх калег і, здавалася, не зважалі на парадокс гаспадарчай гасціннасці. Зрэшты, які тут парадокс? Давайце зразумеем галоўнага дырыжора ДАВТа Беларусі А. Анісімава, які ахвяраваў падзеяй у жыцці вялікай тэатральнай сям'і і ўвагай шаноўных гасцей дзеля асабістых творчых спраў за мяжой. Індывідуальнасць, мастакоўскае «я» аказалася мацней за абавязак кіраўніка, сэрца паклікала не на вялікую сябрыну, а ў далёкую дарогу...

ТЭАТР пачынаецца з чалавека. А з чаго пачынаецца чалавек тэатра? Чалавек тэатра, пэўна, пачынаецца з любові. Да мастацтва ў сабе, да мастацтва ў сваім тэатры /гэта калі служыш яму, як роднаму, а не робіш ласку сваёй прысутнасцю/, да свайго гледача. Тэатр пачынаецца з чалавека, улюбёнага... у тэатр. Наведнікі ўрачыстасцей адчулі гэта нават у фае. З якой любоўю была аформлена дакументальная выстаўка, складзеная літаральна з радкоў, старонак, спыненых імгненняў багатай гісторыі ДАВТа. Як прыемна было патрымаць у руках па-газетнаму аператыўны выпуск «Закулісся», дзе між іншым далі слова і ветэранам, чыё жыццё ў простым сэнсе прайшло за кулісамі, на нябачнай для гледача ніве тэатральнай творчасці. А вытанчана зробленыя праграмкі ды салідны, прывабна выдадзены /і цікава складзены руплівіцай тэатра А. Саламахай/ буклет...

Фантастычная жанчына, рэжысёр з Кіева І. Моластава ў сваім прывітанні падчас кульмінацыйнай імпрэзы адзначыла і гэтыя «друкаваныя сюрпрызы», зусім не дробязі, якія сведчаць і пра культуру тэатра, і пра ягоную жыццяздольнасць. Пра культуру людзей, якія тут працуюць.

А яшчэ наша ўкраінская госця з надзвычайнай адвагай і абаяльнасцю гучна прызналася 60-гадоваму юбіляру: «Перажыўшы гэтую «круглую» дату яшчэ некалькі гадоў таму, магу запэўніць, што... нічога страшнага!» Маўляў, любоў, каханне, жаданне ствараць, — словам, цікавасць да жыцця, — усё гэта, калі яно было, пры табе й застаецца. Так, гэта зусім простая ісціна: сапраўдныя каштоўнасці не маюць каляндарнага вымярэння, існуюць па-за часам. І толькі сэрцам вызначаецца іх вартасць, вечнасць іхняга хараства.

Як жа ўсцешна было сэрцу /многім сэрцам!/ адгукацца на шчырыя парыванні душы, на знакі прыязнасці, на праявы мастацкага таленту, калі ў доме на Траецкай гары гучалі згадкі пра яго слынных насельнікаў, а найбольш гучалі віншаванні: урачыста-афіцыйныя, неафіцыйна-радасныя, па-сяброўску жартоўныя.

Кіруючыя асобы, дэлегацыі прамысловых прадпрыемстваў, аркестр «Няміга», музыкі «Класік-Авангарда», народны хор імя Г. Цітовіча, ансамбль танца. Ветэран сцэны прафесар Т. Ніжнікава. Госці, для якіх беларускі ДАВТ штосьці значыў ці значыць у творчым лёсе, — масквічка Т. Ерасава; Ю. Аляксандраў, А. Дэдзік з усёй сям'ёй, піцерцы; ніжагародзец А. Дадзішкіліяні; Р. Генюшас з Летувы; рэжысёр малдаўскай оперы Э. Канстанцінава. Рэжысёр-купалавец В. Раеўскі чытаў жартоўны верш Л. Дранько-Майсюка. Артыст Рускага тэатра В. Быкаў імкнуўся прымірыць у сваім абліччы дзве музы, спалучыўшы ў касцюме «верх — оперы, а ніз — балета». А з выхадам на сцэну Н. Гайды з'явілася і лёгкае, як сама аперэта, шампанскае...

ТОЛЬКІ з надыходам новага дня /глыбокай ноччу!/ аціхлі страсці тэатральнага капусніка. У ім гаспадарыў Прывід оперы /для маладога саліста А. Тузлукова гэта станецца унікальнай, гістарычнай роляй, як бы яркі ні склаўся спіс ягоных сцэнічных работ у далейшым/.

Віртуозна скампанаваная з вядомых песенных мелодый ды оперных фрагментаў парадыйная уверцюра, гэткі сімфанічны каламбур /папрацавалі музыканты аркестра Э. Петрашкевіч, М. Вяпрынскі ды Л. Гарэлік/, прымусіла публіку ў партэры нават узняцца з крэслаў і, адбіваючы далоні, рушыць да аркестравай ямы, дзе шчыраваў дырыжор А. Сасноўскі! У драматургіі капусніка, пастаўленага С. Цырук, было нямала сюрпрызаў. Напрыклад, зусім прыдатны да надзённай палітычнай сітуацыі хор абывацеляў з «Майстра і Маргарыты» Я. Глебава — фарсавая закла почанасць з'яўленнем у Маскве нячыстай сілы, разбойнымі выбрыкамі ды няпільнасцю міліцыі. Або — аж дзве Кармэн /Н. Галеева, Н. Руднева/, якіх Прывід імкнуўся прычараваць ды прымірыць. Або — з камедыйным бляскам адноўлены дуэт з колішняга спектакля «Дон Паскуале» /В. Чарнабаеў — В. Скорабагатаў/. Ці вальс-парад пяці сапранавых «зорак» і «турнір» трох тэнараў /А. Тузлукоў, М. Грыгорчык, Р. Паляшчук/...

Пасля ўсяго адбыўся шчэ і дынамічны канцэрт, падрыхтаваны Нацыянальным балетам, дзе, бадай, асабліва гожа выглядаў дуэт Т. Яршовай, мудрай Артысткі, ды В. Захарава, маладога пестуна публікі, міжнароднага лаўрэата.



*Балет — гэта заўсёды маладосць...*



*Фрак і...пуанты! /Віншаванне калег з Рускага тэатра/.*



*Дырэктар ДАВТа мастацкі кіраўнік оперы Сяргей КАРТЭС /справа/ і мастацкі кіраўнік Нацыянальнага балета Валянцін ЕЛІЗАР'ЕЎ.*



*«Балеро».*

Балет, як вядома, наладзіў і ганараванне свайго мастацкага кіраўніка В. Елізар'ева з прычыны 20-гадовай працы яго на беларускай сцэне. Пастаноўкі ў Маскве, Ленінградзе, Варшаве, Любляне, Стамбуле; удзел у журы міжнародных харэаграфічных конкурсаў; шматлікія асабістыя рэгаліі; стварэнне фактычна ўласнага сучаснага балетнага тэатра з адметным рэпертуарам... Усё гэта згадвалася падчас творчага вечара, з паказам спектакля «Спартак» у гонар В. Елізар'ева, якога, дарэчы, павіншавалі тэлеграмамі й такія сусветныя майстры, як Г. Уланава, Н. Макарава, М. Барышнікаў...

Пра феномен В. Елізар'ева можна разважаць бясконца і радасна. І ўсё ж... Хтосьці можа ўбачыць падставы для смутку з прычыны таго, што сваё 60-годдзе беларускі балет сустрэў не асэнсаваннем свайго гістарычнага шляху, не прэм'ерай арыгінальнага твора /апошнія колькі год, пэўна, не шанцуе харэаграфічнай трупе на новы «фірменны» спектакль/, а «разводам» з операй.

Аднак не трэба паспешлівых высноў: ці то перавагі, ці то мінусы /а мо і тое і другое/ суверэнізацыі дзвюх істот, злучаных адным дахам, агульнай сцэнай і ўсё яшчэ адзіным складам аркестра, — самі сабой зробяцца з часам відавочнымі.

А пакуль, мяркуючы па тым, як віруе жыццё на Траецкай гары, можна спадзявацца на добрае. Балет стала «рыфмуецца» з аншлагам. Імкліва пашыраецца кола прыхільнікаў опернай трупы, для якой, дзякуючы захадам яе мастацкага кіраўніка і дырэктара ДАВТа С. Картэса, ужо адкрыўся шлях у тэатральныя залы далёкага замежжа.

Можа, на 61-м годзе разгорнецца па-сапраўднаму творчае, разняволенае жыццё людзей, якія аддана гуртуюцца вакол самага вялікага ў нашай краіне тэатральнага дома, якія сваёй любоўю да мастацтва імкнуцца падтрымліваць у гэтым Доме стабільнасць і дух абнаўлення?..

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

Тэатр

# «ЗРУЧНА ІСНАВАЦЬ У СКРУТНЫМ ЧАСЕ...»

***«Баюся інтэрв'ю, — словы, словы, словы», — з трэцяй просьбы пагадзіўшыся ўсё ж яго даць, бурчэў рэжысёр Уладзімір САВІЦКІ. Не какетнічаў. Не хваляваўся. Праз трыццаць хвілін ён мусіў пачынаць рэпетыцыю, але на гадзіннік не пазіраў, даючы зразумець, што калег-артыстаў не радуе гранічная дысцыплінаванасць. Калегі ж, спраўджваючы новы для Беларусі арганізацыйны тып тэатра /у «Абзацы» Савіцкі працуе з акцёрамі розных тэатраў, студэнтамі, тэатральнымі педагогамі/, у дзень інтэрв'ю нібыта дасталі сабе права... не замінаць ні пытанням, ні адказам.***



**— Здаецца, пасля трох тваіх спектакляў, Уладзімір, — паводле Коба Абэ, Эжэна Іянескі ды Янкі Купалы, — сцэна «Абзаца», што супольна ўтворана табою разам з Аляксандрам Маркевічам, робіцца для цябе... зацеснаю, завузкаю. Ты ўсё адно як між молатам і кавадлам — уласнай мастакоўскай залежнасці ад навязаных абставін ды, скажам сціпла, прафесійных запатрабаванняў. Здабыванне сродкаў на сцвярджэнне /не кажу ўжо — спраўджванне/ таленту не тое каб стамляе, — у тваім выпадку прыніжае. Тэатр ледзь ліпіць пад цяжарам сродкавай нішчымніцы. У нейкі момант, папытаю проста, табе не манілася з'ехаць ад уласнай прынцыповасці, калег ды тутэйшых гледачоў? Абласныя тэатры, будзем шчырымі, чакаюць... Дадам, што часіна эксперыментальна-падвальнага тэатра, студый любым коштам, потам ды здароўем мінулася. На падвалінах, перапрашаю, засталася, бадай, толькі выснова: выйсці з падвала наканавана не кожнаму. Часцей таму, што выходзіць няма з чым: сонца надта моцна ўсё асвятляе. Праўда, «Абзац» на Рэвалюцыйнай, 9 месціцца на трэцім паверсе, і ў любым выпадку Уладзіміру Савіцкаму давядзецца... сыходзіць уніз. Да якога тэатра — праграмнага, аўтарскага або?..**

— Ты разумееш, пры ўсёй праграмнасці ды аўтарстве пачынаў я калісь акцёрам. А работа акцёра вельмі і вельмі канкрэтная: куды стаць, як прамаўляць, як глядзець на партнёра і дачыняцца з ім. Работа рэжысёра — абазнанага ў філасофіі, знаўцы літаратуры, прыхільніка Брука або вучня Эфраса, Васільева, Ганчарова — гэтаксама вельмі канкрэтная. Будзеш смяяцца, але перш як прыступіцца да «Раскіданага гнязда», прысніў... ґрафік спектакля: між абсцысай ды ардынатай малявалася дзіўная сінусоіда, шэсць персанажаў, якія засталіся ў спектаклі, нібы самастойна размеркаваліся па сваіх месцах, па пунктах найвышэйшага напружання і кропках эмацыйных спадаў. Я паспрабаваў быў пасунуць кагосьці з іх, і ўвесь будучы спектакль пачаў ссоўвацца... Ссоўвацца! Гэтаксама — і з праграмным тэатрам...

**— Тады давай дамовімся, што будзем размаўляць пра тэатр Савіцкага, маючы на ўвазе не памяшканне ды сцэну, а літаратуру, схільнасці, памкненні, запатрабаванні...**

— Вядома. Але тэатр, хоць і рэч у сабе, ды надта ж канкрэтная. «Абзац» пачынаў з праграмы, дзе на тры гады наперад былі распісаны спектаклі паводле нацыянальнай драматургіі, спектаклі размаітыя і разлічаныя на рознага гледача; быў знойдзены ход, каб завабіць у тэатр, каб схіліць да яго гледача неабазнанага, неспанатранага. Мэты мы ставілі перадусім асветніцкія, пакідалі ўбаку свае жаданні ды творчыя амбіцыі. Няважна, дзе мусіў спраўдзіцца гэты тэатр — у падвале або на трэцім паверсе дома нумар дзевяць па вуліцы Рэвалюцыйнай. Грошы, якія патрабаваліся нам для, перапрашаю, ліпення /не існавання/, мы браліся адпрацаваць напоўніцу і частку вярнуць. Цяпер я думаю, што, мабыць, менавіта з-за канкрэтнасці нашых памкненняў мы не атрымалі ні капейчыны...

**— Гэты тэатр папросту не адбыўся. Хоць інстанцыі, ад якіх залежала, даць або не даць міласціну, прадстаўлялі незалежную Беларусь на поўным сур'ёзе і разам з ёю прагнулі адрадзіцца. А мо прычына была ў тым, што ваша праграма складалася пераважна з нацыянальнай драматургіі — ці рэальна на ёй адной будаваць тэатр?**

— Апрыклі ўжо размовы, што яе няма, — няўжо незразумела, што штучным шляхам яна не з'явіцца? Апошняя абвестка Міністэрства культуры Беларусі пра ўзнагароду ў пяць мільёнаў за лепшую конкурсную п'есу здаецца мне простым фарсам. Ад пяці мільёнаў драматургія не пасунецца ні на пядзю. Не стану хаваць, што баюся і пераходзіць на асобы, і залішне канкрэтызаваць свае планы ў нашай размове: мае ідэі ўжо дорага мне каштавалі. Скажу, аднак, што хацеў тады грунтаваць тэатр, новы тэатр, на новым, карэнна новым глядацкім стаўленні да яго. Банальна кажучы, прапанаваў бы ў тэатры людзям убачыць тое, чаго яны, акрамя як у мяне, не ўбачаць і не пачуюць нідзе.

**— Але, беручы пад увагу сказанае вышэй, яны ніколі не ўбачаць таго, што ты меўся калісь прапанаваць ім убачыць...**

— Перад «Раскіданым гняздом» я працаваў з дзвюма замежнымі п'есамі — высакакласнымі. Перад Купалам я наважыўся думаць па-іншаму, бачыць па-іншаму, рыхтаваў акцёраў да нашага класіка, — і пасля работы над ім сцвярджаю, што самыя лепшыя п'есы пішуцца на сцэне. І фабуле, і дыялогам, і дачыненням надаюць кшталту толькі масніцы сцэны. Праўда, акцёры павінны быць падрыхтаваныя дапамагчы драматургу. Кажучы шчыра, пра шляхі ды праграмы я магу і магу яшчэ разважаць, але спынюся на тым, што яны — унутраная справа тэатра. Я не стану выдаваць тэатральныя маніфесты і куляцца дагары нагамі, каб надаць свайму рэжысёрскаму абліччу запамінальнасці. А што да ўвасаблення тэатральных ідэй з чыёйсьці дапамогаю, дык самая праверaная адгаворка ў інстанцыях незалежнай Беларусі — пра скрутны час, які не схіляе да прыгожага мастацтва тэатра. Зручна існаваць у скрутным часе! Быў пазайздросціў мастакам ды музыкам: скрутна — а яны ў майстэрню або за інструмент... Тэатр сам-насам не існуе, але наша невялічкая купка людзей можа суцешыцца: першымі ламаюцца адзіночкі...

**— Калісь я звярнула ўвагу на ганарлівага адзіночку Савіцкага, бабруйскага акцёра. Сцэна Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра імя В. Дуніна-Марцінкевіча яго відавочна не здавальняла. Ён пэўна і дакладна будаваў сабе ролі сам, часам канфліктуючы і з драматургам, і з рэжысёрам, міжволі спяшаючыся паказаць не працэс пражывання ў ёй, а вынік. Я не магла сцвярджаць, маўляў, вось яны, прыкметы будучага рэжысёра, які прапануе публіцы ў хуткім часе ні больш, ні менш як падзею сезона 1992-93! Падзею паводле класічнае п'есы! Таму — колькі слоў пра тваё драматургічныя схільнасці.**

— Аддаю перавагу літаратуры, дзе герой патрапляе ў надзвычайныя ўмовы, але не пад наступам вонкавых прычын, сіл, праяў, а з-за свайго ўнутранага канфлікту, з-за перанапружанага духоўнага жыцця. Люблю па каліўцу аднаўляць на сцэне ўнутраны канфлікт асобы; дакладна выяўляць яе дачыненні, паразуменні, судакрананні. Самым цікавым для цяперашніх гледачоў будзе не сцэнічная валтузня, а змаганне асобы з самою сабой, часам — за сябе. Мадэлюючы ўнутраныя канфлікты асобы, я разумею, што звонку шмат што рэгламентавана, абмежавана, вызначана. Я таксама не адмаўляю для чалавека яго ўласнага ўнутранага кодэксу. Хай падчас двухгадзіннай сцэнічнай дзеі я хоць трыма хвілінамі цаляю ў глядацкі боль, змаганне, сумнеў, — мэта дасягнута. Усім усё не распавядзеш, не давядзеш, не прадэманструеш, — і гэта трэба мець на ўвазе. Сцэнічныя скруты-пераломы асобы часцей за ўсё прапануе замежная драматургія. Я знаходжу іх, каштоўных па самым вялікім рахунку, і ў класічнай беларускай драматургіі. Купала ў гэтым сэнсе непаўторны. Ён даследуе сямейнікаў у «Раскіданым гняздзе», абсалютна падымаючыся над побытам! А я як бяру ў работу нашы сучасныя п'есы, дык мушу сачыняць сваю версію кожнай, у тым ліку і драматургічную.

**— Перарабляеш? Перапісваеш?**

— Усё вырашае павага да аўтара. Апошняя справа — дапісваць за яго нешта. Але мяняю месцамі сцэны ды рэплікі, абвастраю канфлікт, даючы работы тэатральным аглядальнікам...

**— Ты сам сказаў, што лягчэй за ўсё жыць у скрутным часе. Хоць і сказаў з іроніяй. Добры тэатр трымаецца на аксюмароне, на сумяшчэнні несумяшчальнага, але ці не хочаш ты сказаць, што і цяпер калегам не сорамна рабіць адчэпныя спектаклі?**

— Цяпер, разумееш, лёгка нічым не займацца, займаючыся ўсім. Пераканаць сябе, што вынік тваіх заняткаў нікога не цікавіць. Вельмі зручна, шукаючы адраджэння, удзельнічаць у несупынным працэсе ўсеагульнага, перапрашаю, вар'явання. Што адбываецца з нашымі галовамі, з нашай свядомасцю? Пасля вайны было куды цяжэй, а ў сённяшняй сітуацыі, нібы дурэючы, вырабляючыся, ніхто ні за што не адказвае!

**— А мастак?**

— Адказвае — Гогаль... «Мёртвымі душамі». Я, працуючы з Іянескам /прэм'ера спектакля «Віват, імператар!» паводле п'есы Э. Іянескі «Крэслы» адбылася напрыканцы кастрычніка ў Акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы. — **Ж.Л.**/ і Аляхновічам, сам сябе штодня стрымліваю, але нават назва ўжо ёсць: «Спадар сярэдняе рукі». Ціснемся, плішчымся, шчэмімся мы ў спадары, а згадаем Гогаля: паэма пачынаецца балем і канчаецца балем, спадара сярэдняй рукі Чычыкава ўсё адно як чорт вядзе па жыцці — ад першай капейчыны, ад першага даходу нешта зацьміла ягоную галаву!..

**— Што ж, паралель больш як зразумелая...**

— Толькі не зводзь усё да грошай, бо... На Аляхновіча ж толькі-толькі далі...

**— А пасля Гогаля?**

— Пасля я прыступлюся да «Урыеля Акосты» Гуцкова, — вось табе размаітыя аўтары. Вырашай — набор ці праграма...

**— Возьмем пад увагу ўнутраныя канфлікты ды неспазнаныя інтэлектуальныя лініі. А ці можна аблегчыць канфлікты, паводле самога цябе, вонкавыя? Цябе, паўтаруся, чакаюць у некаторых тэатрах...**

— Я шмат ад чаго адмовіўся, калі яшчэ быў студэнтам тэатральна-мастацкага інстытута. Я пастанавіў сабе быць сабою. У самым скрутным часе.

**Гутарку вяла**
**Жана ЛАШКЕВІЧ**

*Фота Уладзіміра ШАХЛЕВІЧА*

# І СЛЯЗІНКА ДЗІЦЯЦІ...

*(Пачатак на стар. 5)*

**Г. ЛЯВОНАВА:** — Гэта не столькі медыцынская, ці нават юрыдычная, колькі маральная праблема. Пытанне аб стэрылізацыі жанчын-алкагалічак, псіхічна хворых павінна шырока абмяркоўвацца ў грамадстве. Накшталт таго, як у Польшчы шырока дыскутавалася ў нацыянальным маштабе пытанне аб забароне абортаў.

**З. СЯЎКОЎСКАЯ:** — Бяда ў тым, што частка нашага грамадства мае досыць цьмянае ўяўленне аб агульначалавечых каштоўнасцях, маралі, аб адказнасці перад грамадствам. Але ж давайце прызнаемся самі сабе — жанчыны, пра якіх тут зайшла гаворка, жывуць, як кажуць, не ў пустэчы, жывуць побач з іншымі грамадзянамі, якія са спакойнай душой назіраюць, як падобная маці на тыдзень знікае з дому, пакідаючы галодных дзяцей. Разам з тым, хачу зазначыць, што не ўсякая жанчына, якая, скажам, адмовілася забраць сваё дзіцё з раддома, — прыроджаная зязюля, не кожная дайшла да такой ступені дэградацыі, калі страчваецца мацярынскі інстынкт. Ёсць нямала жанчын, якія ідуць на такі ўчынак з адчаю, страху застацца маці-адзіночкай, стаўленне да якой у грамадскай свядомасці досыць неадназначнае, урэшце, з-за матэрыяльнай нястачы, адсутнасці кватэры. Нам трэба стварыць дзейсную службу псіхалагічнай дапамогі, як у многіх цывілізаваных краінах свету.

**Н. ПАШКОЎСКАЯ:** — І ўсё-такі дараваць такім жанчынам нельга. Я неяк наведала Гродзенскі дом дзіцяці, і хоць даўно працую з дзецьмі, прызвычаілася да многага, але тут не магла стрымаць слёз. У нашай школе-інтэрнаце ўсё-такі ўжо вялікія дзеці, якія, калі трэба, могуць і абараніць сябе, а ў доме дзіцяці ляжалі ў маленькіх ложках немаўляткі і лыпалі вочкамі ў белую над імі столь. Ніхто з імі не гугукаў, ніхто не расказваў казак, не лашчыў. Жах...

**Н. СЯЎКОЎСКАЯ:** — Мы зараз увялі пасады псіхолагаў у штатныя расклады дзіцячых паліклінік і неўралагічных дыспансераў, а ў радзільных дамах — пасады псіхатэрапеўтаў. У нас жа дагэтуль з «неблагополучной» сям'ёй «працуе» толькі ўчастковы міліцыянер, ды і ён звяртае ўвагу на падапечных толькі ў выпадку якога-небудзь там ЧП.

**А. ГАБА:** — Патрэбна пастаянная псіхалагічная дапамога і сем'ям, з членаў якіх фарміруецца кантынгент нашага дзіцячага прыёмніка-размеркавальніка. За год ён «прапускае» больш як 700 чалавек, але калі б у нас было яшчэ некалькі такіх устаноў, то работы хапіла б і ім.

Хто нашы кліенты? Працэнтаў 70 з іх складаюць падлеткі — уцекачы з дому. 10 працэнтаў — хлопчыкі і дзяўчынкі, што ўцяклі з дзіцячых устаноў, а таксама тыя, што засталіся без бацькоў /раптоўная іх смерць, арышт і г. д./. Пятая частка змешчаных у прыёмнік-размеркавальнік — правапарушальнікі, якія потым трапяць у спецвучылішчы.

Я працую тут ужо 6 гадоў і магу прасачыць сякія-такія тэндэнцыі ў такой з'яве, як безнаглядныя дзеці. Апошнім часам пагражальна павялічылася колькасць падлеткаў-бадзяг. Дарэчы, сярод іх шмат псіхічна хворых — ад поўнай дэбільнасці, калі чалавек не можа нічога паведаміць пра сябе, да паталагічнай схільнасці да таго ж бадзяжніцтва, крадзяжу. Калі ў мінулыя гады большасць падлеткаў, якія траплялі да нас, паходзілі з сем'яў алкаголікаў, дык цяпер — са звычайных рабочых сем'яў, задаўленых нястачай. Апошняя спараджае пастаянныя сямейныя канфлікты, якія, вядома, не абыходзяць бокам і дзяцей.

І яшчэ такая статыстыка. Больш за палову нашага кантынгенту расла ў няпоўных сем'ях, або ў сем'ях, дзе ёсць айчым ці мачаха.

Усё больш з'яўляецца падлеткаў, якія адмаўляюць сям'ю як асяроддзе пражывання, аддаючы перавагу вуліцы, крымінальнаму свету. Вярнуць іх да нармальнага жыцця надзвычай цяжка.

**Н. ДЗІДЧАНКА:** — Я з Мядзельскага раёна і заўсёды зайздрошчу гарадам, дзе ёсць дзіцячыя прыёмнікі-размеркавальнікі. Толькі ўчора да мяне трапілі два хлопчыкі-браты чатырох і сямі гадоў, бацькоў якіх пазбавілі права на іх выхаванне. Вось і ламала галаву, куды іх пакуль што прыстроіць. У раённую бальніцу — старэйшы сямігадовы хлопчык адтуль можа ўцячы, ды і не заўсёды ёсць час медперсаналу глядзець тых дзяцей. Лічу, што і ў раённых цэнтрах трэба ствараць нейкія ўстановы, накшталт дзіцячага прыёмніка-размеркавальніка, пра які нам тут расказаў спадар Габа.

**А. ГАБА:** — Гэта будзе дорага каштаваць, лепш прывозьце дзяцей да нас.

**Г. РУДЗЯНКОВА:** — Калі мы думалі аб стварэнні рэспубліканскага цэнтра ўсынаўлення, дык меркавалі мець пры ім і разгорнутую сетку аддзяленняў па ўсёй рэспубліцы, куды б змяшчаліся дзеці з падобных сем'яў. Не ў прыёмнік-размеркавальнік з яго жорсткім, амаль турэмным рэжымам, а менавіта ў такія ўстановы.

**Н. СЯЎКОЎСКАЯ:** — Дзіця — разумная істота, якая тонка адчувае, што робіцца вакол яго. Яму было блага ў сям'і, а цяпер мы яго будзем забіраць у нейкую ізаляваную ўстанову, хай яна і завецца нейтральна — цэнтрам усынаўлення.

**Г. РУДЗЯНКОВА:** — І ўсё-такі падобны цэнтр патрэбны. Цэнтр з банкам інфармацыі аб патэнцыяльных усынаўляльніках і дзецях, якіх можна ўсынавіць.

**Н. СЯЎКОЎСКАЯ:** — Прабач, Галіна Іванаўна, але гэта нагадвае мне ферму, дзе сабраны парасяткі на продаж — прыязджай, падбірай. Дзяцей-сірот трэба забіраць на ўсынаўленне з дамоў дзіцяці, дзіцячых дамоў...

**Н. ПАШКОЎСКАЯ:** — Няма ніякага сумнення, што дзіця можа быць шчаслівае толькі ў добрай сям'і. Але ж будзем глядзець праўдзе ў вочы — толькі нязначны працэнт дзяцей-сірот і застаўшыхся без апекі бацькоў набываюць статус усыноўленых. Астатнія застаюцца дзетдомаўцамі. Ад званка да званка. Ці інтэрнатаўцамі. І сапраўдных бацькоў сваіх калі і ведаюць, дык не з самага лепшага боку, хоць у душы кожнага такога хлопчыка ці дзяўчынкі не знікае надзея, што мамка і татка нарэшце ўспомняць пра іх і забяруць да сябе.

Літаральна тыдзень назад да нас прывезлі двух хлопчыкаў-братоў і іх сястрычку, літаральна апухлых ад голаду. Аказваецца, бацькі-алкаголікі кінулі іх на волю лёсу. Я прыціскаю дзяўчынку да сябе, а яна так лашчыцца, абдымае мяне ручкамі. Пытаюся: хіба мама твая цябе не шкадавала? Адказвае ціха: «Не, не шкадавала». А тата? «Тата таксама не шкадаваў».

Да нас у школу трапляюць менавіта такія дзеці-сіроты пры жывых бацьках. Гэта самае страшнае. Многія з іх са шматдзетных сем'яў. І праўду сказаў Уладзімір Сцяпанавіч Ліпскі — ёсць і ў нас сапраўдныя дынастыі, што складаюцца з родных братоў і сястрычак. Старэйшаму ўжо гадоў пятнаццаць, а малодшаму ці малодшай — пяць-шэсць. Іх маці, якую пазбавілі мацярынскіх правоў, вядома ж, не пазбавілі права нараджаць новых дзяцей.

Мы імкнёмся ў сваім інтэрнаце неяк зберагаць, стымуляваць у братоў і сястрычак пачуццё роднасці. Стварылі дашкольную групу, каб прымаць дзяцей зусім маленькіх. А то раней былі такія выпадкі — прывезлі ў інтэрнат хлопчыка, сястрычка якога жыве ў нас шмат гадоў. Я яе выклікаю, кажу, вось твой брацік. А яна ўпарціцца, не прызнае яго, бо былая сям'я ўсякую сувязь з ёй згубіла. Бывалі выпадкі, калі нашы выпускнікі, стаўшы ўжо дарослымі, раптам выпадкова даведаўшыся, што пасля іх у школе-інтэрнаце жылі іх браты ці сёстры, прыязджалі і пачыналі пытацца, дзе іх можна знайсці /справа не вельмі простая, асабліва калі нехта з братоў ці сястрычак трапіў у прыёмную сям'ю і змяніў прозвішча/.

Адна з найвялікшых праблем — працаўладкаванне і далейшая вучоба выпускнікоў школ-інтэрнатаў. У сябе мы сваіх выхаванцаў вельмі шкадуем. Мо і занадта. Я гэта кажу таму, што многія з іх, апынуўшыся сам-насам з чужым светам, пачынаюць губляцца перад цяжкасцямі, бо не былі да іх падрыхтаваны,раслі, фактычна, у цяплічных умовах. Адсюль і псіхалагічныя зрывы, роспач. Мы іх шкадуем, але хто іх пашкадуе за сценамі інтэрната? Не магу дараваць рэктару Віцебскага ветэрынарнага інстытута за тое, як ён абышоўся з адным з нашых выхаванцаў. Хлопец літаральна з маленства быў улюбёны ў жывёльны свет, яго, бывала, не выцягнеш з жывога кутка, і таму вельмі радаваліся, калі ён паступіў у ветэрынарны інстытут, выбраўшы прафесію па сваіх схільнасцях. Але пасля першага курса быў з інстытута адлічаны з-за некалькіх «хвастоў». Ніхто там з ім не пагаварыў, ніхто не паспачуваў, нікому ў галаву не прыйшла думка, што хлопец рос без сям'і, што ён сірата і заслужыў больш спагадлівага да сябе стаўлення.

**Л. СМАГІНА:** — Мала таго, што выпускнікі школ-інтэрнатаў слаба прафесійна арыентаваныя, многія з іх потым, стаўшы дарослымі, не могуць стварыць нармальнай сям'і. Не могуць, бо ніколі ў сям'і не жылі і не ведаюць, што гэта такое. Калектыўнае выхаванне, як мы з ім ні насіліся дзесяцігоддзі, як ні запэўнівалі ўвесь свет, што менавіта яно дае магчымасць праяўляць лепшыя чалавечыя якасці, на самай справе «зляпіла» ў многіх іпастасях чалавека-монстра, з атрафіраваным пачуццём чалавечай годнасці, адказнасці, абыякавага і безыніцыятыўнага. Як паказалі спецыяльныя даследаванні, многія выпускнікі дзіцячых устаноў, атрымаўшы, ужо будучы дарослымі, кватэры, не ведаюць, як іх абставіць мэбляй, стварыць нейкую ўтульнасць. Наогул, атрымаўшы кватэру, не жывуць у ёй, а недзе «кучкуюцца» з такімі ж, як самі. Не ўмеюць наладжваць нармальныя адносіны з суседзямі, адсюль і пастаянныя канфлікты. Трапіўшы ў інстытуцкі ці фабрычны інтэрнат, многія з былых дзетдомаўцаў не разумеюць, што нельга, напрыклад, карыстацца чужой зубной шчоткай, апранаць без дазволу чужую сукенку і г. д.

**Г. ЛЯВОНАВА:** — Яшчэ адна вострая праблема. Згодна з нашым заканадаўствам дзеці. змешчаныя ў дзіцячыя ўстановы, захоўваюць права на частку жылой плошчы, дзе яны пражывалі разам з бацькамі да пазбаўлення апошніх бацькоўскіх правоў. Але рэалізаваць на практыцы гэтае сваё законнае права вельмі цяжка.

**С. БУБЕН:** — Для кожнага выхаванца дома дзіцяці, дзіцячага дома, школы-інтэрната вялікая ўдача быць усыноўленым, або трапіць у дзіцячы дом сямейнага тыпу, апякунскую сям'ю. Сям'я ёсць сям'я. Там, дзе дзіцячыя ўстановы працуюць у гэтым напрамку прадметна, мэтанакіравана, там ёсць плён. У нашай гаворцы за «круглым сталом» прымае ўдзел Людміла Пятроўна Дземянчук, дырэктар Магілёўскага дзіцячага дома, на базе якога мы нядаўна праводзілі рэспубліканскі семінар, дзе ішла размова менавіта пра ўладкаванне ў сем'і выхаванцаў дзіцячых устаноў.

**Л. ДЗЕМЯНЧУК:** — Мама і тата — першае, што трэба кожнаму дзіцяці. І як бы мы ні любілі нашых выхаванцаў, мы імкнёмся зрабіць усё, каб іх у нас засталося меней, каб як мага больш знайшлі сваё шчасце ў прыёмнай сям'і, прыёмных бацькоў. Пачалі шукаць, падбіраць такія сем'і. Стварылася нават вялікая чарга сем'яў, жадаючых узяць нашых дзяцей. Кожную з іх праверылі, устанавілі пастаянныя кантакты. І вось за два апошнія гады мы ўладкавалі 22 дзяцей ў апякунскія сем'і, 19 — у прыёмныя для ўсынаўлення, 12 хлопчыкаў і дзяўчынак вярнулі іх біялагічным бацькам, якія, як мы пераканаліся, узяліся за розум. З кожнай з гэтых сем'яў мы вядзём перапіску, рэгулярна наведваем, запрашаем да сябе. Так што пакуль у гэтай справе «праколаў» у нас няма.

**П. МІЦЬКО:** — Абсалютна ўпэўнены ў тым, што ў рэспубліцы трэба стварыць цэнтр па ўсынаўленні дзяцей-сірот з банкам дадзеных па патэнцыяльных усынаўляльніках хлопчыкаў і дзяўчынак, якія могуць быць прыняты ў сям'і.

**С. БУБЕН:** — Так, сістэму ўсынаўлення дзяцей у рэспубліцы трэба мяняць. Зараз, як ужо сказала Галіна Іванаўна Рудзянкова, распрацоўваецца палажэнне аб нацыянальным цэнтры ўсынаўлення і яго рэгіянальных структурах.

**П. МІЦЬКО:** — Я нядаўна вярнуўся са Злучаных Штатаў Амерыкі, дзе вывучаў гэтую праблему. Цікавіўся таксама пытаннямі, звязанымі з так званым міжнародным усынаўленнем, у якім прымае ўдзел і наша рэспубліка. Там займаюцца ўсынаўленнем нават не дзяржаўныя органы, а прыватныя агенцтвы, якія маюць ліцэнзіі на такую сваю дзейнасць. Вы не ўяўляеце, як дакладна, аператыўна функцыянуюць гэтыя агенцтвы. Кожнае мае банк дадзеных аб патэнцыяльных усынаўляльніках і дзецях, якіх можна ўсынавіць. Агенцтвы звязаны паміж сабой і, калі трэба, абменьваюцца інфармацыяй. У гэтым штаце не могуць задаволіць густы і патрабаванні ўсынаўляльніка — імгненна знаходзяць падыходзячую кандыдатуру ў другім, трэцім штаце. У ЗША не існуе дзіцячых дамоў у нашым разуменні. Калі і ёсць дзеці, ад якіх адмовіліся бацькі, дык да ўсынаўлення яны ўтрымліваюцца ў часовых сем'ях. Але каб вы пабачылі, якую скрупулёзную інфармацыю там збіраюць аб сям'і перш, чым аддаць туды дзіця на ўсынаўленне. Правяраюць радавод ледзь не да трэцяга калена. І матэрыяльнае становішча, і стан здароўя, і ці не былі раней заўважаны ў якіх-небудзь непрыгожых учынках, і да т. п. Потым за гэтымі сем'ямі ўстанаўліваецца самы жорсткі кантроль, ад іх патрабуюць рэгулярных справаздач, як пачувае сябе дзіця ў новай сям'і.

**Л. ДЗЕМЯНЧУК:** — Вядома, мы, работнікі дзіцячых устаноў, не маем магчымасці так, як амерыканцы, кантраляваць сем'і, якія ўзялі нашых дзетак, у нас усё гэта робіцца на грамадскіх пачатках, і гэтым усё сказана...

**С. БУБЕН:** — Чамусьці бытуе думка, што ўсынавіць дзіця ў нас вельмі цяжка, амаль немагчыма. Маўляў, вялікія чэргі жадаючых, валакіта з афармленнем дакументаў і г. д. Але не думаю, што гэта невырашальныя праблемы. Пакуль што колькасць хлопчыкаў і дзяўчынак, якіх можна ўсынавіць і ўдачарыць, значна больш за тых, хто мае намер гэта зрабіць.

**П. МІЦЬКО:** — Магу назваць канкрэтныя лічбы. На пачатак гэтага года было зарэгістравана 2900 сем'яў, якія хацелі б узяць сабе дзіця. Гэта не так ужо і многа, калі ўлічыць, што ў рэспубліцы налічваецца каля 140 тысяч жанчын, якія з-за хваробы пазбаўлены магчымасці мець уласных дзяцей. Так што патэнцыяльных усынаўляльнікаў у нас шмат. Трэба толькі з імі працаваць.

**Г. ЗАВАДСКАЯ:** — На тэрыторыі майго раёна няма дзіцячых устаноў. Ёсць толькі дзіцячая бальніца, куды дастаўляюць немаўлят, ад якіх адмовіліся маці. Так што я аддаю дзяцей на ўсынаўленне проста з бальніцы. Вядома ж, пры захаванні прадугледжанай заканадаўствам працэдуры. Якія складанасці? Сем'і, якія хочуць узяць на выхаванне дзіця, аддаюць перавагу дзяўчынкам. Чым немаўлятка меншае, тым большым, даруйце за грубае ў дадзеным кантэксце слова, попытам яно карыстаецца. Баяцца, што старэйшыя, скажам, трохгадовыя дзеці, не прывыкнуць да новых бацькоў. Я ж, наадварот, раю браць старэйшых, калі ўжо сфарміраваўся чалавечак. Грудное ж дзіцятка трапіць у сям'ю, а потым высвятляецца, што яно псіхічна анамальнае. І пачынаецца гісторыя з вяртаннем такіх дзяцей. Вельмі непрыгожая бывае гісторыя. Наогул многія ўсынаўляльнікі паводзяць сябе пры выбары дзіцяці як у магазіне, куды прыйшлі купляць нейкую рэч: «Пакажыце гэта, а цяпер тое, а гэта мне заменіце». Сорамна бывае слухаць.

**С. БУБЕН:** — У многіх краінах сем'і, якія выбралі дзіцё на ўсынаўленне, а потым ад яго адмовіліся, пазбаўляюцца наогул права на такі акт.

**П. МІЦЬКО:** — Існуе і праблема тайны ўсынаўлення. У ЗША, напрыклад, як я ўпэўніўся, у тайне гэта трымаць не прынята. Адна з амерыканскіх сем'яў, дзе мне давялося гасцяваць, усынавіла двух хлопчыкаў з Тувы — аўтаномнай рэспублікі былога СССР. Хлопчыкі — тыповыя манголоіды, прыёмныя бацькі — белыя амерыканцы. Якая тут можа быць тайна ўсынаўлення! Ды і ў выпадках, калі прыёмныя дзеці адной расы з новымі бацькамі, тайны з усынаўлення не робяць. Усё гэта настолькі тут нармальная з'ява, што нікому з тых жа суседзяў не прыйдзе ў галаву неяк папікнуць ці яшчэ горш — пашантажыраваць прыёмных дзяцей. А ў нас? Вось чаму я лічу, што ў нас тайна ўсынаўлення павінна строга захоўвацца. Дарэчы, яе разгалошанне караецца законам.

**Г. ЗАВАДСКАЯ:** — На практыцы захаваць такую тайну вельмі цяжка. Вось вам прыклад. Іду ў райвыканкам з паперамі на ўсынаўленне. З усіх асоб, якія займаюцца іх афармленнем, ніхто, акрамя мяне, не нясе юрыдычнай адказнасці за разгалошанне ўсынавіцеляў. Вось вам і тайна...

## РЭДАКЦЫЙНАЕ ПАСЛЯСЛОЎЕ

Вось на такой, досыць мінорнай, ноце закончылася гаворка за «круглым сталом», гаворка, якая, на нашу думку, высвеціла шэраг набалелых праблем, звязаных з жыццём нашых маленькіх грамадзян, — найперш тых, хто насяляе краіну абяздоленага, пазбаўленага мацярынскай ласкі дзяцінства.

Мы б саграшылі супраць ісціны, калі б сказалі, што ў дзяржаве нашай нічога не робіцца, каб дапамагчы дзецям-сіротам, якіх у нас сёння, як гэта ні парадаксальна, больш, чым было ў першыя пасляваенныя гады. Робіцца, і робіцца нямала. Сёння ў рэспубліцы — больш як сто дзіцячых устаноў, якія няблага матэрыяльна забяспечаны, у іх працуюць вопытныя, адданыя справе спецыялісты.

І, разам з тым, у рэспубліцы яшчэ не створана належнай заканадаўчай базы, якая б дакладна вызначыла статус дзяцей-сірот, іх правы, іх, фігуральна кажучы, месца пад сонцам. У гэтай сувязі цяжка зразумець пазіцыю народных дэпутатаў з парламенцкага аб'яднання «Беларусь», якія на мінулай вясенняй сесіі Вярхоўнага Савета настаялі на выключэнні з парадку дня Закона «Аб правах дзіцяці». Відаць, не ўсім гэта баліць. Відаць, для многіх нашых заканадаўцаў «слязінка дзіцяці», якую Ф. Дастаеўскі некалі ўзвёў, як сімвал чалавечага пакутніцтва, у абсалют, усяго толькі літаратурная метафара /хочацца думаць, што яны чыталі Дастаеўскага/.

А, тым часам, учарашнія дзетдомаўцы адчуваюць сябе грамадзянамі другога гатунку. Выступаўшая на пасяджэнні «Дзіцячага парламента» /яно адбылося праз тры дні пасля лімаўскага «круглага стала»/ выхаванка Жодзінскай школы-інтэрната з горыччу гаварыла: «Я з жахам чакаю заканчэння школы, бо пасля яе апынуся літаральна на вуліцы, без даху над галавой, без працы. Вельмі хацела б вывучыцца на ўрача, але для мяне гэта няздзейсненая мара, бо дапамогі няма адкуль чакаць».

Чытач, які прачытае гэтую справаздачу, прыйдзе да высновы, што няма ў нас пакуль што і дакладна прадуманай сістэмы ўсынаўлення дзяцей-сірот, што ў гэтай складанай справе працвітае часта самадзейнасць. Ці не таму падбор дзяцей і іх усынаўленне часам адбываецца з парушэннем элементарных этычных і маральных норм, ператвараючыся ў нейкі акт куплі-продажу, калі адны імкнуцца збыць «тавар», а другія, купляючы, не прагадаць пры гэтым. Менш за ўсё яны думаюць пра чулую, датклівую дзіцячую душу.

На жаль, толькі мімаходзь за «круглым сталом» была закранута тэма так званага «міжнароднага ўсынаўлення», вельмі распаўсюджанага ва ўсім свеце. Ёсць нямала прыкладаў такога ўсынаўлення і беларускіх дзяцей-сірот. Напрыклад, у другім дзіцячым доме г. Мінска за апошні год было ўсыноўлена сем дзетак амерыканскімі і дацкімі сем'ямі. Дырэктар дома Валянціна Пятроўна Зяневіч паказвала нам каляровыя здымкі гэтых дзяцей, прысланыя з іх новай радзімы. Варта толькі было зірнуць на іх /а здымкі прысланы ў якасці ілюстрацыі да абавязковай справаздачы, якую прыёмныя бацькі дасылаюць у дзіцячы дом/, каб убачыць, што з дзецьмі там усё у парадку. Валянціна Пятроўна сказала, што больш за ўсё яе ўразіла, што замежныя ўсынаўляльнікі спынілі свой выбар на дзецях з прыроджанымі фізічнымі і псіхічнымі анамаліямі.

Застаецца дадаць да гэтага, што сёння, зноў жа з падачы некаторых народных дэпутатаў, гэты, па іх словах, «распродаж дзяцей» за мяжу на тэрыторыі рэспублікі забаронены. Цікава было б спытаць у спадароў-парламентарыяў, што яны могуць прапанаваць гэтым няшчасным дзецям-інвалідам узамен? Інвалідныя дамы з усім іх жахлівым бытам? Зрэшты, ці не абыякавы ім наогул лёс гэтых канкрэтных Пецяў, Васяў, Свет? Вядома, што мысліць глабальнымі катэгорыямі куды лягчэй...

**Матэрыялы «круглага стала» падрыхтаваў і пракаментаваў**
**Міхась ЗАМСКІ**

# ЛіМ - часапіс

## ПРЭМ'ЕРЫ

## ТРЫ ДЭБЮТЫ Ў АДЗІН ВЕЧАР

**Яны надарыліся на прэм'еры новага мастацкага фільма «Пра яе, але без яе», якая прайшла ў Доме ветэранаў. Перадусім — гэта дэбют маладога рэжысёра Ігара Лянёва, у галоўнай ролі дэбютавала спявачка Ліка Ялінская, салістка ансамбля «Верасы». Стужка пазначыла сваім выхадам да гледачоў дэбют трэці — новай кінакампаніі «Дэмарш-фільм».**

**Прэм'ера «Пра яе, але без яе» прайшла без яго — без акцёра Юрыя Казючыца, — гэты фільм стаўся для яго апошнім...**

**Прадзюсер прэм'ернай стужкі — Валерый Дзмітрачэнка. Аўтар сцэнарыя — Яўген Рутман, мастак-пастаноўшчык — Алім Матвейчук, гукааператар — Уладзімір Галаўніцкі, кампазітар — Аляксандр Цішчанка. У ролях заняты Віктар Ракаў, У. Янкоўскі, Аляксандра Захарава і іншыя.**

**Пятро ГАРДЗІЕНКА**

## ТЭАТР

## НА ПАШТОВАЙ СТАНЦЫІ Ў БЕРАСЦІ...



**Брэсцкі абласны тэатр драмы пачаў свой пяцідзесяты сезон прэм'ераю — вадэвілем Аляксандра Грыбаедава і Пятра Вяземскага «Падман за падманам». Гэта яркі музычны спектакль пра каханне. Пастаноўку здзейсніў рэжысёр Сяргей Палешчанкоў. Музыку напісаў кампазітар Васіль Кандрасюк. У ролях заняты акцёры Алена Дабышук, Вольга Кажэвіна, Міхаіл Мятліцкі, Валерый Карнавухаў, Сямён Церайкоўскі, Таццяна Куцэвіч, Алена Ягорава, Людміла Рабая, Міхаіл Даўгаполаў. Вядома, што А. Грыбаедаў жыў у старым Берасці ў 1813-1814 гадах, а п'еса «Падман за падманам» пісалася як згадка пра гусарскую маладосць, пра звычаі і людзей, якіх сустракаў рускі паэт на Берасцейшчыне. 180 гадоў таму! З дапамогаю акцёраў гледачы лёгка пераносяцца на тагачасную паштовую станцыю, дзе завязваецца вясёлая, але напружаная любоўная інтрыга.**

**На жаль, ужо шосты год трупа брэсцкага тэатра вымушана працаваць, не маючы свайго дома — усё ідзе рэканструкцыя будынка. Каб пашырыць творчыя магчымасці, калектыў таэтра сёлета стварыў малую сцэну, дзе будуць пракатвацца спектаклі мінулага сезона, а таксама чакаецца прэм'ера камедыі Л. Разумоўскай «Пад адным дахам» /рэжысёр — заслужаны артыст Беларусі Сяргей Еўдашэнка/.**

**З. Д.**

*На здымку: сцэна са спектакля «Падман за падманам».*

*Фота М. ПАЎТАРАКІ*

## ГАСТРОЛІ СЯРОД СЕЗОНА

**З 14 па 20 лістапада працягнуцца гастролі пермскага муніцыпальнага тэатра «Ля моста», лаўрэата чатырох айчынных і чатырох замежных фестываляў самых розных рангаў, у памяшканні і па запрашэнні Альтэрнатыўнага тэатра Вітаўтаса Грыгалюнаса і Леаніда Дзінерштэйна. У рэпертуары пермякоў — «Жаніцьба» М. Гогаля, «Шынкарка» К. Гальдоні, «Панначка» Н. Садур паводле М. Гогаля.**

## ВЕЧАРЫНЫ

## ЗНІЧ КРЫЖОВЫХ ДАРОГ...

**На дарогах зямных — бальшаках і сцяжынах — застаюцца радзімкамі нашы сляды. У прасторы таемнай натуюцца думкі-памкненні ды справы. Тым жывыя былі нашы продкі, і з гэтым набыткам нярушным да наступнікаў мы рассцілаем цяпер пуцявіну...**

**4 лістапада ў Доме літаратара адбылася вечарына паводле кнігі Антаніны Хатэнкі «Зніч крыжовых дарог», правядзенню якой адмыслова паспрыялі фірма «Дайнова», МП «Сувой», ТБМ імя Францішка Скарыны, а таксама мастачка з горада Барысава Наталля Ганчарова, якая дапасавала да шчырай гаворкі пра нашую памяць і гісторыю лірычную жывапісную выставу. Дзякуючы агульным намаганням творцаў і бізнесменаў арганізатарам вечарыны ўдалося стварыць у зале атмасферу адметную, пранікнёную, прасякнутую супольнай турботай пра шляхі нашы пакутныя па Айчыне, трывогай пра дзень будучы і шчымлівым успамінам пра мінуўшчыну, затканую ў дзівосныя палотны народнай культуры.**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі, Дом літаратара ды аўтарка кнігі выказваюць падзяку ўсім, хто справай і думкай далучыўся да правядзення вечарыны і цешацца надзеяй на адраджэнне фундатарскіх традыцыяў у дачыненні да літаратуры і мастацтва. «Бо той толькі жне, хто пасее» — казаў мужны ваяр і дбайца пра Бацькаўшчыну Яська-гаспадар з-пад Вільні — Каліноўскі.**

**Н. К.**

## МАСТАЦТВА

## «ПРЫТУЛАК СКАРЫНЫ»



**Нацыянальнаму культурна-асветнаму цэнтру імя Ф. Скарыны перададзены камплект каляровых здымкаў Прагі і яе ваколіц. Гэтая цікавая фатаграфічная калекцыя займела назву «Прытулак Скарыны». А перададзена яна цэнтру па даручэнні місіс Дагмар Т. Волкат — выкладчыцы універсітэта горада Калумбус, які з'яўляецца сталіцай амерыканскага штата Агаё. Між іншым, у гэтым штаце, у Кліўлендзе, месціцца беларускі культурны цэнтр «Полацак».**

**Аўтар прэзента — місіс Дагмар Г. Волкат выкладае ва універсітэце англійскую мову, перакладае беларускую паэзію; у свой час наведала разам са сваімі выхаванцамі Тбілісі, Маскву, Ленінград. Многае ведае і пра Беларусь. Яе ўлюбёны мастак — Марк Шагал з Віцебска.**

**Бацька Дагмар Т. Волкат паходзіць з Маравы /з-пад горада Брно/. У 1948 годзе, калі дачцэ было 2 гады, эмігрыраваў з Чэхаславакіі. Нашае знаёмства з амерыканкай адбылося ў Празе, куды Дагмар Т. Волкат прыехала вывучаць мову бацькі ў летняй школе славяназнаўства. Пазней яна зноў была ў Чэхіі. І вось адзін з вынікаў падарожжаў — калекцыя каляровых здымкаў, якая і знаходзіцца ў Скарынаўскім цэнтры. Яна — пра тую зямлю, прыгожую і старажытную, дзе наш славуты зямляк па волі лёсу знайшоў свой апошні спачын.**

**Сяргей ПАНІЗНІК,**
старшыня рады сябрыны «Беларусь—Чэхія»

*На здымку Дагмар Т. Волкат — ратонда св. Мартына. Прага, Вышаград, 2-я палова XI ст.*

## ЛІТКУР'ЕР

## ПАЭЗІЯ, КВЕТКІ, АПЛАДЫСМЕНТЫ...

**Амаль тры гадзіны доўжылася ў Доме літаратара вечарына «Паміж усмешкай і слязой», прысвечаная новай кнізе ды і ўвогуле творчаму шляху Ніны Мацяш. Правіноўніцу ўрачыстасці гаварылі Н. Гілевіч, Я. Брыль, В. Зуёнак, С. Законнікаў, А. Вярцінскі /ён вёў вечарыну/, А. Разанаў і іншыя. У. Скарынкін прачытаў верш, прысвечаны паэтэсе. Кампазітары М. Марозава і І. Вінаградава, спявачка Л. Маслоўская, бард А. Атаманаў, трыо «Рамонак» пазнаёмілі прысутных з песнямі на яе вершы. Пра грамадскую работу Н. Мацяш расказаў старшыня Белаазёрскага гарсавета В. Банасевіч.**

**І, вядома ж, з цікавасцю слухалі прысутныя саму Ніну Іосіфаўну, якая пазнаёміла са сваімі творамі і перакладамі на беларускую мову французскіх, польскіх, рускіх, украінскіх аўтараў.**

**Пачалася ж вечарына з таго, што вершы паэтэсы чытала народная артыстка Беларусі Л. Давідовіч.**

**П. Г.**

## СУСТРЭЧЫ

## МАЛАДЫЯ — ДА МАЛАДЫХ

**Добрая традыцыя склалася ў супрацоўнікаў рэдакцыі часопіса маладых літаратараў «Першацвет» — рэгулярныя сустрэчы з юнымі чытачамі. Апошнім разам яны наведалі 80-ю школу, што ў Маскоўскім раёне Мінска. На сустрэчу прыйшлі дзесятыя класы, а таксама восьмы клас з паглыбленым вывучэннем беларускай мовы. Прадстаўнікі «Першацвета» Алесь Пашкевіч, Мікола Віч, Юля Алесніна, Людміла Шчэрба і Алесь Давыдаў расказалі пра часопіс, пачыталі ўласныя творы. Прысутныя мелі магчымасць тут жа набыць нумары часопіса і ўзяць аўтографы ў аўтараў.**

**Высветлілася, што сярод вучняў ёсць патэнцыяльныя аўтары «Першацвета» — пачынаючыя празаікі і паэты, што надало сустрэчы дадатковую цікавасць. «Добра, што з'явіўся такі часопіс, — гаварылі вучні. — Цяпер мы ведаем, куды дасылаць свае творы».**

**Л. Ш.**

## ДРУК

## «ПРАЛЕСКА» ХАЛАДОЎ НЕ БАІЦЦА

**Сталася так, што па незалежачых ад рэдакцыі прычынах некалькі нумароў часопіса «Пралеска» затрымаліся. Ды нездарма кажуць: лепш позна, чым ніколі. Усе яны цікавыя і змястоўныя.**

**У прыватнасці, у шостым нумары Я. Пархута расказвае пра С. Новіка-Пеюна /«Адысея маладога Дзядка»/, С. Сачанка гутарыць з М. Сяднёвым — «Выхаванне па Масею», Л. Забалоцкая знаёміць з мастачкай А. Лось /«Як калінавая гронка»/, У. Арлоў працягвае выступаць з апавяданнямі па гісторыі Беларусі — «Адкуль наш род».**

**Сёмы і восьмы нумары — здвоеныя. У. Арлоў знаёміць чытачоў з лёсам і творчасцю М. Гусоўскага. А. Бадак працягвае рубрыку «Маленькі чалавек у вялікім свеце», а А. Марціновіч — «Дзіцячая літаратура: ад вытокаў да сучаснасці». Л. Забалоцкая гутарыць з намеснікам галоўнага рэдактара студыі праграм для дзяцей і падлеткаў рэспубліканскага радыё С. Вавілавай — «Каток Банця і іншыя...»**

**Толькі што прыйшоў да падпісчыкаў дзевяты нумар «Пралескі». Часопіс віншуе з 80-годдзем С. Грахоўскага — «Барвы сталай восені». У нумары — слова галоўнага рэдактара А. Сачанкі «Тэра інкогніта», разгорнутая справаздача з міжнароднай навукова-метадычнай канферэнцыі «Дзіцячы сад сёння і заўтра», апавяданне У. Арлова з гісторыі Беларусі «Полацкая вайна», артыкулы А. Лозкі «Як узыходзіла «Пралеска» /па старонках аднайменнага часопіса, які рэдагавала З. Верас/, В. Скідана «Святы пакроў пакрыў зямлю...», гутарка І. Сачанкі з М. Рабдзі аб выхаванні падрастаючага пакалення ў Каралеўстве Марока /«У няказачным каралеўстве»/, творы У. Якубовіча, Г. Каржанеўскай, С. Грахоўскага, І. Шуцько. А яшчэ — чарговы выпуск «Бібліятэчкі «Пралескі». Выняўшы старонкі-развароты, лёгка можна зрабіць невялікую кніжачку А. Зэкава «Рыбацкія скорагаворкі».**

## І ЛЁС ПАКАЛЕННЯ

**Менавіта такую назву даў уступнаму артыкулу, якім адкрываецца першы том выбраных твораў Барыса Сачанкі, Серафім Андраюк. І на самай справе Б. Сачанка належыць да пісьменнікаў, якія, узнаўляючы падзеі, расказваюць адначасова і пра лёс уласнага пакалення. Першы том, што прыйшоў нядаўна да чытача, склалі першая і другая кніга рамана «Вялікі Лес». У наступныя два тамы ўвойдуць трэцяя кніга «Вялікага Лесу», аповесці «Мальвіна», «Палон», «Не на той вуліцы», іншыя творы знакамітага празаіка.**

## КУЛЬТУРА

## ІЗНОЎ ГУЧАЎ «МАГУТНЫ БОЖА»...

**Для ігуменцаў, як называюць сябе карэнныя насельнікі Чэрвеня, сёлетнія Дзяды сталіся ўрачыстасцю адраджэння і духоўнасці. 2 лістапада на адной з вулак гэтага ціхага мястэчка адбыўся мітынг, прысвечаны памяці выдатнага музыканта, кампазітара Міколы Равенскага, які жыў тут у гады вайны і працаваў рэгентам у царкве. Жыхары Чэрвеня ды госці са сталіцы сабраліся ля дома, які й быў у тую драматычную часіну прытулкам М. Равенскага. З фатаграфіі /рэпрадукцыю яе мы друкуем/ глядзелі на прысутных мудрыя добрыя вочы Музыканта. А побач на сцяне дома чакала ўрачыстай хвіліны схаваная пад покрывам мемарыяльная дошка. Нямала шчырых слоў з нагоды яе адкрыцця сказалі на мітынгу старшыня раённай арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны У. Адамовіч, намеснік галоўнага рэдактара газеты «Голас Радзімы» Д. Чаркасава, настаўнік Чэрвеньскай школы У. Дарагуш, які маленькім хлапчуком падчас вайны спяваў у той самай царкве, дзе кіраваў хорам М. Равенскі, а цяпер вось па ўласнай ініцыятыве знайшоў і памятны дом. Выступіла таксама дачка М. Равенскага спявачка В. Аляксеенка. Верш, прысвечаны аўтару «Магутнага Божа», прачытаў паэт А. Вольскі. У гэты ж дзень аўтар мемарыяльнай дошкі мастак Г. Матусевіч прыняў гасцей на сваёй персанальнай выстаўцы, разгорнутай у Чэрвеньскім краязнаўчым музеі. А мужчынскі камерны хор «Унія» пад кіраўніцтвам К. Насаева наладзіў невялікі канцэрт з твораў М. Равенскага. Ізноў гучаў дасканалы й чысты, як малітва, гімн «Магутны Божа»...**

**Н. К.**

## УГОДКІ

## РАЗЬБЯР



**Гэты здымак — ужо гісторыя. Ён прыадчыняе адну са старонак станаўлення беларускага нацыянальнага мастацтва. Сярод яго верных служыцеляў быў і Апалінар Фларыянавіч Пупко, чый 100-гадовы юбілей адзначае цяпер грамадскасць рэспублікі.**

**Ураджэнец Валожынскага раёна, майстар пражыў працяглае плённае жыццё. У Івянецкай школе ён выкладаў чарчэнне і маляванне, перадаючы дзецям сваю любоў да цудоўнага, свае навыкі і ўменне. А справай усяго яго жыцця стала мастацтва разьбы па дрэве.**

**Спадчына майстра і сёння прыносіць задавальненне ўсім, каму выпала з ёй пазнаёміцца.**

*На здымку: народны ўмелец А. Ф. Пупко /справа/ са старэйшымі майстрамі ганчарнай справы В. Ф. Кулікоўскім і Ф. І. Целішэўскім каля свайго дома. Фота 1980 г.*

*Здымкі з фотатэкі БЕЛІНФАРМА*

ЛіМ - часапіс

# «ПРА ТАКУЮ КРАІНУ Я МАРУ...»

*(Пачатак на стар. 4)*

та за чалавека ўсё вырашалі абставіны. Ён толькі мусіў падпарадкоўвацца ім ці не. Цана такога рашэння была надзвычайная — жыццё. Калі зыходзіць з такой пазіцыі, то многія падзеі ваеннага часу становяцца больш зразумелымі і не такімі адназначнымі, як іх трактавалі на Бацькаўшчыне.

Немцы забіралі моладзь на прымусовыя работы ў Нямеччыну. Я таксама трапіў на вываз. Нас было некалькі чалавек з вёскі. Мне чатырнаццаць гадоў, астатнія крыху старэйшыя. Што з намі будзе, — мы тады яшчэ не задумваліся. Немцы пагрузілі нас у вагоны і павезлі. Мы былі патрэбны ім як рабочая сіла.

**— Ты не думаў тады, што гэта пачатак тваёй эміграцыі?**

— Не, але фактычна так яно і сталася. Хоць і была тая эміграцыя прымусовая. Дык вось, прывезлі нас у Нямеччыну, размеркавалі на працу. Мяне адправілі да нейкага баўэра... Але я прабыў там нядоўга. Паглядзеў што да чаго і ўцёк у пошуках лепшай долі. Бадзяўся па Нямеччыне. Гэта былі цяжкія часы. Прыбліжалася капітуляцыя. Нямецкія гарады бамбілі бесперастанку. Людзі не паспявалі хавацца. У адну з такіх бамбёжак трапіў аднойчы я. Зямля змяшалася з небам, дым, агонь, аглушальныя ўзрывы... Мяне раніла. Асколак разарваў нагу. Немцы адправілі мяне ў шпіталь, і я праляжаў там пяць месяцаў. Была зіма, голад, холад і каб не шпіталь, — то я замёрз бы недзе. Мая параненая нага пакрыху папраўлялася. У шпіталі быў сапраўдны інтэрнацыянал. Там я пазнаёміўся з грузінам, які ўмеў па-руску і разумеў маю беларускую мову. Аднойчы мы трапілі з ім на вечарыну беларускай моладзі, што была вывезена, як і я, на працу. Пачуў родныя песні, родную мову, і такая самота агарнула...

Немцы па-чалавечы адносіліся да нас. Калі мяне выпісалі са шпіталя, я быў яшчэ слабы. Доктар дамовіўся, каб я два тыдні пажыў у нямецкай сям'і. Яны пасялілі мяне ў паддашшы. Было яшчэ холадна, але мне далі пуховую коўдру, і я там жыў. Немцы былі ў паніцы перад капітуляцыяй. Мы, выгнанцы, таксама адчувалі сябе няпэўна... Праз нейкі час мяне адправілі ў рабочы лагер, а я ўсё ніяк не мог даехаць. Ад старэйшых людзей чуў, што трэба падавацца далей на захад, каб не трапіць у савецкую зону. Нас занялі амерыканцы. Яны ехалі на джыпах. Прыпыніліся, распыталі, хто мы і адкуль. А куды вы ідзяце? — пытаюць. Ваша зямля на ўсходзе, ідзіце назад. А жанчына, што з намі была, кажа амерыканцу: ты ідзі туды! Ён толькі засмяяўся і нічога не сказаў.

Пачаліся новыя бадзянні. Немцы хацелі адправіць мяне дамоў, бо я не меў 18 гадоў. Неяк прыслалі паведамленне, што трэба з'явіцца на зборны пункт, адкуль мяне адправяць на радзіму. Такія ж цыдулкі атрымалі і мае сябры. Мяне дамоў не цягнула. Я ўжо наслухаўся, як абыходзяцца з тымі, хто вяртаецца з Нямеччыны. Але што рабіць? Трэба альбо ўцякаць, альбо неяк бараніцца...

Нас сабралася некалькі чалавек і мы з дапамогай старога беларускага эмігранта склалі ліст да акупацыйных уладаў. Маўляў, мы, беларусы, дамоў не паедзем, бо наша зямля занята саветамі, а мы не савецкія грамадзяне. Калі за намі прыехала машына, каб забраць на зборны пункт, я схаваўся на гарышчы адной з суседніх хат і назіраў, што будзе. Амерыканскі сяржант прачытаў той ліст і кажа: у мяне загад прывезці тых, хто хоча, а калі вы не хочаце — ваша права...

**— А чаму немцы так імкнуліся пазбавіцца ад уцекачоў?**

— Ім самім тады было цяжка. А тут яшчэ столькі людзей — з усёй Еўропы: хто сілай вывезены, хто сам прыехаў. Ім хацелася хутчэй дайсці да ладу і пачаць уладкоўваць новае жыццё. Мы, хоць і былі падлеткамі, але баяліся, што, калі нас саветы зловяць, то прамым «сообщением» павязуць на Сібір... З полымя ды ў агонь... Нас адправілі ў лагер для перамешчаных асобаў. Там мы дачуліся, што ў Рэгенсбургу зарганізаваўся беларускі асяродак. Я падаўся туды, каб быць са сваімі. Памятаю сваю першую сустрэчу з Янкам Станкевічам. Ён падышоў да мяне і пытаецца: ці ты беларус? Кажу: так. А ён удакладняе: крывіцкі беларус? Я сумеўся: чаму крывіцкі. Ён яшчэ крыху пагаварыў са мной і кажа: ты паходзіш з Вілейскага, Докшыцкага альбо Глыбоцкага раёнаў...

**— А як ён гэта вызначыў?**

— Па тым, як я размаўляю, па асаблівасцях маёй мовы. О, ён быў выдатны мовавед! Я толькі не зразумеў тады, што значыць крывіцкі беларус. Ужо пазней даведаўся, што Станкевіч замест слова Беларусь прапанаваў увесці слова Крывія, перайменаваць Беларусь у Крывію. Не ўсім гэта падабалася, але трэба сказаць, што пэўны рэзананс яго тэорыя атрымала. Прыжылося гэтае слова ў скаўтаў. Першых беларускіх скаўтаў на выгнанні называлі крывічамі і яны насілі знакі крывічоў. Пазней Станкевіч адмовіўся ад Крывіі і прапанаваў называць Беларусь Вялікалітвой. Ён лічыў, што слова Беларусь апаганена бальшавікамі і больш не можа ўжывацца як назоў дзяржавы...

**— Рэгенсбург займае асобнае месца ў гісторыі беларускай эміграцыі. Беларускі лагер для перамешчаных асобаў, дзякуючы намаганням невялікай групкі энтузіястаў, ператварыўся ў школу нацыянальнага ўзгадавання для цэлага пакалення беларускіх выгнанцаў...**

— О так. Рэгенсбург павярнуў да беларускасці сотні людзей. Табе, мабыць, ужо расказвалі і пра гімназію імя Янкі Купалы, і пра тэатр эстрады «Жыве Беларусь», якія дзейнічалі там. Там закладвалася беларуская царква, пачыналася выдавецкая дзейнасць. З Рэгенсбурга і іншых беларускіх лагераў выйшлі людзі, якія ўзначалілі беларускую справу ў Амерыцы, іншых краінах свету. За тыя пару гадоў, што праіснаваў гэты лагер, было зроблена вельмі шмат. Але з канца 40-х гадоў людзі пачалі раз'язджацца на сталую эміграцыю. Бальшыня выхаванцаў Рэгенсбурга пераехала ў Амерыку. Мы імкнуліся перацягнуць сюды як мага больш людзей.



*Сяргей КАРНІЛОВІЧ на радзіме сярод сваякоў*

Шмат беларусаў прыехала ў штат Агаё. Ужо ў 1950 годзе ў Кліўлендзе мы адслужылі першую Боскую Літургію. Свайго будынка не было, дык наймалі спартыўную залу ў амерыканцаў і там маліліся. Пазней купілі невялікі двухпавярховы домік і набажэнствы перанеслі туды. Узяліся за будову сваёй царквы і праз некалькі гадоў асвяцілі яе. Яна нам і па сённяшні дзень служыць.

**— Так вакол царквы і гуртаваўся беларускі асяродак...**

— У 1951 годзе ў Кліўлендзе была фармальна заснавана парафія Жыровіцкай Божай Маці Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Распачыналася грамадскае жыццё. Напачатку я залажыў касы ўзаемадапамогі, каб хоць нечым з'яднаць людзей, утрымаць грамаду. Потым пачаў прыглядацца, каб купіць зямлю, дзе мы маглі б збірацца на пікнікі. Дамовіўся з агентам, што ён падбярэ нам участак. Я ехаў яго глядзець і па дарозе ў Стронсвіле ўбачыў: на продаж выстаўлена зямля. Месца мне вельмі спадабалася і мы з Кастусём Калошам рашылі купляць яго. Калі б мы купілі прыватна, то зараз мелі б вялікія грошы. Гэты ўчастак мы набылі за 80 тысяч долараў, пасля дакупілі яшчэ пару акраў за 30 тысяч, так што агульная маёмасць нам каштавала 110 тысяч. Каб расплаціцца, бралі пазыку ў банку, частку людзі сабралі. У выніку мы займелі ў ваколіцах Кліўленда прыблізна дзевяць гектараў «беларускай» зямлі. Толькі пасля гэтага пачалі склікаць людзей, каб рабіць нешта беларускае. І напачатку столькі многа людзей прыязджала, што не павярнуцца было. Асабліва летам. Кожную нядзелю праводзілі пікнікі. Абавязкова гатавалі беларускую страву. Не раз там адбываліся царкоўныя службы. Людзі мелі магчымасць цэлы дзень праводзіць у беларускім асяродку. А ён складаўся, між іншым, з беларусаў-палешукоў. Ад іх ініцыятыва і падтрымка былі найбольшыя. Пры царкве пачала дзейнічаць суботняя беларуская школа. Тыя, хто закончыў яе, ведаюць беларускую мову і сёння, паслугоўваюцца ёю.

**— Мне расказвалі, што менавіта ў тыя гады над Амерыкай упершыню ўзняўся бел-чырвона-белы сцяг?**

— Напэўна. Мы прыехалі сюды з бел-чырвона-белым сцягам, з «Пагоняй», гімнам «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Эміграцыя ў той час песімістычна глядзела на перспектыву беларускага жыцця ў Беларусі, не спадзявалася на нейкія змены пры сваім жыцці. Таму мы шырока выкарыстоўвалі ў Амерыцы нацыянальную сімволіку, шанавалі нашы нацыянальныя святыні. І ўжо ў 50-х гадах амерыканцы ўспрымалі іх як сімвалы суверэннай Беларусі. 25 сакавіка мэр Кліўленда вывешваў над гарадской управай побач з амерыканскім і беларускі сцяг, казаў прамову, віншаваў усіх беларусаў са святам. Гэта была падстава заявіць на ўсю Амерыку, што наша краіна пакуль не вольная, што мы змагаемся за яе незалежнасць. Амерыканцы разумелі і падтрымлівалі нас.

**— У 50-х гадах у Амерыцы дзейнічала некалькі беларускіх цэнтраў. І, як ні дзіўна, паміж імі былі вельмі сціплыя кантакты...**

— Пра нейкія кантакты нават цяжка гаварыць, бо іх не было. Эміграцыя разбілася на групоўкі. Дарэчы, пачалося гэта яшчэ ў Нямеччыне. Многія беларускія дзеячы, якія падтрымлівалі прэзідэнта БЦР Радаслава Астроўскага, адышлі ад яго, бо зразумелі, што пашыраць беларускую справу на вонкі немагчыма пад імем БЦР, якую назначыў нямецкі генерал Готберг. Я нядаўна прачытаў Статут БЦР, нехта мне прыслаў баранавіцкую газету, у якой ён быў надрукаваны ў 1943 годзе. Там так і напісана, што прэзідэнт не можа прайсці без зацвярджэння і прызначэння Генеральным камісарам Беларусі. У гэтай сувязі мне зразумела пазіцыя нашых дзеячаў, якія ўзялі кірунак на аднаўленне БНР. Сутыкнуліся дзве палітычныя плыні. І адны і другія былі беларускімі патрыётамі, нацыяналістамі. І тут, мне здаецца, Астроўскі дапусціў памылку, якой не прамінулі скарыстацца прыхільнікі БНР. Ён прыехаў у адзін з беларускіх лагераў і, выступаючы перад беларусамі, заявіў, што за мяжой немэтазгодна мець аўтакефальную царкву. Вось вернемся на бацькаўшчыну, — тады і адродзім беларускую аўтакефалію... Варта прыгадаць, што аўтакефальная царква была створана ў 1942 годзе ў Менску. Але, апынуўшыся на эміграцыі, беларускі епіскапат перайшоў да рускай зарубежнай царквы. Епіскап Філафей, праўда, бажыўся, што гэта часова, што аўтакефалія застаецца, але на самай справе зарубежная царква была поўнасцю манархічнай і шавіністычнай і ніякай беларускай аўтакефаліі не прызнавала і не збіралася гэта рабіць. Тады ж прыхільнікі БНР стварылі свецкі камітэт па аднаўленні аўтакефаліі беларускай праваслаўнай царквы. Ён звярнуўся да ўкраінцаў, каб яны высвецілі нам епіскапа Уладзіміра Тамашчыка.

**— Спадар Сяргей, на думку некаторых эмігрантаў, у тых варунках аднаўленне БАПЦ было чыста палітычнай акцыяй?**

— Яно, магчыма, і так. Але іншага выйсця не было. Мы не маглі застацца без сваёй царквы. Стварэнне БАПЦ за мяжой канчаткова падзяліла эміграцыю на крывічоў і зарубежнікаў. Большасць была на баку крывічоў, якія падтрымлівалі БАПЦ. Але і з Астроўскім засталіся відныя беларускія дзеячы і шчырыя патрыёты...

**— Якія неўзабаве таксама адышлі ад рускай зарубежнай царквы?**

— Так, як толькі прыехалі ў Амерыку, яны перайшлі да грэцкай юрысдыкцыі. Яны ж ніколі не былі прыхільнікамі рускай царквы. Хутчэй — наадварот. Таму яны рашылі лепш да грэкаў падацца, чым заставацца пры расейцах. Водгукам на гэтую падзею быў артыкул «З варагаў у грэкі», які з'явіўся ў тыя дні ў мюнхенскай газеце «Бацькаўшчына».

**— А як сталася, што Кліўленд стаў адным з актыўнейшых крывіцкіх асяродкаў беларускай эміграцыі?**

— У Кліўлендзе была група моладзі, якая падтрымлівала ідэі БНР. Мы арганізавалі аўтакефальную царкву. Без канфліктаў таксама не абышлося. Калі дайшло да справы, які крыж ставіць на царкве, — рашылі: ефрасіннеўскі. Але старэйшыя людзі былі супраць. Тады паехалі да Тамашчыка прасіць дазволу. А ён кажа: калі людзі хочуць, — стаўце. Крыж той унёс вялікае непаразуменне паміж людзьмі, але мы яго паставілі, бо лічым, што ён беларускі...

**— А тое непаразуменне і да гэтага часу засталося?**

— У некаторай ступені. Калі б мы арганізавалі царкву пры грэцкай аўтаноміі, то прыход наш быў бы большым. Бо і асяродак у нас праваслаўны, і царква праваслаўная, а тое, што яна аўтакефальная і крыж мае свой, — гэта не спадабалася многім і яны падаліся ў расейскую царкву.

**— Пры вашай царкве з першага дня існавання дзейнічае зала, якая доўгі час была цэнтрам грамадскага жыцця...**

— Так, там адбываліся вечарыны, канцэрты, выставы. А цяпер ужо колькі гадоў у царкоўнай зале робяць пірагі — фактычна пельмені з капустай, рысам, мясам... Займаецца гэтай справай жаночае згуртаванне. Калі яны пачыналі, то мы не думалі, што нашы пірагі стануць такімі папулярнымі. Цяпер, бывае, робяць па спецыяльных заказах — у шпіталь ці на базар. І справа гэтая аказалася вельмі выгодная. Пасля трох гадоў працы жаночае згуртаванне ахвяравала 14 тысяч долараў на пабудову новай залы, а пасля яшчэ на 36 тысяч яны закупілі абсталяванне для кухні. Жанчыны збіраюцца раз на тыдзень, звычайна па чацвяргах. Спачатку працавалі бясплатна, а цяпер ужо праз каторы год плацяць па пары долараў.

**— Акрамя жаночага згуртавання, у Кліўлендзе ёсць арганізацыя моладзі. Ты таксама там доўгі час працаваў.**

— Так, нават быў старшынёй не адзін год. Цяпер арганізацыя моладзі не мае такога ўплыву, як раней. Маладое пакаленне беларусаў ужо не разумее беларускую спецыфіку і псіхалогію. Ім цяжка быць беларусамі. Адбываецца асіміляцыя. Тым больш, што асіміляцыя добраахвотная, каб была прымусовая, то быў бы пэўны адпор. Амерыканцы заклікаюць усіх эмігрантаў захоўваць сваю адметнасць і культуру, і гэтым самым узбагачаць культуру Амерыкі. Аднак абставіны складваюцца так, што моладзь адыходзіць ад беларускай справы. Некаторыя, пасталеўшы, вяртаюцца ў лона беларускай царквы. У будучыні не значыць, што наш асяродак прападзе, але ён замерыканізуецца канчаткова. Мы яшчэ жывём сваёй мовай, думаем па-беларуску, а нашы дзеці — не. Зараз мы зноў хочам адкрыць беларускую школку, каб трэцяе пакаленне беларусаў, народжанае ў Амерыцы, усё-ткі разумела мову сваіх бацькоў. Ім беларускую свядомасць прыходзіцца прышчапляць па-ангельску. Цяпер у Амерыцы модна шукаць свае карані. Я нават сам пачаў высвятляць, хто мае продкі. Маю бабулю ў другой палове мінулага стагоддзя вывезлі ў Сібір. Але яна не змагла там жыць і ўцякла

назад. Тры месяцы ішла пешшу на Беларусь. У Таргунах яна выйшла замуж і нарадзіла маю маму. Бабуля пражыла 93 гады, памерла пасля другой вайны. Я цяпер шкадую, што не распытаў яе пра нашых сваякоў у Сібіры. Але цяпер мне часам хочацца адшукаць іх, сустрэцца. Гэта ж родныя людзі. Беларусы раскіданы па ўсім свеце. Я ведаю па сваіх блізкіх. Мой дзядзька пасля вайны ачыніўся на Урале. Ажаніўся, меў дзве дачкі. З малодшай Таняй я хоць рэдка, але перапісваўся. І вось пару гадоў таму, калі я быў на Беларусі, яна з мужам прыехала, как сустрэцца са мной. Паглядзела на Беларусь і моцна пакрыўдзілася на бацьку, што ён не выхаваў яе беларускай, не навучыў мове, не пазнаёміў з культурай... Кажа мне: ты ў Амерыцы ўсё гэта захаваў, а я, жывучы ў адной краіне, страціла. Як мне прыемна было, калі пры развітанні Таня з мужам сказалі мне, што будуць размаўляць у Меднагорску па-беларуску. Людзі вяртаюцца да сваіх вытокаў...

**— Спадар Сяргей, а калі ты ўпершыню наведаў бацькаўшчыну?**

— Гадоў дваццаць мо. Я адзін з першых з пасляваенных эмігрантаў быў на Беларусі. Вярнуўся ў Нью-Йорк, сустрэўся з нашымі, расказаў, што бачыў. Памятаю, падыходзіць ка мне дзядзька Міхась Міцкевіч і кажа: чуў, што ты быў на Беларусі? Так, кажу, быў. То глядзі, каб больш не ездзіў... Людзі былі запалоханы. Калі ездзіў першы раз, мяне кантралявалі, пачынаючы з граніцы. У Брэсце вельмі пільна абшуквалі чамаданы. Хацелі за што-небудзь зачапіцца і, мусіць, не знаходзілі за што. Тады мне мытнік і кажа: у вас больш грошай, чым вы ўказалі ў дэкларацыі. Кажу — наце, лічыце. Тады ён мне зноў закідае: у вас ёсць савецкія грошы. А на халеру мне савецкія, калі я маю долары! І так бясконца. Чапляецца і глядзіць, як я сябе паводзіць буду. А бачу, што такая дурніца, дык зусім нічога не кажу. Ён пытае, а я маўчу. Прывёў начальніка. Той кажа: «Вы должны отвечать». Я адказваю, але не разумею, чаго гэты чалавек хоча. «Вы приехали в нашу страну и огрызаетесь...» Я кажу: чаго вы чапляецеся, я ж не на следстве... Пасля таго разу я зарокся, што куды-куды, а ў Савецкі Саюз больш ездзіць не буду. Але праходзіў год, крыўды забываліся і я зноў ехаў. На радзіму хочацца заўсёды. На Беларусь я ніколі не крыўдаваў, а што там такія начальнікі, то што ж рабіць. Гэта як божая кара...

**— Як ты думаеш, чаго цябе так баяліся, чаму сачылі за табой?**

— Мо думалі, што амерыканскі шпіён. Дзе б я ні быў у Менску — за мной хадзілі людзі ў цывільным... Паехаць у вёску я не мог. Некаторых сваіх пастухоў пазнаваў у твар. Нават быў такі выпадак. Я ішоў па Менску, а за мной хвост. Я прыпыніўся ля вітрыны каўбаснага магазіна і яны ў натоўпе згубілі мяне і не бачаць. Стаяць амаль побач, выглядаюць, дзе я падзеўся. Раптам чую — адзін кажа другому: глянь, Валодзя прыехаў. Я думаю, які Валодзя? А як глянуў на другі бок вуліцы: ідзе мой брат Валодзя. Яны добра ведалі і майго брата, і ўсіх, з кім я сустракаўся. У размовах з людзьмі я адкрыта казаў, што на Беларусі ўсё беларускае вынішчаецца, што беларусы павінны трымацца свайго нацыянальнага... Я для іх быў буржуазны нацыяналіст...

**— Спадар Сяргей, а нейкія кантакты з беларускімі арганізацыямі на радзіме ў вас былі?**

— Ніякіх. Мы разумелі, што таварыства «Радзіма» было прыкрыўкай КДБ. З імі мы не хацелі мець ніякіх кантактаў. Паездкі мае былі прыватнымі. Я шукаў у Менску што-небудзь беларускае. Хадзіў па музеях. У музеі Янкі Купалы экскурсавод пытае па-расейску: «На каком языке вам рассказывать?»

Кажу: на мове Янкі Купалы. Дзяўчына была вельмі эрудзіраваная і расказвала вельмі цікава. Яна добра ведала жыццярыс Купалы, яго вершы... А ці чулі вы, што ў Амерыцы ёсць помнік Купалу? — пытае яна ў мяне. Кажу: чуў і ведаю, што адкрывалі той помнік пад расейскія песенькі і музыку. Пад «яблычка» і «карабейнікі»... І я расказаў ёй гісторыю стварэння помніка ў Ароў-парку, штат Нью-Йорк. Да гэтай справы прычыніліся беларусы прарасейскай арыентацыі. Яны цесна супрацоўнічалі з тагачасным бэсэсэраўскім рэжымам. Тэлефанавалі яны і нам, каб мы дапамаглі сабраць грошы. Ідэя гэта была добрая і я перагаварыў са сваімі людзьмі. Многія пагадзіліся даць ахвяры. Але болей яны нас не турбавалі. Тая групоўка ў беларускім асяродку павагай не карысталася і беларусы да іх дзейнасці адносіліся насцярожана. Таму шырокай падтрымкі іх дзейнасць не атрымала. Яны звярнуліся ў БССР і ўлады далі ім бюст Купалы, прывезлі сюды і паставілі. Але гэта не стала беларускай падзеяй у Амерыцы, пра гэта тут мала хто ведае. Хоць, безумоўна, вельмі добра, што ў Амерыцы ёсць бюст Янкі Купалы. Мы мяркуем неўзабаве і ў «Полацаку» паставіць помнікі Францішку Скарыну і Ефрасінні Полацкай.

**— Спадар Сяргей, ці шмат беларусаў прымала ўдзел у камуністычных арганізацыях Амерыкі?**

— Мала. У левых і сацыялістычных арганізацыях былі старыя эмігранты — выхадцы з Беларусі, якія вызнавалі сябе расейцамі. Але яны ніколі не былі ўплывовай сілай сярод беларускай грамады. Для Беларусі яны амаль нічога не зрабілі.

**— Ты сам належаў да якіх-небудзь партый ці рухаў?**

— А як жа! Я — рэспубліканец. Шмат гадоў галасую за прадстаўнікоў гэтай партыі на выбарах. Але калі трэба было рэпрэзентаваць Беларусь, я хадзіў на мітынгі да дэмакратаў і ўзнімаў там беларускія пытанні. Мая палітычная дзейнасць як сябра рэспубліканскай партыі абмяжоўвалася толькі ўдзелам у галасаванні, а рэшта майго жыцця аддадзена беларускім справам.

**— Скажы, ці верыў ты ўсе гэтыя гады эміграцыі, што Беларусь стане вольнай і незалежнай?**

— Надзея такая была. Бо я ведаю, што нічога сталага на свеце няма, асабліва імперыі. Прыйдзе час і яна рухне. Так і здарылася. Але калі мы бачылі, што Беларусь нішчыцца ў самой Беларусі, то гэта нам абыходзіла. Гэта ў многім вызначала і шляхі і метады нашай дзейнасці. Мы любымі шляхамі хацелі заявіць свету пра Беларусь. Выкарыстоўвалі для гэтага малейшую магчымасць. Напрыклад, у 1969 годзе ў Канадзе была выстава «ЭКСПО-69». Мы дачуліся, што ў рамках праграмы СССР будзе дзень Беларусі. Туды з'ехалася досыць шмат беларусаў-эмігрантаў. І праўда, была там афіцыйная дэлегацыя Беларусі, выступаў хор Жыновіча, была разгорнута кніжная выстава. Яе абслугоўваў Лявон Яўменаў. Ён да нас паставіўся вельмі прыхільна. У адзін з дзён прыйшоў на выставу Станіслаў Станкевіч. Прадставіўся не сваім прозвішчам, а нейкім Сеўруком ці Сідаруком. Пачаў гаварыць з Яўменавым і вельмі зацікавіў яго сваёй дасведчанасцю ў падсавецкай літаратуры. І той, не ведаючы, хто перад ім у сапраўднасці, вырашыў пазнаёміць яго з Максімам Танкам, які быў у складзе беларускай дэлегацыі. Падводзіць Танка да Станкевіча і кажа: будзьце знаёмы. Яны глянулі адзін на аднаго. Танк кажа: здароў, Стась. А Стась у адказ: здароў, Яўген. І разышліся. А Яўменаў ажно рот разявіў: гэта ж той Станкевіч, якога саветы патрабуюць у Амерыкі, як ворага народа. Назаўтра мы прыйшлі на выставу, а Яўменаў кажа: учора мне дзве свінні падлажылі. Адну — Максім Танк, а другую — Станіслаў Станкевіч. Станкевіч пасля расказваў, што хацеў пагаварыць з Танкам, але не рашыўся першым чапаць яго, каб не прычыніць прыкрасці. Бо маглі б сказаць Танку: як ты мог размаўляць са здраднікам? Так яны і разышліся моўчкі. Станкевіч быў цікавым чалавекам. Нейкім чынам ён трапіў на беларускі прыём. Быў там і Ціхан Кісялёў, тагачасны Старшыня Савета Міністраў БССР. Ці ведаў ён што пра Станкевіча, ці не — невядома. Але здарылася так, што Стась на тым прыёме падымаў тост за вольную Беларусь. І Кісялёў таксама піў за яго тост.

На той выставе быў яшчэ адзін выпадак, пра які пісалі ва ўсім свеце. Канадскае тэлебачанне вяло трансляцыю адкрыцця савецкага павільёна. У самы ўрачысты момант, калі ўсе віталі нейкага высокага савецкага ўрадоўца, пачаўся вэрхал, і над галовамі паляцелі ўлёткі... Тэлебачанне з таго ўрадоўца перакінулася туды, дзе крычалі, і пачало паказваць нейкага чалавека ў капелюшы. Гэта быў Кастусь Акула. Ён раскідаў антысавецкія ўлёткі. Акулу арыштавалі, а мы віталі яго як нацыянальнага героя. Бо такім чынам ён імкнуўся прыцягнуць увагу сусветнай супольнасці да праблем Беларусі.

**— Тая акцыя Кастуся Акулы атрымала шырокую прэсу і на бацькаўшчыне. Яго ўчынак назвалі «происком белорусских националистов»...**

— Так, з таго шуму толк быў. Людзі хоць даведаліся, што на Захадзе ёсць беларусы, якім неабыякавы лёс сваёй радзімы. Да нас падыходзілі канадцы і выказвалі падтрымку.

**— Спадар Сяргей, ці былі сярод вашых прыхільнікаў людзі іншых нацыянальнасцей?**

— Так! Доўгі час у нас быў святаром казак. Добрыя адносіны з украінцамі. Шмат амерыканцаў вельмі прыхільна ставяцца да нашай царквы. У зале амаль кожную нядзелю праходзяць амерыканскія вяселлі. Але найбольш прыхільнікаў сярод эмігрантаў. Асабліва на першых часах. Шмат небеларусаў па крыві прысвяцілі сваё жыццё беларускай справе. Наталля Арсеннева — руская, але хто глыбей перадаў адчуванні і думкі беларускай душы, чым яна? Унікальны выпадак. Кампазітар Эльза Зубковіч таксама небеларускага паходжання, а працавала на беларускай музычнай ніве. Нават у Амерыцы выйшаў зборнічак яе песень на беларускай мове — «Край васільковы». Яе дачка некалі спявала на беларускіх урачыстасцях у Нью-Йорку. Мікола Куліковіч паходзіў са Смаленшчыны і многія закідалі, што ён не беларус. Але больш беларускага кампазітара я не ведаю. Ён ствараў менавіта беларускую музыку і песню.

**— Наколькі я ведаю, у цябе былі добрыя сяброўскія адносіны з Куліковічам?**

— Прафесар Куліковіч быў актыўным сябрам беларускай грамады ў Кліўлендзе. Пры яго ўдзеле тут быў створаны спачатку мяшаны, а пазней жаночы хор — царкоўны і свецкі. Адзін час я нават там спяваў. Куліковіч адчыніў у Кліўлендзе беларускую музычную школку, праз якую прайшлі дзеці многіх эмігрантаў. Тут жыла яго жонка — Надзея Градэ. Да вайны яна была салісткай Кіеўскай оперы і карысталася тут пашанай. Куліковіч з Градэ выступалі не толькі сярод беларусаў. Іх пастаянна запрашалі да сябе сербы, палякі, украінцы, рускія. Разам з Барбарай Вержбаловіч Надзея Градэ найграла некалькі кружэлак. Вельмі папулярнымі былі песні Куліковіча — «Васількі», «Ты прыйдзі...», «Я ад вас далёка», «Вяснянка» і іншыя. Без іх не абыходзілася ні адна імпрэза. А пазней іх пачаў спяваць і па-новаму запісаў на кружэлкі і касеткі Данчык. Мала хто ведае, што Куліковіч быў прыяцелем Янкі Купалы. Неаднойчы сустракаўся з ім. Шмат вершаў беларускага песняра ён паклаў на музыку. На эміграцыі ён актыўна супрацоўнічаў з Наталляй Арсеневай. Мы з задавальненнем спявалі іх песні.

**— Некаторыя з іх таксама запісаны на кружэлкі. У цябе унікальны збор беларускіх кружэлак, выдадзеных на эміграцыі. Мабыць, ёсць усё, што калі-небудзь выдавалася ў свеце?**

— Я вельмі люблю беларускую песню. Праз усё жыццё збіраў усё, што мог. Шмат выслаў у Аўстралію спадарам Раецкаму і Качану, якія вядуць там беларускія праграмы радыё. У маім зборы кружэлкі, якія былі накручаны ў Саўт-Рыверы, Чыкага /дарэчы, Куліковіч жыў там пасля Кліўленда/, Лювэне, Кліўлендзе, Беластоку, Таронта. Маю рэдкую кружэлку хору «Жалейка», які беларусы арганізавалі ў Манрэалі. Хор быў выдатны. Асабліва саліст — Павел Чопчыц. Яго канцэртны псеўданім — Паўлік. Яны прыязджалі на гастролі ў Нью-Йорк, а да нас, на жаль, не даехалі. Засталася толькі адна кружэлка іх песень, бо хор неўзабаве распаўся. Іх ведалі і ў Канадзе, і ў Амерыцы. Думаю, прыйдзе час, калі тыя песні пачуюць і ў Беларусі.

**— Магчыма, іх заспяваюць яшчэ і ў Кліўлендзе. Зараз тут шмат добрых спевакоў і музыкаў — і Валянціна Пархоменка, і Алесь Казак, і Федзя Паўлавец...**

— Добра было б. Я ім казаў ужо, што мы нават маглі б выдаць іх песні. Хай толькі спяваюць.

**— У цябе надзея на новых эмігрантаў? Цяпер іх чарга працягваць беларускую справу ў Амерыцы...**

— Іх мала. Доўгі час з Беларусі ўвогуле не было ніякай эміграцыі. Я маю на ўвазе беларускай. Вырываліся хіба што адзінкі. Цяпер мы дамагаемся, каб амерыканцы далі Беларусі квоту на эміграцыю ў ЗША. Калі ў майго пакалення прычыны, па якіх мы вымушаны былі пакідаць бацькаўшчыну, былі палітычныя ці рэлігійныя, то цяпер людзі проста хочуць лепш жыць. Беларускі асяродак у Кліўлендзе за апошні час папоўніўся некалькімі сем'ямі. Мы стараемся падтрымаць іх на першым часе. Нядаўна прыехала сям'я Петраўцоў са Століншчыны. Яны беларускія баптысты. Сюды пераехаў ужо ўвесь іх вялікі род. І хоць у іх іншая вера, мы падтрымліваем зямляцкія адносіны, дапамагаем. Сёння нашы позіркі скіраваны больш на Беларусь, пакалечаную Чарнобылем. Мы ўжо прымалі ў Полацаку беларускіх дзяцей з той страшнай зоны. Пастаянна збіраем і адпраўляем туды гуманітарную дапамогу і лекі. Царква Жыровіцкай Божай Маці апякуецца Раманам Дзільдзіным, — трохгадовым хлопчыкам з Гомеля, які прыехаў разам з маці на лячэнне. Па дамоўленасці з Кліўлендскай клінікай мы забяспечылі яму ўтрыманне на ўвесь час лячэння. Раман пакрыху дужэе і, дасць Бог, хутка паправіцца, Мы яго тут вельмі палюбілі. Лёс гэтага цудоўнага хлопчыка вельмі падобны на лёсы сотні дзяцей , на лёс самой Беларусі.

**— Спадар Сяргей, цяпер твае падарожжы на Беларусь маюць канкрэтную мэту: арганізацыя дапамогі ахвярам чарнобыльскай бяды...**

— Так, і ў гэтым плане мы супрацоўнічаем не толькі з беларускімі арганізацыямі, але, і ў першую чаргу, з амерыканскімі дабрачыннымі фондамі. Мы імкнёмся, каб іх дапамога даходзіла да канкрэтных людзей, каб яна рабіла іх жыццё хоць крыху лягчэйшым.

**— Апошнія тры-чатыры гады ты кожнае лета бываеш на бацькаўшчыне. Ці пабольшала Беларусі ў Беларусі?**

— Цяжка сказаць. Але нашы газеты падаюць, што камуністычны рэжым сёння існуе на Кубе, у Паўночнай Карэі і на Беларусі...

**— І ты гэта адчуваеш, калі прыязджаеш у Менск?**

— Я бачу, што адбываюцца вялікія змены. Людзі вяртаюцца да памяці, да царквы. Гэта добра. Але да сапраўднай беларускай краіны яшчэ далёка. Я вельмі здзівіўся, калі пачуў, што жонкі некаторых дзеячаў БНФ размаўляюць па-расейску. На трыбуне адно, а ў жыцці другое... Так нічога не будзе. Я не кажу ўжо пра ўрад і Вярхоўную Раду. Там дзіўныя людзі. Такое ўражанне, што Беларусь ім і непатрэбна, што яны жывуць у нейкай іншай краіне. Зразумела, тое, што тварылася на Беларусі на працягу 70-ці гадоў, за год ці два не растворыцца, не знікне. За год ці за два новую дзяржаву пабудаваць нельга. Гэта зойме шмат часу. Можа, 20 гадоў, можа, болей. Покуль Беларусь не стане моцнай краінай, з якой будзе лічыцца ўвесь свет. Беларуская ідэя можа аб'яднаць нацыю, вывесці народ на шлях свабоды і дэмакратыі, да эканамічнай і палітычнай стабільнасці. У гэтым гарантыя нашай вольнасці і незалежнасці. Пра такую краіну я мару ўсё сваё жыццё!

**Гутарыў**
**Леанід ПРАНЧАК.**

*Стронгсвіл, ЗША*

# АДНА З ЗАРАНАК АДРАДЖЭННЯ

## ДА 100-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЛЕАНІЛЫ ЧАРНЯЎСКАЙ

Адраджэнскія працэсы, што адбываліся на Беларусі ў пачатку дваццатага стагоддзя і пазней, далі нямала выдатных жанчын, якія сваё жыццё і талент прысвяцілі служэнню народу, клопатам аб яго светлай будучыні: Цётка /знакамітая Алаіза Пашкевіч/, Зоська Верас, Паўліна Мядзёлка... У гэтым спісе годнае месца займае і Леаніла Чарняўская. Пра яе, на жаль, мы ведаем значна менш, чым пра іншых. А яна ж заслугоўвае ўвагі і пашаны ўжо хоць бы таму, што была жонкай нашага выдатнага пісьменніка, класіка нацыянальнай літаратуры Максіма Гарэцкага, дзяліла разам з ім турботы нялёгкага і няпростага жыцця, і нягоды, якія выпалі на долю яе самой і сям'і пасля арышту і высылкі мужа.

Яна ж і маці Леаніда Гарэцкага, таленавітага юнака, які загінуў у гады Вялікай Айчыннай вайны, пакінуўшы пасля сябе дзённікавыя запісы, свайго роду працяг бацькавага твора «На імперыялістычнай вайне», але, як кажуць, зусім у іншых абставінах пісанага.

Урэшце, Леаніла Усцінаўна была цудоўным выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры. У 1910 годзе яна скончыла ў Вільні Вышэйшае Марыінскае вучылішча і да 1918 года настаўнічала ў вёсцы Залессе на Дзісеншчыне, а з 1919-га па 1923 год працавала ў Першай Беларускай гімназіі ў Вільні, даючы ўрокі роднай мовы.

На гэты час прыпадае і пачатак яе літаратурнай дзейнасці. Ужо ў 1919 годзе, таксама ў Вільні, пабачыў свет складзены Л. Чарняўскай зборнік «Дзяціныя гульні». Тады ж Леаніла Усцінаўна працавала над стварэннем чытанак «Родны край». Усяго выйшла тры кнігі — для першага, другога, трэцяга і чацвёртага класаў. Чытанкі гэтыя неаднаразова перавыдаваліся.

Пасляхова выступала Л. Чарняўская і ў галіне прозы. Дарэчы, у згаданых чытанках змешчаны і яе арыгінальныя творы. Асабліва плённым стаў для яе 1930 год, калі ў Мінску адна за адной з'явіліся ажно чатыры «дарослыя» кнігі прозы: «Апавяданні», «Валуй — камісар часоў Керанщчыны», «Падарожніца», «Бяздзетуха». У гэтым жа годзе выйшла і кніжка для дзетак «Андрэйка», а раней — «Варка» /1928/, «Кот Знайдзён» /1929/...

У 1932 годзе Л. Чарняўская вымушана была развітацца з Беларуссю, паехала ўслед за мужам у Вятку, дзе працавала выхавацелькай у дзіцячым садзе, а затым — у пасёлку Пясочнае Калужскай вобласці. З 1947-га ж года да самай смерці /не стала Леанілы Усцінаўны 26 верасня 1976 года/ жыла ў дачкі Галіны ў Ленінградзе. Апошнім часам, праўда, пісала мала, ды і выдавецтвы, цяпер ужо у далёкім Мінску, больш звярталі ўвагі на новых аўтараў. Аднак Л. Чарняўская ўсё ж змагла ў 1960 годзе выпусціць кніжку «Жук».

Сучаснаму чытачу творчасць Л. Чарняўскай вядома хіба што па кніжках «Казёл Мэка і Кудла» /1979/ і «Апавяданні» /1983/, якія пабачылі свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура».

Леаніла Усцінаўна шмат працавала і ў галіне перакладу. Дзякуючы ёй па-беларуску загучаў яшчэ ў 1934 годзе такі выдатны твор, як «Тыль Уленшпігель» Ш. дэ Кастэра.

І ўвогуле Л. Чарняўская была чалавекам усебакова таленавітым: цудоўна спявала, хораша вышывала. Дык прыгадайма яе, адну з заранак нашага Адраджэння: якраз у гэтыя лістападаўскія дні ёй споўнілася б 100 гадоў.

**Т. Т.**

